# Наш Край

## Штомесячнік Ц. Б. Краязнаўства пры Інстытуце Беларускай Культуры





2-3 (5-6) 1926 г. Люты-Сакавік



Менск



Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# НАШ КРАЙ



ШТОМЕСЯЧНІК

## Цэнтральнага Бюро Краязнаўства

ПРЫ

## ІНСТЫТУЦЕ БЕЛАРУСКАЕ КУЛЬТУРЫ

№ 2-3 (5-6) Люты—Сакавік 1926

ВЫДАНЬНЕ
Інстытуту Беларускае Культуры
МЕНСК—1926



Д. Васілеўскі.

# Сталецьце краязнаўчай працы на Беларусі.

Сетка краязнаўчых організацый усё гусьцей і гусьцей ахапляе абшары Савецкай Беларусі. Раённыя таварыствы, краязнаўчыя гурткі растуць з кожным днём. Але спадчына мінулага выхаваньня прыціскае спачатку кожнае краязнаўчае таварыства, кожнага краязнаўцу. Міжвольна думкі ідуць назад, у мінулае. Так ужо звыклі думаць, што краязнаўства гэта гісторыка-археолёгічнае дасьледваньне краю, вывучэньне яго мінулага. А за гэтым нашы краязнаўцы жаляцца на недахоп літаратуры і, асабліва, ведаў аб працы па дасьледваньні Беларусі ў мінулым. Звычайнай зрабілася скарга, што Беларусь зусім не дасьледваная старонка, што на Беларусі няма каштоўнасьцяй культуры, багацьцяў, прыгожасьці прыроды.

„Невясёлая старонка наша Беларусь“—жаліцца наш народны поэта. Невялічкі час працы над запраўдным вывучэньнем бацькаўшчыны ўпэўнівае нас у тым, што мы смуткуем толькі з прычыны сваёй несьвядомасьці: уся бяда ў тым, што мы самі зусім мала ведаем Беларусь і беларуса. Здараецца так, што пакуль краязнаўцы скардзяцца на недахоп друкаваных крыніц,—найкаштоўнейшыя кнігі пра Беларусь стаяць на паліцах бібліотэк, пад пылам даўных гадоў.

Кожны краязнаўца павінен ведаць краязнаўчую працу сваіх папярэднікаў. Але да нашых часоў ня было такое ўстановы, каторая падбала-бы аб згуртаваньні і падагульваньні ўсяе краязнаўчае працы мінулага. Толькі цяпер Інбелкульт значна пасунуў гэтую справу наперад дапамагае ў гэтым краязнаўцам.

Гісторыя краязнаўства на Беларусі непадзельна зьвязана з разьвіцьцём у нас капіталізму.

Рост гандлёвага капіталу на Беларусі ў XVI-XVII сталецьцях нарадзіў і пакінуў нам у спадчыну ня толькі апісаньні гарадоў, інвэнтары замкаў, а і попісы пушчаў, бабровых гонаў, рыбных ловаў і інш. Пасьля культурнага заняпаду XVIII сталецьця Беларусь пачала адраджацца. Папярэдзе нашага адраджэньня йшло экономічнае адраджэньне Польшчы і Маскоўшчыны. Вынікам узросту ў іх прамысловага капіталу было шуканьне новых рынкаў, а адсюль нараджаецца іх цікавасьць да Беларусі. У XIX сталецьці йдзе бязупыннае прыгляданьне да беларуса з боку палякаў і расійцаў. Але пад уплывам чужаземнага капіталу на Беларусі адбываецца нараджэньне мясцовага капіталу, які спачатку па-

срэднічае, трымаецца за свайго больш моцнага суседа. А ў зьвязку з гэтым узьнімаюцца да ўдзелу ў культурным жыцьці розныя слаі насельніцтва Беларусі. Яны орыентуюцца то на Маскву, то на Варшаву ў залежнасьці ад перамогі на нашых рынках таго ці іншага капіталу, а па ўзмацненьні беларускай прамысловасьці пачынаюцца спробы вызваліцца ад апекі, занова пабудаваць родную культуру.

Барацьба польскага і расійскага капіталу йдзе праз усё XIX сталецьце і ясна адбіваецца на кірунку краязнаўчае працы на Беларусі. Каронная Польшча йшла паперадзе ў разьвіцьці свайго прамысловага капіталу. Панства, каталіцкае духавенства былі яго стараннымі наймітамі; маёнтак, кляштар, старадаўны замак—апорнымі пунктамі; мэтай дзейнасьці—уласная дзяржава. Думкі панства аб адбудаваньні Рэчы Паспалітай адбіліся ў працах польскіх вучоных, асабліва профэсараў Віленскага унівэрсытэту. Шырыцца сярэдняя польская школа на Беларусі. Узьнімаецца на ногі беларуская шляхта і сярэдняя буржуазія. Дзеці іх выхоўваюцца ў польскай школе. Польшча апанавала іх розум, але карэньне быту шляхты глыбока паўрастала ў глебу Беларусі. Літва і Беларусь прыцягваюць іх болей да сябе, чым Польшча. Выхаваныя ў польскай школе прадстаўнікі шляхты зрабіліся мяшанцамі: „беларусамі, ліцьвінамі з паўночна-ўсходніх крэсаў Польшчы“. Гэта падваеньне сьвядомасьці пакінула вялікі сьлед на працы вучоных таго часу. Працы вучоных з шляхты—гэтае праслойкі паміж польскім панствам і беларускім мяшчанствам—адразу разышліся па дзьвёх сьцежках—вывучэньня „слаўнага мінулага Рэчы Паспалітай“ і апісаньня Беларусі, як часткі Вялікага Княства Літоўскага. Розныя таварыствы і патаемныя гурткі моладзі па школах прасякаюцца мясцовымі інтарэсамі, шукаюць мясцовы матар‘ял. Утвараюцца таварыствы з мэтамі дасьледваньня Беларусі і паляпшэньня дабрабыту сваіх членаў. Так пад пераважным уплывам польскасьці праходзіць першая палова XIX сталецьця на Беларусі. Краязнаўства гэтага часу адбівае на сабе інтарэсы і надзеі польскіх паноў.

Першым па часе заснаваньня краязнаўчым таварыствам на Беларусі зьяўляецца „Беларускае Вольна-Экономічнае Таварыства ў Віцебску“. Яно было заложана 9 студзеня 1826 году панствам Беларускага генэрал-губарнатарства. У склад яго ўваходзілі паны Віцебскае і Магілеўскае губэрні. Загад да організацыі даў беларускі мужык, які не жадаў цярпець панскі цяжар і рупна працаваць на карысьць свайго пана, а бунтаваў.

Патурбаваны сялянскім непакоем генэрал-губарнатар князь Хаванскі яшчэ ў 1824 годзе пісаў цару, што адзінай мерай да ўздыму краю ў лепшы стан і паляпшэньня цяжкага палажэньня сялян ёсьць утварэньне „Вольна-Экономічнага Таварыства“[1]). Па згодзе царскага ўраду Хаванскі прапанаваў дваранскім сходам Віцебскай і Магілеўскай губэрань абгаварыць пытаньне аб організацыі таварыства з мэтамі паляпшэньня сельскае гаспадаркі і рамясла на Беларусі. Аднačасна з гэтым прапанавалася панскім маршалкам організаваць камісіі для выпрацоўкі статуту таварыстваў.

Спачатку панства распрацавала два статуты: для Беларуска-Віцебскага і Беларуска-Магілеўскага Вольна-Экономічнага Таварыства. Статут Магілеўскага Таварыства найбольш яскрава паказвае надзеі панства:

---

[1]) Арх. фонд Бел. Вольна-Экон. Т-ва ў Віцебск. архіве, справа № 1, за 1824 г.

„Мэта таварыства:

1) зацьвердзіць на трывалай аснове сельскую гаспадарку і дамаводзтва;

2) палепшыць земляробства і прамысловасьць;

3) зьвярнуць асаблівую ўвагу на вывучэньне глебы і яе ўрадлівасці, запазычаючы лепшыя спосабы апрацоўкі з практыкі і агрономіі;

4) будаваць запасныя збожжавыя магазыны;

5) ахоўваць і развадзіць лясы, весьці правільна лясную гаспадарку;

6) клапаціцца аб карысьці сялян, пабудове лепшых хат, разьвядзеньні быдла і інш.;

7) выводзіць правілы ашчаднасьці, найбольш адпаведныя для посьпехаў гаспадаркі, прамысловасьці, а таксама адпаведныя звычаям сялян;

8) выкараняць шкадлівыя ўплывы яўрэяў на сялян і пасяляць дух моральнасьці, стараннасьці і працавітасьці;

9) адшукваць усе карысныя спосабы паляпшэньня стану тэй шляхты, якая не давяла свайго шляхецкага пахаджэньня, даючы ёй сродкі да паляпшэньня свайго дабрабыту“ [1]).

Клясавы падыход да ўсяе краязнаўчае справы відаць тут у кожным радку гэтага статуту. К 1826 году з двух статутаў быў выпрацаваны адзін, у якім дваранскія інтарэсы таксама ясна відаць. Першы разьдзел [2]) статуту ўжо „Беларускага Вольна-Экономічнага Таварыства“ гаворыць так: „Мэта таварыства—у паляпшэньні сельскае гаспадаркі і дамаводзтва на Беларусі. Сродкамі да гэтага павінны быць:

1) нагароды за здавальняльнае разьвязаньне задач, якія ставіць сабе т-ва, а таксама за завядзеньне новае сыстэмы гаспадаркі па навучэньні таварыства; за адшуканьне і паляпшэньне спосабаў вядзеньня тых ці іншых галін гаспадаркі Беларусі, як земляробства, сельскай прамысловасьці, гадоўлі жывёлы і рамёстваў;

2) правяраць досьледамі правілы, якія прызнаны карыснымі ў гаспадарцы Беларусі;

3) паведамляць панства Беларусі аб тым, што таварыства знойдзе карысным у гаспадарцы“.

Для правядзеньня досьледаў царскі ўрад аддаў таварыству пад эксплёатацыю цэлае Караваінскае староства ў 15 вярстах ад Віцебску. Такім чынам, на карысьць панскага краязнаўства было ўсё: увага ўраду, дзяржаўныя сяляне, грошы і паны.

У 1828 годзе ўзьнялося пытаньне аб організацыі дасьледчага фальварку, бо ставіць досьледы ў цэлым старостве было таварыству не пад сілу. У наступным годзе фальварак Залучосьсе быў куплены ў пані Кахоўскай. Там таварыства завяло шматпольле, травазасеў, штучнае ўгнаеньне—нямецкі выраб зямлі. Архіўны фонд мае дзьве справы ад 1827 і пазьнейшых гадоў з прапановамі розных плянаў і спосабаў паляпшэньня сельскае гаспадаркі (праз засеў бульбы). Панскае дасьледчае земляробства цяжка абышлося сялянам Караваінскага староства, і ў справах Віцебскага архіву ёсьць скаргі сялян на бязьлітасную эксплёатацыю.

---

1) Справа № 1 арх. фонду Бел. В.-Э. Т-ва ў Віцебску.

2) Ibidem.

Таварыства праіснавала да 1843 году XIX сталецьця. Ужо ў 1828 г. ў таварыстве зараджаецца думка аб адчыненьні пад Віцебскам сельска-гаспадарчае школы. Думка гэта спраўдзілася ў 1830 годзе[1]) адчыненьнем у фальварку сельска-гаспадарчай школы. Клопаты панства перад царскім урадам аб адчыненьні на Беларусі земляробскае школы высунулі проект арганізацыі земляробскага вучылішча ў Горках, якое было адчынена ў 1840 годзе.

Другім вынікам дзейнасьці Беларускага Вольна-Экономічнага Таварыства было выданьне ў 1841 годзе першага краязнаўчага зборніку пад назвай „Летопись Белорусского Общества сельских хозяев“. Кніга надрукавана ў Пецярбурзе. Гэтая невялічкая кніжачка ў 128 старонак зьмяшчае статут таварыства і паведамляе панства аб тым, што карыснага знойдзена ў сельскай гаспадарцы: апісаньне плуга, прыдуманага сакратаром таварыства Гюбенталем, аб шкодзе пасяленьня сялян малымі вёскамі, аб вольным „винокурении“ (браварніцтве), а самы цікаўны артыкул—„Флора Витебской губернии“. З гэтага часу друкаваньне прац па краязнаўству шырака распаўсюдзілася па Беларусі. Некаторыя з гэтых прац каштоўны сваім фактычным матар'ялам і для нас, але, карыстаючыся імі, трэба памятаць іх грунтоўную мэту. Шмат цікаўных краязнаўчых матар'ялаў раскідана па старонках тагочасных польскіх часопісаў, друкаваных у Вільні: „Athenaeum“ І. Крашэўскага, „Rubon“ К. Буйніцкага, „Tygodnik, Teka Wilenska“ А. Кіркора. Вільня зрабілася асяродкам, каля якога групаваліся сілы краязнаўцаў таго часу. Дзейнасьць выхаванцаў Віленскага унівэрсытэту адчувалася шмат гадоў пасьля зачыненьня яго царскім урадам. Працы іх ідуць па двух кірунках з мэтай дасягненьня задач, якія ставіў сабе ў нашым краі польскі прамысловы капітал—абхапіць рынкі Беларусі і захапіць мінулай вялікасьцю і пышнасьцю Рэчы Паспалітай. Польскія вучоныя апісваюць гістарычнае мінулае гарадоў, замкаў, кляштараў, экономістыя бяруцца за падрабязнае апісаньне паветаў і розных мясцовасьцяй.

Гістарычныя працы польскіх вучоных характарызуюцца працамі: Ю. Бандтке („Historya drukarn w królewstwie Polskiem i Wielkiem Xięstwie Litewskiem“, Krakow, 1815), гісторыяй школ, касьцёлаў Ю. Лукашэвіча (1799-1873) („Dzieje kościolow wyznania helweckiego na Litwie“, 2 т., 1844. „Historya szkół w Koronie i w W. X. Litewskiem“, 4 т., Вільня, 1844-1851 г.), гісторыяй места Вільні—І. Крашэўскага („Wilno od początków jego aż do roku 1750, 4 т.“, Вільня, 1838-1840 г.). Нарбут у „Dzieje starożytne narodu Litewskiego“, якія вышлі з друку ў Вільні на працягу 1835 да 1848 году ў 9 томах, кладзе новую баразну краязнаўчае працы на Беларусі. Нарбут захапіўся мінулым Беларуска-Літоўскае дзяржавы. Дробная беларуская шляхта ўхапілася за этнографічныя досьледы Беларусі. Вядомыя зборнікі народных песень Я. Чачота, А. Рыпінскага, Я. Баршчэўскага ўзьвялі прадстаўнікоў шляхты на шлях гісторыі беларускай літаратуры і культуры. Праца Яна Баршчэўскага „Szlachcic Zawalnia, czyji Białorus w fantastycznych opowiadaniach“ (Petersburg. 1844-1846 г.) характэрна для прадстаўніка беларускай шляхты. Тут польскага ў кнізе—адзіная толькі мова, а зьмест і колёрыт—беларускія. Гэтыя пісьменьнікі з беларускай шляхты друкаваліся і ў расійскіх часопісах. Творы Я. Баршчэўскага, Друцкага

[1]) „Дело № 13 об открытии при образцовом хуторе земледельческой школы“. 29/XI—1828 г. (Віцебск. архіў).

Падбярэскага,—друкаваліся і ў часопісе „Rocznik Literacki" і ў часопісе „Иллюстрация" за 1846, 1848 г.г.

Прадстаўнікі буйной шляхты заняліся апісаньнем паасобных паветаў і гарадоў з іх помнікамі старасьветчыны. Тыповым выданьнем гэтага роду зьяўляецца „Opisanie powiatu Borysowskiego pod względem statystycznym, geognostycznym, historycznym, gospodarczym, przemyslowo-handlowym i lekarskim"... Wilno 1848, складзенае пад кіраўніцтвам гр. А. Тышкевіча. Гэтая кніга зрабілася ўзорам падобных выданьняў у расійскай этнографічнай літаратуры. Пазьней вышлі апісаньні Бельскага павету, Горадзенскай губэрні—І. Ярашэвіча („Статистико-этнографические сведения о Бельском уезде, Гродненской губернии", Гродн. губ. Ведомости. 1848 г.. №20—22), Кобрынскага павету, тэй-жа губэрні—І. Крашэўскага („Kilka zarysów z życia ludu wiejskiego w Kobrynskiem..." Athenaeum. 1850 г., ч. IV). Пінскага павету—Мошынскага і гораду Менску—Сыракомлі. (Mensk. Teka Wilenska. 1857 г., № 1, 2).

Агульныя нарысы Літвы і Беларусі дадзены ў III томе „Starożytna Polska. Pod względem historycznym, geograficznym i statystycznym opisana". (Варшава 1843-1850 г.). М. Балінскага (1794-1863 г.) і ў кнізе Ярашэвіча „Obraz Litwy pod względem jej oświaty i cywilizacyi od czasów najdawniejszych do konca XVIII wieku". Wilno. 1844-45. Вось у гэтых працах выразіліся думкі польскіх краязнаўцаў першай паловы XIX сталецьця на Беларусі. Іх погляд на Беларусь, як на старую польскую провінцыю, павінен быў сустрэць адпор тае часткі людносьці Беларусі, якая орыентавалася на Маскву і была пад уплывам расійскага гандлёвага капіталу. Такімі коламі насельнікаў Беларусі былі: мяшчане і духавенства праваслаўнага вызнаньня.

Паўстаньне 1831 году стрымала моц наступу польскай культуры на беларуса, але, побач з гэтым, павялічыўся ўціск беларускае культуры з боку царскага ўраду. Злучэньне вуніяцкае і праваслаўнае царквы павяло к зьніштажэньню багацьцяў беларускай культуры, выяўленай у прадметах вуніяцкага культу.

Побач з ростам экономічнага дабрабыту маёнткаў узмацняецца наш горад. У літаратуры сталі зьяўляцца выхадцы з мяшчан і духавенства Беларусі, распачала сваю краязнаўчую працу гандлёвая Беларусь, але, па сваёй пасярэдніцкай сутнасьці, яна адразу пацягнулася па двух шляхох—і на Пецярбург, і на Варшаву. Падвойнасьць прыроды пасярэдніцкага капіталу адбілася на характары краязнаўчых досьледаў прадстаўнікоў дробнае буржуазіі Беларусі. Большасьць іх далучылася да маскоўскага капіталу, і шэраг дасьледчыкаў гісторыі і фольклёру Беларусі пачынаецца асобай папа Яна Грыгаровіча, які выдаў у 1824 годзе, пры дапамозе князя Румянцава, зборнік „Белорусский архив древних грамот". (Москва, ч. I), а трохі пазьней „Словарь западно-русского языка". (М. 1829 г.). Дзейнасьць духавенства ў вывучэньні Беларусі і давядзеньні думкі аб падобнасьці „Северо-западного края" да Масковіі—не выпадковая для людзей гэтага стану. Пасьля скасаваньня вуніі, маскоўскі гандлёва-прамысловы капітал, на чале з царом, даваў ім моц і паляпшаў іх дабрабыт. Трэба было за гэта давесьці, што „праваслаўны" рускі селянін з Беларусі падобен да маскаля ня толькі па вызнаньні, а і па мове. З 40-х гадоў пачалося выданьне старадаўных актаў, грамат цэркваў, манастыроў, гарадоў, на якіх можна-б давесьці падабенства. Аб мове беларуса выдаўцы маўчалі, ці называлі яе „стара-рускай". Да такіх выданьняў можна аднесьці: „Собрание древних грамот и актов городов Вильно, Ковно,

Трок, православных монастырей, церквей по разным предметам". (Вільня, 1843 г.) і пазьнейшыя выданьні гэтага роду. Палякі не здаваліся: яны таксама займаюцца выданьнямі беларускіх старадаўных грамат, але, каб упэўніць чытача ў пераважнасьці польскай мовы на Беларусі, заведама псуюць свае выданьні, перакладаючы граматы з беларускай на польскую мову. Такі характар маюць: „Skarbiec dyplomatòw papiezskich, cesarskich, królewskich, książęcych; uchwał narodowych, do wyjaśnienia dziejòw Litwy, Rusi litewskiej". (2 т., Вільня. 1860—62 г.) Даніловіча.

У палове XIX сталецьця Беларусьсю цікавіцца вайсковае міністэрства царскага ўраду, як мажлівым тэатрам вайны; пачалася паласа вайсковых досьледаў Беларусі; пачаткам яе можна лічыць выданьне вядомай кніжкі ген. М. Бэз-Карніловіча „Исторические сведения о примечательнейшых местах в Белоруссии с присовокуплением и других сведений к ней же относящихся". Кніга гэтая, надрукаваная ў 1855 годзе друкарняй „III отд. собст. ЕИВ канцелярии", сымболічна адзначыла цэлы шэраг досьледаў Беларусі ў моцных кіпцёх расійскага арла, палітычныя мэты гэтых дасьледчыкаў далёка не адводзілі іх ад царскае „ахранкі".

Кніжка Бэз-Корніловіча дае досыць поўны агляд гісторыка-экономічнага жыцьця гарадоў і мястэчак Віцебскай і Магілеўскай губэрань, вядомых у тыя часы пад назвай „Белоруссии". Кніжка Бэз-Карніловіча зрабілася першаўзорам і зрабіла значны ўплыў на пазьнейшыя выданьні расійцаў аб Беларусі. Гістарычныя весткі Бэз-Карніловіча проста перадрукоўваліся пазьнейшымі выдаўцамі. Так, на старонцы 196 сваёй кнігі Бэз-Карніловіч дапусьціў памылку аб месцы бойкі беларусаў з маскалямі ў 1514 годзе: „8 верасьня ў $2^1/_2$ вярст. ад Воршы, на левым беразе Дняпра, між вёскамі Горадняю і Антовілем, пры р. Крапіўне адбылася генэральная бойка". Праўда, бойка была на р. Крапіўне, але вёскі Горадня і Антовіль, паказаныя Бэз-Карніловічам, ляжаць на правым беразе Дняпра, (а Крапіўна ўпадае ў Дняпро з левага боку). Пазьнейшыя выдаўцы кніг аб Беларусі так і пашлі пераказваць памылку Бэз-Карніловіча: А. Кіркор і П. Сямёнаў у III томе „Живописной России" (413 ст.) і Дамбавецкі на 97 стар. II тома „Описания Могилевской губ." 1882 г.

Пасланыя на Беларусь афіцэры генэральнага штабу пільна працавалі і з 60-х гадоў пачалі зьяўляцца ў друку іх „труды" пад агульнай назвай „Материалы для географии и статистики белорусских губерний". Віленская, Горадзенская, Менская, Смаленская губэрні апісаны добра афіцэрамі генэральнага штабу, а для Віцебскай і Магілеўскай губэрань гэту працу закончыць давялося Губэрнскім Статыстычным Камітэтам. „Вучонымі рэдактарамі тут былі губарнатары: у Віцеб. губ. князь В. М. Доўгарукаў, а па Магілеўскай губ. віцэ-губ. А. С. Дамбавецкі. Губарнатарскія выданьні ня згубілі сваёй вартасьці і ў нашы дні. Пакуль няма лепшых выданьняў—можна карыстацца фактычным матар'ялам гэткіх „казенных" выданьняў.

Дзейнасьць статыстычных камітэтаў на Беларусі заслужыла ўвагу сучасных краязнаўцаў. Пад фірмай статыстыкаў працавалі прыраджэнцы Беларусі, якія часта запраўды любілі сваю бацькаўшчыну і шчыра працавалі на карысьць роднага краю. Выдаваныя статыстычнымі камітэтамі „Памятныя кніжкі" губэрань поўны цікаўнага краязнаўчага матар'ялу. Тут на першым месцы прыдзецца паставіць „Памятныя

кніжкі Віцебскай губэрні“ з 1858 па 1917 г.; у іх шмат краязнаўчых артыкулаў пра жыцьцё Паўночнае Беларусі ад сівое мінуўшчыны і да 1900-х гадоў.

Польскія краязнаўцы дасягаюць найбольшай шырыні абхвату Беларусі польскай навукай у выданьні „Słownika geograficznego królewstwa Polskiego“, а пазьней пачалі працаваць у статыстычных камітэтах у якасьці дапісчыкаў.

Вышаўшы з працоўнае Беларусі, але атрымаўшы расійскую адукацыю, дасьледчыкі з беларусаў падваіліся ў сваёй працы. Афіцыяльныя пасады і мэты буржуазнае навукі цягнулі іх у бок Расійскай дзяржавы, але замілаваньне да роднага краю і культуры схілялі іх да Беларусі. У іх працах адчуваецца недагаворанасьць. Пачыналі яны на расійскі лад, а ў канцы міжвольна сыходзілі на праўду і дагаварваліся часам, як А. П. Сапуноў, да прызнаньня самастойнай культуры і мовы беларуса ды яе асьветніцкай ролі ў Маскоўіі. Упарта адбіваючыся ад націску польскіх вучоных, нашы краязнаўцы з „тож белоруссоў“ не завойстрывалі пытаньня аб беларускай культуры на Ўсход. Беларусь, як прыродная і асобная этнографічная адзінка, ясна адчуваецца ў працах этнографаў і вучоных гэтага кірунку. 80—90-я гады далі ўжо каштоўныя працы профэсуры розных унівэрсытэтаў па гісторыі і праву Беларусі. Працы профэсароў Кіеўскага унівэрсытэту: Антановіча, Дашкевіча, Доўнар-Запольскага, Васіленка; Варшаўскага унівэрсытэту—Леантовіча, Карскага; Маскоўскага унівэрсытэту—Любаўскага і іншых даюць каштоўныя веды аб мінулым беларускай культуры. У процэсе дасьледчае працы неяк сама сабой выявілася цікавасьць прыраджэнцаў розных губэрань Беларусі да асобных галін беларусазнаўства. Так, прыраджэнцы Віцебшчыны больш цікавіліся гісторыяй Беларусі, архіўнымі справамі; у Нікіфароўскага—„Страничка из недавнего прошлого г. Витебска“, у Семянтоўскага—„Белорусские древности, История городов Витебской губернии“, у Стукаліча „Из истории городов в Белоруссии“, у Сапунова,—„История г. Витебска, Витебская Старина“. Магілеўцы, смаленцы больш займаюцца народным фольклёрам, мовай. Насовіч, Раманаў пачалі сваю працу зьбіраньнем матар'ялу для слоўніка беларускай мовы, Шэйн зьбіраў народныя песьні. В. Н. Дабравольскі выдаў „Смоленский областной словарь“, „Этнографический сборник“. Але, на жаль, дагэтуль працы гэтых дасьледчыкаў ня вывучаны, пасьмертныя спадкі ня выкарыстаны, рукапісы захоўваюцца, здаецца, за межамі Беларусі. Да гэтага часу, здаецца, няма добра апрацаваных жыцьцяпісаў гэтых вучоных, а такія волаты этнографіі, як Насовіч, Раманаў, Нікіфароўскі, Шэйн і інш. заслужылі ўвагі патомства.

У гэтыя-ж гады зьяўляюцца грунтоўныя зборнікі прац аб Беларусі, якія цікаўны і для нас. У расійскай літаратуры вышлі зборнікі: „Живописная Россия“ і проста „Россия“ пад агульнай рэдакцыяй—першая П. П. Сямёнава, другая В. П. Сямёнава і іншых. У складаньні гэтых зборнікаў прымалі ўдзел выдатныя вучоныя, прыраджэнцы Беларусі. У т. III „Живописной России“ і IX т. „России“ сабраны ўсе веды аб Беларусі, здабытыя расійскай навукай да часу надрукаваньня гэтых кніг.

Кожная дасьледчая праца не зьяўляецца асабістай працай аўтара, а продуктам творчасьці цэлага колектыву. Розныя таварыствы з дасьледчымі мэтамі ўтвараліся на Беларусі з даўных часоў. Брацтвы і цэхі мелі сваімі другараднымі мэтамі дасьледваньне свайго кутка Бе-

ларусі, царкоўныя брацтвы ня толькі адчынялі школы, бібліотэкі, а і зьбіралі, захоўвалі старыя рэчы, граматы. З такіх „древлехранилищ“ складаліся пазьней нашыя музэі. У Віцебску было складзішча старых царкоўных рэчаў, пазьней з яго склаўся царкоўна-археолёгічны музэй. А каля такіх устаноў, як музэй, архіў, організоўваліся розныя вучоныя таварыствы, члены якіх запаўнялі старонкі „Губернских Ведомостей“ сваімі артыкуламі. Губэрскія газэты зрабіліся значнымі краязнаўчымі пунямі, куды кожнае пакаленьне людзей адкладвала сваю працу.

Каля Віцебскага і Віленскага архіву ўтварыліся археографічныя камісіі, і выданыя імі розныя архіўныя зборнікі зьмяшчаюць шмат цікаўнага матар'ялу, якім яшчэ доўгі час будуць карыстацца краязнаўцы. Выданыя Віцебскім архівам на працягу з 1871 па 1901 г. зборнікі „Историко-Юридические Материалы“ у сваіх 32 томах зьмясьцілі шмат цікаўнага матар'ялу па Магілеўшчыне, Віцебшчыне, а віленскія архіўныя выданьні гэта вялікая крыніца старадаўных актаў і грамат—помінкаў жыцьця старое Беларусі. У Маскве няўтомны М. В. Доўнар-Запольскі распачаў выданьне новых актаў, інвэнтароў Літоўскае мэтрыкі (1897 г.). Друкаваныя ім „Календари Северо-Западного Края“ прасунуліся ў вёску, будзілі беларускую думку. Економічны ўздым дабрабыту Беларусі, зараджэньне пролетарыяту былі прычынай утварэньня краязнаўчых таварыстваў пад рознымі назвамі на Беларусі. Пачалі організоўвацца беларусазнаўчыя гурткі моладзі ў розных гарадох Расійскае дзяржавы, куды ўмовы жыцьця загналі беларусоў за кавалкам хлеба. Заварушылася працоўная кляса і пасунулася да вывучэньня і адраджэньня беларускай культуры. У Вільні пачала друкавацца іскарка беларускага адраджэньня—„Наша Доля“, „Наша Ніва“, залажыліся выдавецкія суполкі. Ад Вільні не адставаў Менск і другія куткі Беларусі. Працоўныя пачалі вывучаць Беларусь на карысьць яе культуры. Варушэньне рабочага люду Беларусі пачула беларуская інтэлігенцыя розных колераў. Пачаліся спробы ўтварэньня краязнаўчых таварыстваў. 4 сакавіка 1905 году міністар асьветы Глазаў зацьвердзіў „Устав общества изучения Белорусского края в г. Могилеве“. У круг свайго ведама таварыства імкнулася ўзяць усю этнографічную Беларусь, за выключэньнем Смаленшчыны. Мэтамі сабе таварыства ставіла [1]; а) „сачыць за посьпехамі прыродазнаўчых і гістарычных навук; б) пашыраць прыродазнаўчыя, гістарычныя, экономічныя веды сярод насельніцтва; в) устанаўляць гістарычныя і прыродазнаўчыя музэі, г) займацца вывучэньнем прыродных умоў краю, яго фаўны, флёры, мінэралёгіі, глебы, мэтэоролёгіі, этнографіі, экономікі, д) адшукваць і распрацоўваць гістарычныя матар'ялы да мінуўшчыны краю“. Сярод устаноўцаў гэтага таварыства былі А. Раманаў, А. Сапуноў і іншыя. Каля гэтага таварыства прабавалі згуртавацца „белерусские сылы“ настаўніцтва. У члены таварыства прымаліся „лица обоего пола и всех сословий“. Дальш рэгістрацыі статуту таварыства не змагло пайсьці. „Беларускі“ кірунак таварыства пудзіў царскі ўрад: ён не даваў ходу па службе „беларускім“ працаўнікам, якія шчыра працавалі над вывучэньнем Беларусі. А. Сапуноў, Нікіфароўскі так і памёрлі настаўнікамі г. Віцебску. Другая прычына, якая губіла добрыя намеры такіх таварыстваў, хавалася ў самай сутнасьці буржуазнага ладу. Інтарэсы розных станаў Беларусі надта розьніліся; клясавае змаганьне руй-

[1]) „Устав об-ва изучения Белор. края“, стар. 1.

навала ўсе спробы буржуазіі скласьці мяшаныя таварыствы. Працавалі толькі аднастайныя таварыствы, як панскія „общества сельских хозяев". Абшарніцкія „общества сельских хозяев" ставілі сабе і краязнаўчыя мэты, але поплеч з гэтым была мэта—адшукаць лёгкі спосаб уціскаць рабочых. „Труды" таварystваў сельскіх гаспадароў як Віцебскага, так і іншых, зьмяшчаюць у сабе шмат цікаўнага матар'ялу для краязнаўства. У верасьні 1909 году была адчынена Віцебская Вучоная Архіўная Камісія. Яна выдала адну кнігу сваіх „Трудов" і тры кнігі „Полоцка-Витебской Старины", дапамагла адчыненьню ў 1911 г. Віцебскага аддзяленьня Маскоўскага археолёгічнага Інстытуту. Архіўная Камісія мела вялікую бібліотэку і свой невялічкі музэй. Гэтыя ўстановы існавалі да 1917 году.

Краязнаўчыя таварыствы ўзьнікалі ў розных кутког Беларусі. З 1912 году ў Менску распачало сваю працу „Общество любителей природоведения, этнографии і археологии" з мэтай дасьледваньня Менскай губэрні і пашырэньня прыродазнаўчых і геаграфічных ведаў сярод насельніцтва, у 1913 г. ў Менску організавалася „Общество по организации в Минске музея". Гэта таварыства ставіла сабе мэтай усебаковае вывучэньне Менску і яго губэрні.

Сваю дзейнасьць таварыства сконцэнтравала каля адчыненага ім у 1914 годзе гарадзкога музэю, але імпэрыялістычная вайна дрэнна адбілася на працы. Ад таварыства засталося некалькі кніжак — „запісак таварыства" ды адозва да насельніцтва г. Менску, у якой яно заклікаецца дапамагаць новаму музэю ахвяраваньнем рэчаў. Больш шырокай дасьледчай працы таварыства не змагло праявіць.

Такія-ж вынікі працы былі і ў другога таварыства, організаванага ў сакавіку 1913 г.—„Общества изучения Могилевской губернии". Статут гэтага таварыства ставіў сваім членам такія мэты: 1) „Сочачы за посьпехам прыродазнаўчых і гістарычных навук, дапамагаць пашырэньню прыродазнаўчых і гістарычных ведаў сярод насельніцтва Магілеўскай губэрні; 2) шукаць помнікі старыны, вывучаць іх, апісваць і прымаць меры да іх падтрыманьня і аховы; 3) займацца вывучэньнем прыродных асаблівасьцяй Магіл. губэрні, яе флёры, фаўны, мінэральнага „царства", глебы, мэтэоролёгічных праяў, яе мінулага лёсу ў гістарычных, архэолёгічных, архэографічных, нумізматычных і генэолёгічных адносінах, а таксама дасьледваць антрополёгічныя і этнографічныя даныя яе насельніцтва" [1]). Хто былі яго ўстаноўцы і якая далейшая праца—статут, якім мы карысталіся, не дае адказу. Паводле чутак у гэтым таварыстве працавалі: Сербаў, Раманаў, Сапуноў і іншыя, але вынікі працы нам невядомы[2]). Шырокія мэты гэтага таварыства павінны былі спаткацца з умовамі жыцьця ў эпоху царскае ўлады.

У Віцебску ў гэтым-жа годзе заснавалася „Церковно-археологическое общество", якое мела на мэце вывучэньне гістарычнага мінулага

[1]) Устав общества изучения Могилев. губ., стар. 1.

[2]) І. А. Сербаў, як член „О-ва изучения Могилевской губернии", зрабіў наступныя досьледы:

1) Устанавіў этнографічную граніцу паміж Радзімічамі і Драгавічамі па р. р. Ухлясьці, Проні і Басі, даставіў „О-ву" сьціслы этнографічны нарыс гэтае граніцы.

2) Адшукаў і абсьледваў вельмі даўнае гарадзішча на правым беразе Хотышчы, прытокі Ухлясьці, дзе знойдзены вельмі каштоўныя рэчы бронзавыя і бурштынавыя (янтарныя), прычым апісаньне гарадзішча і колекцыі знойдзеных прадметаў пераданы Е. Р. Раманаву.

3) Прасачыў характэрныя асаблівасьці беларускай культуры ад Чэрвеня да Бранску і злажыў этнографічны нарыс аб гэтай культуры. *(Увага рэдакцыі).*

праваслаўнае царквы на Віцебшчыне· Гэтае таварыства прывяло ў парадак царкоўны музэй, які да гэтага часу быў проста складзішчам музэйных рэчаў.

Вайна надта шкадліва была для дзейнасьці запраўдна беларускіх таварыстваў і гурткоў у Вільні і Менску. Большасьць членаў-працаўнікоў апынулася ў шэрагах царскае арміі. Вайна нішчыла апошнюю спадчыну беларускай культуры; асабліва шкоднай была эвакуацыя Вільні. Шмат помнікаў старажытнасьці загінула ў час перавозкі іх у Маскоўшчыну і боек на абшары Беларусі.

За гады вайны пры царскім урадзе мы ня ведаем ніводнага новага краязнаўчага таварыства на Беларусі. Вялікі Кастрычнік на Беларусі ўзварухнуў сілы працоўных. Пачалося дасьледваньне Беларусі, а поплеч з гэтым адчыніліся ўсе панскія і буржуйскія палацы, іх колекцыі, бібліотэкі паступілі ў карыстаньне працоўнага люду Беларусі. І трэба сказаць, што беларускія сяляне і работнікі вельмі ўважліва аднесьліся да кніг і колекцый панства. У першыя часы рэволюцыі бібліотэкі браліся на вучот і ахоўваліся „валаснымі“ камітэтамі, але польсканямецкая навала ўвесь культурны рух сапсавала. У пажары грамадзкае вайны загарэлася панскае дабро, а сумесна з ім і тыя рэшткі беларускай культуры, якія захоўваліся па маёнтках ад старадаўніны. Камісіі па вучоту і ахове помінкаў мінулага, якія працавалі пры кожным аддзеле нарасьветы, цягалі старыя кнігі і рэчы ў свае валасныя і павятовыя асяродкі. Вёска дужа за кнігамі для ўласнага ўжываньня ня гналася, бралі больш тыя кнігі, папера якіх ішла на курава. У 1919 годзе ўжо пачаліся навуковыя досьледы па этнографіі Беларусі. Гурток студэнтаў Віцебскага аддзяленьня археолёгічнага інстытуту пачаў выданьне рукапіснага часопісу „Беларускі Этнограф“, у якім зьмяшчалі свае працы А. Сапуноў, М. Мялешка і інш.

Іван Кузьмін, А. Шлюбскі пачалі зьбіраньне народнае творчасьці ў Вяліскім павеце Віцебскай губэрні. Уся праца па зьбіраньні народных песень вялася сіламі настаўніцтва і школы. Вайна і адсутнасьць культурнага асяродку псавала ўсю працу. Тады ў Маскве было заснована Беларускае Вольна-Экономічнае Таварыства. Беларускі Нацыянальны Камісарыят разгарнуў шырокую асьветную працу. Выданы ім у 1918 г. „Курс белоруссоведения“ ня згубіў свае вартасьці і ў нашыя дні. Усесаюзная Акадэмія Навук выдала апошнія выпускі трэцяга тому „Белоруссов“ ак. Карскага—гэты відавочны помнік апошніх дасягненьняў расійскай буржуазнай навукі ў беларусазнаўстве.

Адчыненьне Інстытуту Беларускай Культуры дало кірунак і організацыю працы ўсіх краязнаўчых таварыстваў на абшары Савецкае Беларусі, і трэба спадзявацца, што з цягам часу каля яго аб'яднаецца праца ўсіх беларусаў, якія цяпер жывуць за межамі БССР.

## ЛІТАРАТУРА:


1. Архіўны фонд „Белорусского Вольно-Экономического Общества“ (у Віцебскім аддзяленьні дзяржаўнага архіву за 1824-1843 год).
2. Летопись Белорусского общества сельских хозяев. СПБ. 1841 г.
3. **Я. Чачот.** Piosnki wiesniacze z nad Niemna i Dzwiny. Wilno. 1839—1846.
4. **R. Zimkiewicz.** Piosnki gminne ludu Pinskiego. Ковно, 1851 г.
5. **И. Ярошевич.** Статистико-этнографические сведения о Бельском уезде Гродненской губ., Гродн. губ. Вед., 1848. № 20-22.
6. Opisanie powiatu Borysowskiego... pod względem statystycznym, hospodarczym, przemysłowo-handlowym i lekarskim, Wilno, 1847 г.
7. **T. Narbut.** Dzieje starożytne narodu litewskiego. Wilno. 1835-1848. 3 томы.

8. **Я. Барщевский**. Очерк северной Белоруссии, журнал „Иллюстрация", 1846 г. № 10. СПБ.
9. **I. K**. Kilka zarysów z życia ludu wiejskiego w Kobrynskiem. Athenaeum, 1850 г. ч. IV. стар. 165-187.
10. **Е. Ф. Карский.** Белоруссы т. 1. Вильно, 1904 г.
11. **И. Григорович.** Белорусский архив древних грамот, ч. I. М. 1824 г.
12. Собрание древних грамот и актов городов Вильно, Ковно, Трок, православных монастырей, церквей и по разным предметам. Вильно, 1843.
13. **А. В. Семенов.** Грамоты и акты Минской губернии. Минск, 1846 г.
14. Акты, относящиеся к истории Западной России, собранные и изданныя археографической комиссией. 5 т. СПБ. 1846-1853.
15. **А. Н. Пыпин**. История русской этногр., т. IV, СПБ. 1892 г.
16. Акты, относящиеся к истории Южной и Западной России, собранные и изданные арх. комиссией 12 т. СПБ. 1863-1879.
17. Акты, издаваемые Виленской Археографической Комиссией, т. 1-29. Вильно, 1865-1902.
18. Археографический сборник документов, относящихся к истории северо-западной Руси. 12 т. Вильно 1867-1900.
19. Историко-юридические материалы, извлеченные из актовых книг Витебской и Могилевской губ., хранящихся в центральном архиве в Витебске. 32 т. Витебск, 1871-1905.
20. **А. Сапунов.** Витебская Старина т. I,IV,V. 1883-1885.
21. **Мошынский.** Pinsk i Pinszczyna (Эхо 1882 г.).
22. Акты Литовской Метрики, под редакцией **Ф. Леонтовича.** т. I. в. 1,2. Варшава, 1896-1897.
23. **М. О. Без-Корнилович**. Исторические сведения о примечательнейших местах в Белоруссии. СПБ. 1855 г.
24. Живописная Россия, т. III. под ред. **П. П. Семенова**. СПБ. 1882 г.
25. Россия. т. IX. СПБ. 1905 г. под ред. **В. П. Семенова** и других.
26. **В. Цебриков.** Смоленская губерния, СПБ. 1862 г.
27. **И. Зеленский.** Минская губерния, СПБ. 1864 г.
28. **П. Бобровский.** Гродненская губерния, СПБ. 1863 г.
29. **А. Корева.** Виленская губерния, СПБ. 1861 г.
30. Витебская губерния, под ред. кн. **В. М. Долгорукова**. Витебск, 1890 г.
31. Опыт описания Могилевской губернии. 3 т. Могилев, 1882 г.
32. **Ф. Ястремский.** Краткий очерк Минской губ. Минск, 1897 г.
33. **Н. И. Максимович**. Днепр и его бассейн. Киев. 1897-1908.
34. **А. П. Сапунов**. Река Западная Двина. Витебск. 1893 г.
35. **В. Довнар-Запольский.** Очерк истории кривичской и дреговичской земель. 1891 г. Государственное хозяйство ВКЛ при ягелоннах. Киев, 1901 г. Документы Московского архива М. Ю. м. 1897 г.
36. **М. Любавский**. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства. Москва, 1893 г.
37. Памятные книжки губерний Витебской, Могилевской, Минской, Смоленской, Гродненской за разные годы.
38. **П. В. Владимиров**. Доктор Франциск Скорина, его переводы, печатные издания и язык. СПБ. 1888 г.
39. **Шэйн П. В.** Биография И. И. Носовича. Известия отд. рус. яз. и словесности Академии Наук, 1900 год, т. V.
40. **И. Носович.** Словарь белорусского наречия. СПБ. 1870 г.
41. **И. Носович.** Белорусские пословицы и поговорки. СПБ. 1852-1854.
42. **Шэйн П. В.** Белорусские народные песни, СПБ. 1879.
43. **Шэйн П. В.** Материалы для изучения быта и языка русского населения северо-западного края. I в. I,II; II,III т. 4 кн. СПБ. 1887-1901.
44. **В. Н. Добровольский.** Смоленский этнографический сборник I, II, III, IV. СПБ. 1891-1894. Москва, 1903 г.
45. **В. Н. Добровольский.** Смоленский областной словарь, СПБ. 1914 г.
46. **Н. Я. Никифоровский.** Очерки простонародного житья-бытья в Витебской Белоруссии и описание предметов обиходности. Витебск, 1895 г.
47. **Н. Я. Никифоровский.** Простонародные приметы и поверья. Витебск, 1897 г.
48. **Н. Я. Никифоровский.** Очерки Витебской Белоруссии. Этногр. обозрение 1892-1899.
49. **Е. Р. Романов.** Белорусский сборник т. I-IX. Киев—Вильно—Витебск.
50. **Е. Р. Романов.** Очерки Витеб. губ. Велижский уезд. П. К. 1898 г.

51. **Е. Р. Романов.** Первоисточники для истории Могилевского края в. I. Одесса, 1916 г.
52. **Ю. Трусман.** Этимология местных названий Витеб. губ. Ревель, 1897 г.
53. Полоцко-Витебская Старина, 3 к. Витебск. 1911-1915.
54. **Іл. Бар.** Е. Р. Раманаў. г. Савецкая Беларусь 1925 г., № 195.
55. **М. Мялешка.** А. П. Сацуноў. „Полымя" 1925 г.
56. **Віцебшчына.** Зборнік. Віцебск, 1925 г.
57. **Невельский уезд.** Невель, 1925 г.
58. **Полотчина.** Полоцк, 1925 г.
59. Из материалов первой Оршанской партконференции. Орша, 1925 г.
60. **Аршаншчына.** вып І. Ворша, 1926 г.





М. Шчакаціхін.

# Мотывы краязнаўства ў нашым сучасным мастацтве.

*(З вынікаў Усебеларускай Выстаўкі).*

Першая Ўсебеларуская Мастацкая Выстаўка, якая адбылася ў Менску з сьнежня 1925 па студзень 1926 года, ставіла сабе фактычна толькі адну галоўную мэту: высьветліць наша „мастацкае становішча“ ў сучасны момант, падрахаваць нашыя сілы, каб ведаць, якія рэальныя магчымасьці мае Беларусь для далейшае працы ў галіне вобразных мастацтваў. І ў гэтым сэнсе, бясспрэчна, мэты сваёй яна дасягнула. Яна згуртавала ў сабе досыць значную колькасьць мастацкіх адзінак,—часта раней зусім для нас невядомых,—выявіла іх здольнасьці, ухілы і інтарэсы, паказала ўсё тое, чым жыло і цікавілася нашае мастацтва за апошнія гады, пры ўмовах у большасьці чыста келейнай, разрозьненай і замкнёнай, пераважна індывідуалістычнай (у сэнсе кірункаў і густаў) творчасьці нашых мастакоў.

Але організацыя Выстаўкі,—гэта быў толькі пачатак сыстэматычнае працы ў мэтах аформленьня і выяўленьня далейшых шляхоў сучаснага беларускага мастацтва. Яшчэ не зачынілася Выстаўка, як ужо паўсталі самыя сур'ёзныя і грунтоўныя пытаньні, правільнае вырашэньне якіх, галоўным чынам нашымі практыкамі-мастакамі,—зрабілася патрэбным у самым тэрміновым парадку: як павінна расьці і разьвівацца далей вобразнае мастацтва на Беларусі? Якія запатрабаваньні да яго прад'яўляе жыцьцё, чаго яно вымагае? нарэшце, якімі спосабамі нашае мастацтва ў чыста практычным сэнсе здолее задаволіць гэтыя запатрабаваньні?

Тут патрэбна адно тлумачэньне. Гутаркі ня было і няма аб формальна-мастацкіх кірунках, або ўхілах, аб пэўнай „орыентацыі“ нашага мастацтва на якую-небудзь адну з сучасных мастацкіх „школ“. Прысутнасьць розных такіх кірункаў на Выстаўцы, за малымі выключэньнямі, ня вылілася ў канчаткова сформаваныя і суцэльныя групоўкі, і амаль што ня выклікала паміж іх колькі-небудзь яўнае барацьбы (хаця-бы ў сэнсе апанаваньня грамадзянскім зданьнем і густам), на што, зразумела, пры першай спробе дэмонстрацыі нашых мастацкіх сіл і ня прыходзілася спадзявацца. Нельга адмовіць, што ў далейшым—такая барацьба магчыма і нават пажадана; але яна ня зьявіцца вынікам штучнага адбору, і аніводны з такіх формальных кірункаў ня будзе карыстацца якім-небудзь асаблівым падтрыманьнем; барацьба

гэтая прыдзе ў процэсе натуральнага адбору, як барацьба кірункаў за сваё рэальнае існаваньне, г. зн. за найбольшую адпаведнасьць сваю для задаваленьня патрэбы часу і тых запатрабаваньняў, якія сучасная Беларусь прад'яўляе да вобразнага свайго мастацтва не ў формальна-надворных, а ў іншых, галоўным чынам, зьместавых і ідэолёгічных адносінах. Такім чынам, перамога таго ці іншага кірунку ў сэнсе мастацкай „школы" будзе абумоўлена самым жыцьцём, і вынікаў гэтае барацьбы ў сучасны момант прадбачыць яшчэ немагчыма.

Але ў іншым сэнсе ўжо і цяпер пастаўленыя намі вышэй пытаньні ня толькі можна, але і патрэбна вырашыць,—хаця-бы толькі ў адносінах да тых асноўных прынцыпаў, якімі павінна кіравацца наша мастацкае жыцьцё. Для нас няма „мастацтва для мастацтва"—гэта ўсім добра вядомая аснова, якая не патрабуе прынцыповага пагрунтаваньня ці тлумачэньня. З гэтае прычыны ў першую чаргу мы вымагаем ад нашага мастацтва сьціслае ўвязкі з жыцьцём, чулага водгуку на кожную яго патрэбу, актыўнага ўдзелу ў нашым культурным будаўніцтве, згодна агульных, вызначаных для гэтага будаўніцтва задач. Другое палажэньне—таксама агульна вядомае—гэта тое, што мы глядзімо на мастацтва, як на адзін з вельмі значных і выдатных фактараў гэтага будаўніцтва, што мы ў ім бачым магутны і мэтазгодны сродак адпаведнага ўплыву на самыя шырокія рабоча-сялянскія масы і адпаведнага выхаваньня гэтых шырокіх мас. Усё гэта і стварае першую прадпасылку, якая намячае *асноўныя* шляхі да практычнага разьвязаньня вызначанае намі проблемы.

Зразумела, конкрэтныя формы, у якія павінен будзе ў далейшым выліцца так патрэбны для нас грамадзкі ўплыў нашага вобразнага мастацтва—выявяцца значна пазьней, калі мы наагул пасунемся далей наперад у справе аформленьня нашай новай мастацкай культуры. Але агульны наш прынцыповы падыход да ўсякае культурнае працы ўжо цяпер выразна вымагае таксама і ў галіне культуры мастацкай—пэўнай прынцыповай яе „орыентацыі" ў кірунку органічнага яе дапасаваньня да нашых рэальных мэт.

Адсюль вынікаюць для нашага мастацтва некаторыя папярэднія заданьні агульнага характару. Калі мы кажам аб увязцы з жыцьцём,—мы гэтым быццам часткова ўжо прадвызначаем пэўную сфэру інтарэсаў, а часам тэматыку патрэбнае для нас мастацкае творчасьці. Калі мы жадаем скарыстаць мастацтва, як сродак уплыву на шырокія масы,—мы абавязваем яго тым самым да яснасьці і выразнасьці яго вобразных сродкаў, да зразумеласьці яго ўласнае „мовы" для тых, на чыю карысьць яно павінна служыць.

У гэтым сэнсе, пакольκі ўся наша сучасная культура, пры соцыялістычным зьмесьце, будуецца на падставах усебаковага і вольнага нацыянальнага самавызначэньня народаў,—пастолькі і наша мастацтва, як адна з ліку складальных частак гэтае культуры, павінна ў агульным сваім кірунку ісьці аналёгічным шляхам. Гэта вымагае ад яго, у першую чаргу, пэўнага прадметавага зьместу, уважлівае цікавасьці да таго, што зразумела і блізка, што ўласьціва і што патрэбна таму народу, сярод якога яму прыходзіцца працаваць, з усімі яго нацыянальнымі адзнакамі і асаблівасьцямі. Прырода краіны, жыцьцё і быт яе насельніцтва, яе гістарычнае мінулае і яе сучаснасьць, яе культура і мастацтва, як аснова для новай стылістычнай пераапрацоўкі,—вось тыя першыя тэмы, якія ў гэтых адносінах абавязковы. У беларускіх

умовах гэта значыць, галоўным чынам,—нацыянальны кірунак у мастацтве *па лініі дьзвёх нашых асноўных—беларускай і яўрэйскай культур.*

Лёгка заўважыць, што такія задачы маюць шмат якія супольныя рысы з тым кірункам нашае сучаснае навукі, які вядомы пад імем „краязнаўства"; і ў тым і ў другім выпадку, замест адцягненых тэм, на першы плян высоўваюцца тэмы, узятыя з блізкага, рэальнага жыцьця; у вабодвых выпадках абавязковай умовай посьпеху справы зьяўляецца ўважлівае азнаямленьне з роднай краінай ува ўсіх рознастайных яе ўласьцівасьцях і праявах яе шматкаляровага бытаваньня,—з тэй толькі розьніцай, што ў навуцы ўсьлед ідзе сыстэматычнае дасьледваньне і вывучэньне самае істоты заўважаных зьявішчаў, тады як мастацтва, звычайна, можа абмежавацца толькі надворным выяўленьнем самых істотных рыс, прапушчаных праз творчую прызму мастацкага афармленьня.

Такім чынам, можна казаць, што пры выкананьні гэтых задач павінна атрымацца тое, што можна было-б зваць „краязнаўчым ухілам" у мастацтве, прычым ухілу гэтаму, бясспрэчна, належыць будучыня, ува ўсякім выпадку ў бліжэйшыя гады нашае працы ў даным кірунку. Зразумела, гэта ня значыць, быццам наша мастацтва павінна выліцца ў нейкі вузкі „этнографізм"; у даным выпадку (як і ў шмат якіх іншых) мы разумеем тэрмін „краязнаўства" у самым шырокім сэнсе, як скарыстаньне ў мастацтве ўсіх тых мотываў, якія маюць для нас у сучасных умовах нашага жыцьця рэальнае і конкрэтнае значэньне,—усяго таго, што сьцісла зьвязана з нашай краінай, будзь то ў прыродных, бытавых, стылістычна-формальных ці яшчэ якіх-небудзь іншых адносінах.

Прадказваючы ўласна такія шляхі для далейшага разьвіцьця нашай мастацкай творчасьці, мы, дзеля гэтага, з асаблівай увагай павінны спыніцца на тых элемэнтах „мастацкага краязнаўства", якія ўжо ёсьць у нашым сучасным мастацтве, лічачы, што ўжо самы факт існаваньня такіх элемэнтаў, якія бяз усякага знадворнага прымусу самі сабой органічна ўзьніклі ў творчасьці нашых мастакоў,—зьяўляецца бясспрэчным паказчыкам натуральнае няўхільнасьці „краязнаўчага" кірунку ў нашым мастацтве, і адным з найбольш важных практычных вынікаў 1-й Усебеларускай Выстаўкі. З гэтага боку выстаўка наша, таксама як і ў адносінах колькасных, можа лічыцца ня меней удалай, хаця як быццам з першага погляду яна і ня робіць такога ўражаньня. Лічбы, аднак, паказваюць другое і выяўляюць на выстаўцы значную колькасьць „краязнаўчага" матар'ялу самага рознастайнага характару як у формальным сэнсе, гэтак адносна сюжэтаў і тэм.

З агульнага ліку 877 экспонатаў, зьмешчаных у першым, чыста мастацкім аддзеле выстаўкі (малярства, графіка і скульптура), тыя ці іншыя адносіны да Беларусі маюць 414 нумароў, што складае ледзь не палову ўсіх прадстаўленых на выстаўцы прац (дакладней—47,2 проц.). Прымаючы пад увагу амаль што поўную неорганізаванасьць нашых мастакоў, адсутнасьць сталага кіраўніцтва іх творчай працай, а таксама адсутнасьць якіх-небудзь „програмных" груповак—процант гэты трэба лічыць бадай што нечакана высокім. Але лічба гэтая нават яшчэ і ня зусім правільна выяўляе запраўдныя інтарэсы ўдзельнікаў выстаўкі, бо яна ўтвараецца за кошт экспонатаў некаторых мастакоў, працы якіх цалкам пазбаўлены „краязнаўчага" характару. Калі-ж мы зробім такі падрахунак па мастакох, дык убачым, што з агульнага ліку

104 экспонэнтаў першага аддзелу (лічачы разам мастакоў, членаў мастацкіх гурткоў і вучняў)—„краязнаўчыя“ мотывы сустракаюцца ў працах 62-х аўтараў, г. зн. болей, як у паловы ўсіх удзельнікаў (59,6 проц.). Гэта паказвае, бясспрэчна, на існаваньне сярод нашых мастацкіх сіл пэўнага здаровага і жыцьцёвага ядра, якое ў далейшым здолее, напэўна, павесьці наша мастацтва ў пажаданым для нас кірунку, калі ўтварыць для таго адпаведныя ўмовы.

Які-ж характар маюць гэтыя „краязнаўчыя“ мотывы на выстаўцы? Як яны падзяляюцца? Па прыблізным падрахунку мы можам вызначыць наступныя катэгорыі:

1. Віды беларускіх гарадоў і паасобных гарадзкіх будынкаў—96 прац (23,2 проц. усіх краязн. мот.).

2. Вясковыя пэйзажы (прырода, вёска, сельскія будынкі)—80 прац (19,3 проц.).

3. Беларускія тыпы (фігуры, твары, вопраткі і г. д.)—55 прац (13,5 проц.).

4. Яўрэйскія тыпы ( „ „ „ „ )—48 прац (11,5 проц.).

5. Портрэты беларускіх і яўрэйскіх палітычных, грамадзкіх і культурных дзеячоў—32 працы (7,6 проц.).

6. Мотывы з беларускага народнага быту—29 прац (7 проц.).

7. Фабрыкі, гуты і рабочае жыцьцё на Беларусі—23 працы (5,6 проц.).

8. Стылізацыя беларускага народнага і старажытнага орнамэнту—17 прац (4,1 проц.).

9. Мотывы з яўрэйскага народнага быту—14 прац (3,4 проц.).

10. Гісторыя Беларусі і рэволюцыйны рух на Беларусі—13 прац. (3,1 проц.).

11. Композыцыі на тэмы з беларускае народнае творчасьці—7 прац (1,7 проц.).

Праўда, разглядаючы гэтае разьмеркаваньне тэм, нельга сказаць, каб яно столькі-ж задавальняла нас у якасным сэнсе, як і адносна агульнае колькасьці „краязнаўчых“ мотываў. Амаль што палову ўсіх тэм тут складае, як бачым, пэйзаж (42,5 проц.), роўна чвэрць—беларускія і яўрэйскія тыпы, і толькі на долю астатніх 32,5 проц. прыпадаюць усе іншыя досыць рознастайныя мотывы. Гэта, бясспрэчна, паказвае на значную яшчэ выпадковасьць такіх мотываў наагул у творчасьці нашых мастакоў, бяз упоўне сьвядомага спэцыяльнага іх адбору. Бо перавага пэйзажу і народных тыпаў, у большасьці выпадкаў, пэўна тлумачыцца тут зусім не спэцыяльным інтарэсам мастакоў уласна да *беларускай* прыроды або гораду, ці да беларускіх і яўрэйскіх нацыянальных адзнак,—а проста тым, што згодна самых умоў сваёй працы на Беларусі мастак мімаволі павінен карыстацца адпаведнай натурай,—тэй натурай, што проста і лёгка можа быць знойдзена каля сябе. Можа таму на першым пляне мы і бачым пэйзаж—гэты адносна найбольш лёгкі, даступны, і з гэтай прычыны найболей пашыраны ўва ўсякім (асабліва ў напалову аматарскім) малярстве мотыў. Іншыя-ж тэмы, хаця і закрануты нашымі мастакамі,—але настолькі мала, што пры падрахунку атрымліваецца самы нязначны процант. Гэта колькасная нязначнасьць асабліва прыметна ў такіх мотывах, як народны быт (беларускі ды яўрэйскі), рабочае жыцьцё і рэволюцыйны рух на Беларусі,—у адносінах да якіх вынікі выстаўкі дазваляюць жадаць шмат лепшага. Але ў той-жа час гэта і вызначае самы слабы

пункт нашага „мастацкага фронту“, самы асноўны недахват сучаснага стану нашага „мастацкага краязнаўства“, на які і належыць, зразумела, у далейшым зьвярнуць як мага большую ўвагу.

Не выклікае сумненьня, аднак, што шмат якія з ліку прадстаўленых на выстаўцы экспонатаў выяўляюць таксама дадатныя бакі, і нават у пэйзажных тэмах, якія, наагул кажучы, найменш цікавы. Занадта высокая колькасьць экспонатаў гэтага характару не дазваляе, зразумела, спыніцца на кожным з іх паасобку, або нават



**В. Волкаў.** „Дзьвіна“, № 162.

разгледзець падрабязгова найбольш выдатныя ўзоры з іх ліку; але магчыма вызначыць наагул тыя розныя і рознакаштоўныя падыходы да гэтае тэмы, якія сярод іх сустракаюцца. Першае месца па колькасьці, як мы ўжо заўважылі, займаюць гарадзкія пэйзажы, галоўным чынам, віцебскія і менскія, што зразумела, бо ў гэтых асяродках згуртавана большасьць нашых мастакоў; часткова да іх далучаюцца і іншыя беларускія месты, як Бабруйск, Магілеў, Заслаўе, Гомель і Вяліж. У трактаваньні тэм магчыма вызначыць два асноўныя падыходы: адных мастакоў цікавіць гарадзкі пэйзаж наагул, як адзін з пэйзажных сюжэтаў чыста формальнага значэньня; яны бяруць або агульныя яго пэрспэктывы, або паасобныя куткі, вуліцы, рынкі, часта ўводзячы ў іх кавалкі рознастайнага гарадзкога быту; такі падыход мы знаходзім, напрыклад, у працах: *Волкава, Кругера, Лебедзевай, Пархоменкі, Пэна, Сьляпяна, Эндэ* і некаторых іншых. Другія мастакі пераносяць цэнтр увагі на тыя спэцыфічныя асаблівасьці нашых беларускіх гарадоў, якія выяўляюцца ў іх маляўнічых старажытных будынках, у гэтых часта напоўзруйнаваных маўклівых сьведках мінулага, важкія муры якіх утвараюць у той-жа час такія эфэктоўныя дэкарацыйныя плямы; гэ-

тыя мастакі выбражаюць то паасобныя гмахі ўва ўсёй урачыстай скончанасьці іх характэрных форм, то агульныя краявіды гораду, на заднім пляне якіх домінуюць усё тыя-ж паважныя старажытныя масывы.



М. Сьляпян. „Завулак у Менску“, № 567.

Сярод прац апошняе катэгорыі асабліва цікавы ры ункі *Мільчына*, дзе асабліва контрасна падкрэсьлены характэрны эфэкт драўляных хатак менскіх аколіц на фоне высокіх, зьнікшых у тумане касьцёлаў (445-446) [1]), навеяныя Менскам эскізы алоўкам *Пернікава*, у якіх знаёмыя нам так добра менскія архітэктурныя формы ўспрымаюцца, быццам нанова праведзеныя праз прызму стылізацыі (469-70,74-75), моцная гравюра на дрэве *Аксэльрода*, дзе стылізацыя таго-ж Менску даведзена да монумэнтальнага канца ў компактнай, упрошчанай композыцыі (7), — нарэшце, некаторыя гравюры *Юдовіна* з сэрыі „Віцебск“ у тым-жа стылізаваным характары, але з большай крыху дэталізацыяй (682—703). У сэнсе тэхнікі і манеры ўсе гэтыя тэмы, зразумела, побач з іншымі, падлягаюць агульным кірункам паасобных мастакоў, прычым якраз стылізацыйныя варыянты (да пералічаных можна далучыць яшчэ некаторыя працы *Кудрэвіча*—362, 373, 384 і інш.) прадстаўляюць, па нашай думцы, найбольшы мастацкі інтарэс.



С. Юдовін. З сэрыі „Віцебск“.

На жаль, у пэйзажах вясковых мы амаль што зусім не сустракаем спроб аналёгічнае стылізацыі, і большасьць з іх вытрымана бо ў чыста натуралістычнай, або ў імпрэсыяністычнай манеры ў розных яе адценьнях. Сярод апошніх выдзяляюцца працы ўжо памянёнага *Кудрэвіча*—яскравыя, у радасных сьвежых колерах (355—361), больш задумёныя,

[1]) Тут, як і ўсюды далей, мы паказваем на нумары „Каталёга 1-й Усебеларускай Мастацкай Выстаўкі“, Менск, 1925.

смутныя, у лілёвых і сініх адценьнях пэйзажы *Каўроўскага* (317—319) і монумэнтальна зжатыя, але ня зусім вытрыманыя этюды *Філіповіча* (633-34). Асобнае месца займае толькі графіка *Астаповіча*, дзе вясковаму краявіду надаецца чыста графічны, ілюстрацыйны сэнс ў лядонічным формальным вырашэньні ў контрастах белых, шэрых і чорных плям (63—72).

На другім месцы сярод „краязнаўчых“ мотываў, як мы казалі, можна паставіць народныя тыпы—беларускія і яўрэйскія. Першымі цікавіліся шмат якія мастакі, але ў большасьці выпадкова, так што ў кожнага з іх ёсьць адна або дзьве працы такога зьместу, амаль няпрыметныя сярод іншых, хаця ў паасобных выпадках, як напр., у *Волкава* (167), або *Пэна* (503, 511) яны і маюць досыць значную пабытовую і мастацкую вартасьць. Больш-менш сыстэматычна мы знаходзім беларускія тыпы толькі ў чатырох экспонэнтаў: *Уладзімерскага* (619, 22, 23 пры іншых працах на тэмы з беларускага быту, аб чым ніжэй), *Эндэ* (674—80), *Філіповіча* (635—39, 42-43, 47-48, 50, 53-54) і *Беларускага Мастацкага Тэхнікуму* (727—38, 779—81, 806), што тлумачыцца асобнымі варункамі і спэцыяльным нахілам працы. Першы з іх—„госьць“ нашай Выстаўкі, маскоўскі мастак, сябра „АХРР“ (Асоцыяцыі мастакоў рэволюцыйнае Расіі), які ўлетку гэтага году спэцыяльна зьбіраў матар'ялы для выстаўкі „Жыцьцё і быт народаў СССР“ і з гэтае прычыны цікавіўся выключна беларускімі мотывамі. Мастацкі Тэхнікум агулам, і *Эндэ*, як адзін з яго настаўнікаў, у самай сваёй штодзённай працы бліжэй за ўсё ўласна да беларускіх мотываў, апошні-ж апроч таго таксама ўлетку адбыў спэцыяльнае падарожжа на Случчыну, вынікам якога і зьявіліся экспонаваныя ім зарысоўкі тыпаў і вопратак. Нарэшце, *Філіповіч*,—гэта наагул амаль што адзіны мастак на Выстаўцы, у працах якога зусім няма *не* беларускіх мотываў, творчасьць якога наскрозь прасякнута ўважлівай цікавасьцю і шчырым каханьнем да роднае краіны, што робіць яе ў цэлым, ня гледзячы часта на некаторыя яе тэхнічныя хібы і памылкі, на пэўную неўсталяванасьць майстэрства і адсутнасьць скончанай „школы“, усё-ж адным з найбольш цікавых і каштоўных зьявішчаў у нашым сучасным нацыянальным мастацтве і дазваляе спадзявацца на пышны яе далейшы росквіт. З прычыны гэтай асаблівай як надворнае, гэтак і нутранное блізкасьці мастака да ўсяго беларускага—працы яго і зьяўляюцца, мы сказалі-б, найбольш „краязнаўчымі“ ў запраўдным сэнсе, бяз шкоды, аднак, і для чыста мастацкага боку,—бо кожная фігура тут, будзь то дзяўчына



**А. Астаповіч.** „Пасьля завірухі“, № 67.

ці хлопец, баба на кірмашы, ці дудар—да апошняй ступені рэальны, жыцьцёвы і характэрны, будучы ўзяты прытым у каляровай і монумэнталізаванай форме, якая выключае магчымасьць банальнага, „фотографічнага“ эфэкту. Усё вызначанае нам можа быць дапасавана таксама і да бытавых тэм *Філіповіча*, якія фактычна цяжка аддзяліць ад чыста тыповых, бо тыя і другія цесна зьбліжаюцца і зьліваюцца паміж сабой.

У крыху меншай колькасьці сустракаюцца на выстаўцы тыпы яўрэйскія, выпадкова—у творах толькі пяцёх мастакоў, і сыстэматычна—у трох: *Аксэльрода* (14—31), *Касталянскага* (288--94) і *Пэна* (477, 80, 83, 92, 98 99, 506-57, 12, 16). Працы першых двох зьявіліся вынікам спэцыяльнай зробленай імі экспэдыцыі ў яўрэйскае мястэчка, і прадстаўляюць сабой у Аксэльрода рысункі алоўкам, у Касталянскага—алеевыя эскізы з цэлага шэрагу характэрных фігур местачковай людна сьці, пачынаючы з дзяцей і старых і канчаючы новым сучасным тыпам яўрэя-земляроба. У процілегласьць гэтым эскізам, працы Пэна маюць зусім скончаны, часта портрэтавы характар, і ў большасьці тычацца ня сучаснага, але амаль што мінулага ўжо яўрэйства. Тыпы ўзяты яскравыя, характэрныя, якія надоўга застаюцца ў памяці, як напр.: „Старая з лістом“ (498), „Магід“ (507), ці „Кравец“ (512); адзіную нотку сучаснасьці, асабліва цікаўную пры гэтым у параўнаньні да апошняга, як контраст старога і новага рамесьніка, уносіць толькі „Комсамолец-шавец“ (477), які, спыніўшы працу, захоплены чытаньнем газэты. Наагул-жа кажучы, уся гэтая група прац, таксама як і композыцыі на тэмы з яўрэйскага быту, некалькі зьдзіўляе сваёй нязначнасьцю, бо ад яўрэйскіх мастакоў, агульная колькасьць якіх на выстаўцы досыць вялікая, можна было-б чакаць большага інтарэсу да жыцьця свайго роднага народу, у той час, як фактычна цэлы шэраг з іх ліку экспонаваў амаль што выключна творы „анацыянальнага“ характару. Праўда, агульная нязначнасьць гэтая не перашкаджае вядомай цікаўнасьці некаторых з пабытовых яўрэйскіх тэм: сярод іх можна зазначыць добра скомпанаваныя і цьвёрда рэзаныя, крыху спрошчаныя гравюры на дрэве *Горшмана* (195—98), дзьве вялікія алеевыя композыцыі *Левіна* (414-15) у „левым“, блізка што кубічным формальным выразэньні, нарэшце, зноў-жа працы таго-ж *Пэна*, найбольш цікаўная з якіх—досыць вядомы „Развод“ (505)—прадстаўлена, на жаль, ня самай карцінай, але толькі адным з папярэдніх да яе эскізаў. Таксама толькі эскіз да характэрнае композыцыі на тэму „Вячэра ў беднай яўрэйскай сям'і“ (38) дадзены сярод экспонатаў памершага менскага мастака *Альпэровіча*.



**Бусел.** „Кабета“, № 780.

У параўнаньні да яўрэйскага крыху болей па колькасьці тэмы з беларускага быту. Але трэба шчыра сказаць, што ў трактаваньні іх наагул вельмі мала цікаўнага, што мала выдзяляе іх з агульнае масы выставачных экспонатаў. Ужо памянёны намі маскоўскі мастак *Ула-*

*дзімерскі* ў сваіх „Піонэрах на вёсцы“ (617) і „Кроснах“ (618) абмежаваўся чыста формальнай і досыць беднай перадачай натуры. У іншых бытавыя тэмы закрануты выпадкова, апроч толькі *Філіповіча*, аб якім мы казалі раней (632—49, 51-52), і вучняў *Беларускага Мастацкага Тэхнікуму* (724—26, 71—74, 86—89, 815). Сярод апошніх бытавы беларускі характар маюць клясныя композыцыі на тэму „Сялянская праца“, некаторыя з якіх досыць прыгожы ў стылізаваным, часта дэкорацыйным выращэньні; але ў гэтых формальных адносінах яны набліжаюцца да іншых тэм і зьліваюцца з імі, так што выяўленьне побыту не зьяўляецца ў іх самамэтай. Часткова далучаюцца да бытавых тэм таксама і тыя працы, сюжэтамі якіх зьяўляецца фабрычнае і наагул



**Б. Уладзімерскі**. „Кросны“, № 618.

рабочае жыцьцё; але іх занадта мала; можна вызначыць графічную сэрыю *Тычыны* „На электрычнай станцыі“ (605—09) і першамайскія плякаты Мастацкага Тэхнікуму, якія, аднак, аналёгічна „Сялянскай працы“, маюць болей дэкорацыйнае, як бытавое значэньне.

Зусім асобную групу, якая, праўда ўмоўна, можа быць намі залічана да „краязнаўчых“, утвараюць портрэты цэлага шэрагу беларускіх і яўрэйскіх палітычных, грамадзкіх і культурных дзеячоў. Асабліває цікавасьці, праўда, яны ня маюць. Найбольш „свабоды“ і беспасрэднасьці ў трактаваньні выяўляюць портрэты пісьменьнікаў, сярод якіх можна зазначыць алеевы эскізны портрэт Якуба Коласа і скульптурны бюст Янкі Купалы работы *Бразэра* (76, 116). Большасьць іншых—зьяўляюцца офіцыйнымі заказнымі портрэтамі, і вызначаюцца характэрнымі для такога гатунку прац корэктнасьцю і сухасьцю выкананьня, як напр., работы *Кругера* (330-31, 35); найлепшым можна лічыць сур'ёзна задуманы і напісаны портрэт рэктара Вэтэрынарнага

Інстытуту Алонава, работы *Волкава,*—але і ён фактычна робіць ня зусім жыцьцёвае і крыху „казённае“ ўражаньне.

У портрэтавы спосаб вырашаны і некаторыя тэмы гістарычнага характару, якіх наагул на выстаўцы вельмі мала. Першай з іх зьяўляецца Францішак Скарына, прадстаўлены ў працах трох мастакоў: *Бразэра* (115), *Касталянскага* (287) і *Кругера* (334). Асновай для ўсіх была пакладзена вядомая портрэтавая гравюра скарынавай біблії 1517 г., крыху пераапрацаваная ў композыцыйным сэнсе. У першым выпадку мы маем пагрудны бюст, у двох другіх—алеевыя портрэты, таксама пагрудны і ў цэлы рост. Вядомая „заказнасьць“, або хутчэй нават прыстасаваньне працы да пэўных абставін у сувязі з сьвяткаваньнем 400-лецьця беларускага друку—паклала таксама і на іх некаторы адбітак сьпешкі і мэханічнасьці; апроч таго, ува ўсіх трох ня зусім задавальняе і портрэтавае падабенства.



**А Тычына.** З сэрыі „На Вадаправодна-электрычнай станцыі“, № 606.

Другая гістарычная тэма, часткова таксама прадстаўленая ў портрэце, гэта Кастусь Каліноўскі, фігуру якога мы знаходзім у працах некалькіх мастакоў. Як портрэт, Каліноўскі ўзяты ў добрым бюсьце *Грубэ* (211) і ў менш удалым, занадта „апрошчаным“ алеевым портрэце *Кругера* (333). Той-жа Грубэ яшчэ раз паўтарае тую ж тэму, але цэлай фігурай, у цікаўным проекце стылізаванага помніка Каліноўскаму. Нарэшце, у двох аўтараў тэма Каліноўскага распрацавана цэлымі композыцыямі карціннага характару: гэта—акварэльны эскіз вучня Беларускага Мастацкага Тэхнікуму *Булычова* (797) і вялікае палатно *Волкава,* добра скомпанаванае, але таксама крыху эскізнае, ня зусім скончанае і некалькі недакладнае ў дэталях, як напр., у пэйзажы і вопратках, дзе мала вытрыманы належны беларускі характар.



**В. Волкаў.** „Кастусь Каліноўскі“, № 158.

Іншых гістарычных тэм, на вялікі жаль, на выстаўцы зусім няма, калі ня лічыць некалькіх композыцый з рэволюцыйных падзей на Беларусі (153, 641, 769-70), якія наагул вельмі няўдалы і зусім не адпавядаюць значнасьці тэмы. Адзіным выключэньнем зьяўляецца толькі эскізная, праўда, але экспрэсыўная праца вучня *Булычова* „Даёш Варшаву!“ (808) на тэму з часоў барацьбы з палякамі за вызваленьне Беларусі.

Нарэшце, на самым апошнім па колькасьці месцы сярод „краязнаўчых“ сюжэтаў можна зьмясьціць тыя працы, асновай якіх зьяў-

ляюцца мотывы беларускае народнае творчасьці, апрацаваныя ў характары тэматычнай, або формальнай стылізацыі. Да першых належаць сюжэты з вуснае поэтычнае творчасьці, сярод якіх заслугоўваюць увагі ілюстрацыі да народных казак *Філіповіча* (644—46) і тэма „Машэкі“, праломленая праз тэатральную прызму ў вялікім дэкорацыйным панносумеснае працы *Марыкса* і *Ціханава* (442). Другую катэгорыю складаюць спробы стылізацыі і перакомпаноўкі беларускага орнамэнту ў параўнальна нямногіх, але цікаўных працах. Тут варта зазначыць кніжныя аздобы *Тычыны* на мотывы народнай тканіны, драўлянай разьбы і слуцкіх паясоў (611-12), прыгожы эскіз для сьцяга Беларускага Мастацкага Тэхнікуму, зроблены *Лебедзевай* (405), якая, на жаль, не экспонавала на выстаўцы яшчэ цэлы шэраг сваіх вельмі ўдалых графічных прац на тэмы старажытнага беларускага орнамэнту,—нарэшце, клясныя працы таго-ж Тэхнікуму (752—764), дзе распрацоўка беларускіх орнамэнтальных мотываў ставіцца, як адна з асноўных задач, з мэтай наданьня ў далейшым усёй навучальнай дзейнасьці гэтае ўстановы вядомага практычнага, вытворча-прыкладнога характару. Усе гэтыя працы, бясспрэчна, зьявіліся на выстаўцы адным з найбольш цікаўных матар'ялаў, і можна толькі пашкадаваць, што апроч Мастацкага Тэхнікуму, яны ў большасьці выпадкова знашлі сабе месца сярод вытвораў вельмі нямногіх мастакоў.

Падводзячы падрахунак зробленаму намі разгляду, мы можам вызначыць, як адзін з плюсаў організацыі выстаўкі,—у першую чаргу тое, што самым складам сваіх экспонатаў яна дазволіла рэальна і востра паставіць пытаньне аб зьместавых і тэматычных кірунках і часткова вырашыць яго ў пажаданым сэнсе; падругое—што нават самым разьмеркаваньнем экспонатаў па „краязнаўчых“ тэмах яна выразна выявіла тыя хібы і недахваты, якія выяўляе наша сучаснае мастацтва ў даных адносінах, і палягчыла для нашых мастакоў адшуканьне далейшых правільных шляхоў. Зазначаная намі перавага пэйзажу і тыпаў над іншымі тэмамі зьяўляецца, бясспрэчна, ледзь ня самай асноўнай хібай, якая паказвае нашым мастаком чарговую задачу ў іх далейшай працы: узмацніць занятыя імі позыцыі па іншых тэмах, асабліва бытавых, гістарычных і рэволюцыйных, каб дасягнуць у сваёй творчасьці адпаведнай часу тэматычнай роўнавагі. Зразумела, што самае галоўнае пры гэтым—гэта і наагул бліжэй падыйсьці да грамадзкае працы, выйсьці з сваёй адасобленасьці і замкнёнасьці, зацікавіцца ня толькі ў тэорыі. але і на практыцы агульнымі задачамі нашага соцыяльнага і культурнага будаўніцтва. „Бліжэй да жыцьця і яго рэальных інтарэсаў!“—так можа быць формуляваны чарговы лёзунг для патрэбнага нам мастацтва, які, спадзяемся мы, знойдзе сабе да часу другой усебеларускай выстаўкі, з абмежаванымі ўжо мэтамі і праграмай,—належны водгук у штодзённай творчасьці нашых мастакоў.





К. Папоў.

# Сьмяротнасьць грудных дзяцей у БССР[1]).

Пытаньне аб сьмяротнасьці дзяцей ужо многа разоў асьвятлялася ў друку як у СССР, гэтак і ў Заходняй Эўропе. У жыцьці народаў гэтае пытаньне зьяўляецца надзвычайна важным. Вялікая сьмяротнасьць дзяцей можа лічыцца аднэй з прычын культурнай і эканомічнай адсталасьці і беднасьці народу. Без пары памершае дзіця нясе з сабой у магілу ўсю тую працу і ўвесь той капітал, якія былі страчаны на яго. З другога боку павялічэньне дзіцячай сьмяротнасьці зьвязана з адпаведным павялічэньнем нараджальнасьці. У зьвязку з гэтым павялічваюцца пэрыоды цяжарнасьці матак, і, значыць, зьмяншаецца працаздольнасьць жанчын. Нараджальнасьць звычайна бывае вышэйшай, чымся сьмяротнасьць, так што вялікая сьмяротнасьць не пагражае зводам народу. Аднак трэба помніць, што занадта вялікая нараджальнасьць вядзе да высіленьня організму жанчыны, а з гэтай прычыны зьяўляецца непажаданай.

Гаворачы аб нараджальнасьці і сьмяротнасьці, трэба адзначыць, што першая зьяўляецца фізыолёгічнай зьявай, тады як апошняя ёсьць заўсёды фактам паталёгічным. Фізыолёгічнай зьявай сьмерць бывае тады, калі чалавек паміраe, дажыўшы да глыбокай старасьці. Але, як убачым ніжэй, сьмяротнасьць дзяцей у першыя гады іх жыцьця бывае асабліва вялікай. Дзеці паміраюць асабліва ў вялікім ліку тады, калі яны толькі пачынаюць жыць,—а гэта ўжо глыбока паталёгічная зьява.

Залежыць гэтая зьява шмат ад якіх прычын і ў знайчнай меры ад санітарных умоў, у якіх жыве даная група людзей. Osterlein у сваёй кнізе: Handbuch der Medicinischen Statistick" кажа: „сьмяротнасьць сярод дзяцей лепш за ўсё сьведчыць аб санітарным стане данай мясцовасьці, бо, запраўды, гэтыя слабыя істоты менш за ўсё маюць магчымасьць змагацца з вынікамі ўсякіх санітарных недаглядаў і першыя бываюць іх ахвярамі".

Сьмяротнасьць зьмяняецца ў залежнасьці ад роду, узросту, сямейных умоў; яна залежыць ад клімату, пары году; яна бывае рознай у гарадох і вёсках; яна зьвязана з культурным і эканомічным станам народу.

Паводле Сьмітэна, калі сьмяротнасьць значна хістаецца, павышаючыся і зьніжаючыся пры ўсякіх зьменах соцыяльных умоў, дык гэта

[1]) Даклад, прачытаны на пасяджэньні мэдычнай сэкцыі Інбелкульту 4 студзеня 1926 г.

сьведчыць, што нацыя ўладае слабой здольнасьцю змагацца з сіламі прыроды. Мацнейшыя народы перажываюць бяду без такіх цяжкіх вынікаў.

Усё гэта ўзятае разам яшчэ раз даводзіць надзвычайную важнасьць пытаньня аб дзіцячай сьмяротнасьці і прымушае нас усебакова вывучаць і ацэньваць яго.

Пытаньне аб сьмяротнасьці дзяцей у БССР дагэтуль не высьвятлялася належным чынам. Недахват статыстычных матар'ялаў, цяжкія вынікі імпэрыялістычнай і грамядзянскай вайны — не давалі магчымасьці дакладна падлічыць выпадкі сьмерці дзяцей. Толькі цяпер, калі наладжаны статыстычныя апараты, мы маем дакладныя лічбы і можам зрабіць вывады з іх.

Сярод даваенных дзяржаў Эўропы паводле дзіцячай сьмяротнасьці на першым месцы стаіць Расія, у якой на 100 народжаных дзяцей 25—30 памірае, не дажыўшы да аднаго году. Гэта відаць з наступнай табліцы (паводле даных за 1909—1911 г.):

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Расія . . . . | 25,4 | проц. | Францыя . . . | 11,5 | проц. |
| Вугоршчына . | 20,4 | „ | Ангельшчына . | 11,4 | „ |
| Аўстрыя . . . | 20,2 | „ | Швайцарыя . . | 10,7 | „ |
| Нямеччына . . | 17,5 | „ | Швэдзія . . . | 7,3 | „ |
| Італія . . . . | 15,0 | „ | Норвэгія . . . | 6,8 | „ |

Побач з Расіяй вялікай дзіцячай сьмяротнасьцю адзначалася Аўстра-Вугоршчына. Сярэдняй сьмяротнасьцю адзначаюцца Італія і Францыя; на апошніх месцах стаяць Скандынаўскія дзяржавы. Парадак гэты мала зьмяняецца ў працягу гадоў.

Калі-ж цяпер мы паглядзім на разьмяшчэньне дзіцячай сьмяротнасьці па тэрыторыі былай Расіі, дык убачым, што асабліва вялікай сьмяротнасьцю грудных дзяцей у 1903 годзе адзначаліся пераважна ўсходнія і сярэднія часткі Эўропэйскай Расіі, а ўласна:

а) сьмяротнасьць грудных дзяцей ад 34,3 проц. да 38,6 проц. была ў былых губэрнях: Пермскай, Пскоўскай, Калускай, Ноўгародзкай, Олонецкай, Тварской, Уладзімерскай, Ніжагародзкай, Смаленскай, Кастрамской.

б) Ад 27,3 проц. да 33,7 проц. сьмяротнасьць грудных дзяцей дасягала ў б. губэрнях: Яраслаўскай, Маскоўскай, Пензенскай, Сымбірскай (цяпер Ульлянаўскай), Вяцкай, Валагодзкай, Арлоўскай, Пецярбурскай (цяпер Ленінградзкай), Саратаўскай.

в) Сярэднюю сьмяротнасьць—23,0 проц.—26,7 проц.—мы бачым у былых губэрнях: Тамбоўскай, Разанскай, Тульскай, Самарскай, Орэнбўрскай, Варонескай, Віцебскай, Курскай, Астраханскай, Архангельскай.

г) Паміж 19,0 проц. і 22,0 проц. сьмяротнасьць хісталася ў губэрнях: Харкаўскай, Данской краіне, Казанскай губ., Чарнігаўскай, Кіеўскай, Горадзенскай, Магілеўскай, Бесарабскай, Ліфляндзкай; іначай кажучы, заходнія ды паўднёвыя губэрні.

д) Нарэшце найменшая сьмяротнасьць грудных дзяцей (14,0 проц.— 18,0 проц.) была ў б. губ.: Менскай, Уфімскай, Кацярынаслаўскай, Валынскай, Палтаўскай, Хэрсонскай, Таўрычаскай (Крым), Віленскай, Падольскай, Курляндзкай, Эстляндзкай; значыць таксама на поўдні і на захадзе.

Калі мы возьмем сьмяротнасьць грудных дзяцей за 1904 год па былых Менскай, Магілеўскай і Віцебскай губэрнях, тэрыторыя якіх

прыблізна адпавядае сучаснай тэрыторыі БССР, ды выведзем сярэднюю лічбу, дык зможам параўнаць гэтую лічбу з адпаведнымі лічбамі за той-жа год па іншых дзяржавах Эўропы.

Даныя за 1904 год трохі адразьняюцца ад даных 1909—11 гадоў:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Расія . . . | 23,1 проц. | *Беларусь* . . . | 13,6 проц. |
| Аўстрыя . . | 21,3 „ | Голяндыя . . . | 13,6 „ |
| Нямеччына . | 19,9 „ | Швайцарыя . . | 13,1 „ |
| Італія . . . | 16,7 „ | Данія . . . . | 11,9 „ |
| Францыя . . | 13,9 „ | Швэдзія . . . | 9,2 „ |
| Ангельшчына | 13,8 „ | Норвэгія . . . | 8,1 „ |

Параўнаньне першай і другой табліцы сьведчыць, што дзіцячая сьмяротнасьць хістаецца ў шырокіх межах. Зразумела, што часовыя зьніжэньні і павышэньні бываюць вельмі часта, але калі прасачыць дзіцячую сьмяротнасьць за многа гадоў, дык сярэдняя за гэтыя гады будзе характэрнай для кожнай краіны.

У межах СССР РСФСР адзначаецца найвялікшай сьмяротнасьцю грудных дзяцей, УССР і БССР—найменшаю.

Па БССР, што складаецца з 10 акруговых гарадоў, у якіх жыве 408.606 насельнікаў, і 10 акруг з насельніцтвам у 3.422.166 чал. (даныя 1923 г.), толькі з 1922 г. можна прыводзіць дакладнейшыя лічбы. За ранейшыя гады ёсьць толькі пагубэрскія даныя, якія кажуць, што, напрыклад, у 1909 годзе ў межах трох беларускіх губэрань сьмяротнасьць грудных дзяцей дасягала 17 проц., у той час, як па Расіі—да 23 проц.

За пазьнейшыя гады даныя аб сьмяротнасьці грудных дзяцей зьмешчаны ў наступнай табліцы:

| | Нарадзілася | Памерла | Народжана мертвымі | % сьмяротнасьці |
|---|---|---|---|---|
| **За 1922 год** | | | | |
| Па гарадох . . . . . | 5268 | 632 | 22 | 12,0 |
| „ акругах . . . . . | 50.752 | 5.110 | 6 | 10,1 |
| „ БССР . . . . . . | 56.020 | 5.742 | 28 | 10,2 |
| **За 1923 год** | | | | |
| Па гарадох . . . . . | 15.676 | 1.392 | 132 | 8,8 |
| „ акругах . . . . . | 133.552 | 11.949 | 25 | 8,9 |
| „ БССР . . . . . . | 149.228 | 13.341 | 157 | 8,9 |
| **За 1924 год** | | | | |
| Па гарадох . . . . . | 15.151 | 1.689 | — | 11,1 |
| „ акругах . . . . . | 143.859 | 14.052 | — | 9,8 |
| „ БССР . . . . . . | 159.010 | 15.741 | — | 9,9 |

Па асобных акруговых гарадох і асобных акругах сьмяротнасьць грудных дзяцей была такой:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Барысаў . . | 14,5 проц. | Слуцкая акруга . . | 13,9 проц. |
| Віцебск. . . | 13,2 „ | Менская „ . . | 13,6 „ |
| Полацак . . | 13,0 „ | Бабруйская „ . . | 10,9 „ |
| Ворша . . . | 11,8 „ | Аршанская „ . . | 10,5 „ |
| Менск . . . | 11,2 „ | Мазырская „ . . | 9,8 „ |
| Мозыр . . . | 10,4 „ | Барысаўская „ . . | 9,6 „ |
| Магілеў . . | 9,9 „ | Віцебская „ . . | 8,6 „ |
| Бабруйск . . | 9,8 „ | Калінінская „ . . | 7,4 „ |
| Слуцак . . | 8,1 „ | Магілеўская „ . . | 7,4 „ |
| Клімавічы . . | 7,6 „ | Полацкая „ . . | 5,8 „ |

Трэба адзначыць, што на першым годзе жыцьця дзіцячая сьмяротнасьць бывае найвялікшай, прычым асабліва небясьпечным зьяўляецца першы месяц жыцьця дзіцяці. Небясьпека сьмерці ў першым месяцы ў два разы большая, як у другім, амаль што ў 4 разы большая, як у сёмым месяцы, у 7 раз большая, чымся на дванаццатым месяцы.

Прычыны гэтага лёгка зразумець, пазнаёміўшыся з асаблівасьцямі груднога ўзросту. Перад намі недасканалы организм, які раптоўна перашоў з умоў унутранога жыцьця ў умовы жыцьця самастойнага, знадворнага. Организм гэты расьце, прычым рост паасобных органаў ня йдзе роўналежна з іх разьвіцьцём. Звычайна пэрыоды інтэнсыўнага росту чаргуюцца з пэрыодамі зацішша, у працягу якіх органы дзіцяці ўдасканальваюць свае функцыі. Гэтая важная пасьлядоўнасьць пэрыодаў росту і ўдасканаленьня функцый магчыма толькі пры добрых знадворных умовах. Знадворныя ўмовы могуць зьмяніць і парушыць увесь нормальны ход росту і разьвіцьця організму.

Як функцыі, гэтак і самая будова органаў новароджанага дзіцяці ня маюць належнай дасканаласьці. Новароджаны не ўладае здольнасьцямі, патрэбнымі да змаганьня з бактэрыямі. Асабліва гэта ўласьціва дзецям, узгадаваным на штучным харчаваньні, і мы бачым, што запраўды сьмяротнасьць сярод іх многа вышэйшая, чымся сярод тых дзяцей, якія харчуюцца жаночым малаком. Слаба разьвітыя ныркі ня могуць выводзіць з організму дзіцяці поўнасьцю ўсе продукты абмену; галаўныя мазгі дзіцяці таксама слаба разьвітыя і ня могуць належна рэгуляваць утварэньне і аддачу цяплыні; печань ня мае яшчэ належнай здольнасьці рабіць няшкоднымі тыя атрутныя матэрыі, якія трапляюць да яе з кішэчніка. Будова груднoе клеткі, паземны кірунак рэбраў, роўналежнасьць міжрэбравых цягніц, высокае стаяньне дыяфрагмы, шырокая сетка капіляраў,—усё гэта фактары, дзякуючы якім хваробы лёгкіх у новароджаных бываюць вельмі цяжкімі, што пагаршаецца яшчэ недасканалай пабудовай сэрца. Утварэньне фэрмэнтаў даператраўленьня стравы ў грудных дзяцей таксама няразьвіта; організм іх дапасаваны толькі да жаночага малака, з якога яны здабываюць элемэнты, патрэбныя да барацьбы з інфэкцыяй.

Дзякуючы ўсяму гэтаму, груднoе дзіця зьяўляецца вельмі слабым у адносінах да самых малых зьмен у знадворных умовах. Нават невялікія недахваты догляду выклікаюць моцную рэакцыю ў дзіцячым організьме. З гэтае прычыны блізка што палова ўсёй дзіцячай сьмяротнасьці ад нараджэньня да 15 год прыпадае на грудны ўзрост.

Зразумела, што бытавыя асаблівасьці кожнага народу адбіваюцца на дзіцячай сьмяротнасьці. Не дарма гавораць, што велічыня сьмяротнасьці ў кожнай краіне адваротна пропорцыянальна культурнасьці і дабрабыту насельнікаў. Ня дзіва, што ў Беларусі, якую лічаць аднэй з найбяднейшых і адсталых краін, лічба сьмяротнасьці грудных дзяцей такая высокая, і ў 1909 годзе дасягала 17 проц. Аднак, калі мы параўнаем умовы быту, культурнасьць і дабрабыт насельнікаў Беларусі з адпаведнымі данымі аб іншых рэспубліках нашага Саюзу, дык убачым, што справа стаіць ня так ужо кепска і ў кожным выпадку ня горай, а значна лепей, чымся, напрыклад, у суседніх раёнах Вялікарусі, ня кажучы ўжо аб Прыуральскіх краёх.

Гэты факт яшчэ ў 1906 годзе быў адзначаны проф. Гундобіным, і гэта-ж выцякае з усіх статыстычных матар'ялаў, якія прыводзяцца рознымі аўтарамі.

На дзіцячую сьмяротнасьць уплывае, відавочна, ня толькі эканомічная заможнасьць. У Надбалтыцкіх рэспубліках, у былых губэрнях Курляндзкай, Ліфляндзкай, Эстляндзкай, сяляне мелі менш зямлі, чымся ў цэнтральных і ўсходніх частках б. Расіі, але сьмяротнасьць грудных дзяцей там была многа меншая.

Варта затрымацца на некаторых асаблівасьцях нашага быту, якія ўплывалі на сьмяротнасьць грудных дзяцей на Беларусі. Пасты, якія зьнясільваюць матак, звычай крашчэньня ў халоднай вадзе, абрад разьвітаньня з нябожчыкам, нават у тым выпадку, калі ён памёр ад заразьлівае хваробы,—усе гэтыя звычаі значна павялічваюць дзіцячую сьмяротнасьць. Цікава, што сярод стараавераў, якія былі вядомы асаблівай строгасьцю ў выкананьні ўсіх рэлігійных абрадаў, сьмяротнасьць дзяцей была найвышэйшая.

Сярод беларускіх сялянак даволі часта сустракаецца погляд, нібы дзіцяці мала матчыных грудзей, нібы дзіця галадуе. Гэты погляд часам прымушае матак даваць дзіцяці соску амаль што з першых дзён яго жыцьця. Бывае нават, як гэта адзначана і ў этнографічных зборніках, што калі жанчыне прыходзіць час раджаць, дык робяцца захады, каб ніхто ня ведаў аб гэтым, каб ніхто ня мог „уракнуць" дзіця. Потым клічуць бабку, якая пры цяжкіх родах часам прымушае жанчыну насіць цяжкасьці, сьціскае ёй жывот або, што яшчэ горай, прымушае яе скакаць цераз парог. Калі гэта не памагае, клічуць на дапамогу шаптуху, і ўжо абедзьве пачынаюць „дапамагаць" шэптамі. Толькі патраціўшы дарма час, скарыстаўшы ўсе хатнія „спосабы" клічуць акушэрку ці вязуць у больніцу.

Амаль што не на другі дзень пасьля родаў, ня гледзячы на надвор'е, хаця-б сабе стаялі маразы, нованароджанага вязуць за многа вёрст да папа, а па звароце дамоў пачынаюць сьвяткаваць хрэсьбіны. І вось у душнай, дымнай хаце, дзесь у запечку дзіця пачынае сваё жыцьцё.

Але горш за ўсё—гэта штучнае кармленьне, якое вельмі шкодзіць дзецям, асабліва ўлетку, калі маці, занятая цэльны дзень у полі, ня можа сама даглядаць дзіця, а даручае яго або малым або старым. У гэты гарачы час гіне каля паловы грудных дзяцей ад хвароб жалудка і кішак. Сярод дзяцей, якія кормяцца жаночым малаком, сьмяротнасьць у 6 раз меншая, чымся пры штучным харчаваньні.

Цемра і адсутнасьць самых пачатковых ведаў па гігіене груднога ўзросту таксама зьяўляецца аднэй з прычын вялікай дзіцячай сьмяротнасьці.

Усё гэта адносіцца галоўным чынам да вёскі, але ў гарадох справа стаіць ня лепей. Высокая сьмяротнасьць у гарадох тлумачыцца соцыяльнымі і санітарнымі ўмовамі жыцьця. Заработкаў мужчыны часта не хапае на забясьпечаньне сям'і, і за працу бярэцца жанчына, якая з гэтае прычыны пераводзіць дзіця на штучнае кармленьне, што звычайна ўскладняецца цяжкім здабываньнем у горадзе добрага малака. З другога боку згруджанасьць людзей у вялікіх гарадох выклікае антысанітарныя ўмовы ў памяшканьнях. Ня дзіва, што сьмяротнасьць па гарадох амаль што роўная з сьмяротнасьцю на вёсцы, а часам нават бывае большаю. Апрача таго, па гарадох знаходзяць для сябе выгаднейшыя ўмовы гэткія соцыяльныя хваробы, як сухоты, пранцы, алькоголізм, у выніку якіх нараджаюцца дзеці, няздольныя для самаабароны з першых дзён свайго жыцьця. Цяжкая фізычная праца, дрэнныя харчы, адсутнасьць сьвежага паветра—вось тыя фактары, якія па гарадох больш, чымся на вёсцы, шкодзяць здароўю матак. Вось чаму процант мёртвароджаных у гарадох многа вышэйшы, як на вёсцы. Так, у 1923 г. на Беларусі мёртвароджаных было 157, з якіх 132—у горадзе.

Асноўныя прычыны сьмяротнасьці грудных дзяцей на Беларусі, відаць, паўтараюцца і ў іншых краёх, у якіх сьмяротнасьць дзяцей такая самая або яшчэ большая.

Запраўды, чаму ў суседняй рэспубліцы—Вялікарусі—сьмяротнасьць дзяцей многа большая, як на Беларусі.

Ужо самае палажэньне Беларусі ў беспасрэднай блізкасьці да Заходняй Эўропы не магло не адбіцца на культурнасьці беларусаў, а разам з тым і на дзіцячай сьмяротнасьці.

Мы бачылі, што ў межах былай Расіі найвялікшая сьмяротнасьць грудных дзяцей заўважана на паўночным усходзе і найменшая—на захадзе. Паводле Майера сьмяротнасьць дзяцей залежыць ад амплітуды хістаньняў тэмпэратуры паветра. Гэтым можна растлумачыць вялікую сьмяротнасьць у такіх губэрнях, як Вяцкая ці Пермская. Адносна мяккі клімат і малыя амплітуды тэмпэратур на Беларусі, магчыма, і зьмяншаюць тут процант дзіцячай сьмяротнасьці. У сувязі з мяккім кліматам на Беларусі ня бывае такіх сухменяў і зьвязаных з імі неўраджаяў, як на ўсходзе, дзе голад ад часу да часу павявлічвае і сьмяротнасьць дзяцей.

Пераважная большасьць насельніцтва Беларусі—сяляне. Гэтая акалічнасьць, малы процат фабрычнага люду ў параўнаньні, скажам, з Сярэдняй Маскоўшчынай або Уралам таксама можа лічыцца аднэй з прычын адносна меншай дзіцячай сьмяротнасьці на Беларусі, бо, як вядома, сярод фабрычнага люду, дзе маці працуе на фабрыцы і пакідае без належнага догляду дзіця, сьмяротнасьць дзяцей яшчэ большая, як сярод сялян. Праца на фабрыцы дрэнна ўплывае на здароўе маткі і ў выніку гэтага народжаныя ёю дзеці часьцей бываюць кволымі і нежыцьцяздольнымі. У фабрычных раёнах процант мёртвароджаных значна большы, чымся ў краёх сельска-гаспадарчых: У Уладзімерскай губ. на 100 народжаных дзяцей памірае да 1 году.

| | | |
|---|---|---|
| Сярод фабрычнага люду | . . . . | 51,7 проц. |
| „ сялян | . . . . | 33,3 „ |

Нельга абмінуць пытаньня аб пашырэньні алькоголізму і пранцаў на Беларусі і ў Вялікарусі. Тут таксама трэба адзначыць лепшыя ўмовы на Беларусі, бо гэтыя дзьве хваробы асабліва пашыраны ў фабрычных раёнах, якіх на Беларусі вельмі мала.

Нарэшце, большы процант яўрэяў на Беларусі таксама зьяўляецца аднэй з прычын таго, што агульная сьмяротнасьць дзяцей тут меншая, бо дзіцачая сьмяротнасьць сярод яўрэяў многа меншая, як сярод беларусаў або вялікарусаў. Так, па статыстыцы 1911-1912 г. проц. сьмяротнасьці грудных дзяцей у межах Беларусі быў такі:

| У 1911 г. | | У 1912 г. | |
|---|---|---|---|
| Сярод беларусаў . . . | 17 проц. | Сярод беларусаў . . | 18 проц. |
| „ палякаў . . . . | 10 „ | „ палякаў . . . | 12 „ |
| „ яўрэяў . . . . | 5 „ | „ яўрэяў . . . | 6 „ |

А ў межах Расіі

| | |
|---|---|
| Сярод вялікарусаў . . | 28,5 проц. |
| „ палякаў . . . | 15 „ |
| „ яўрэяў . . . . | 12,8 „ |

Меншая сьмяротнасьць сярод яўрэяў тлумачыцца галоўным чынам тым, што яўрэйская маці ў большасьці выпадкаў сама корміць сваё дзіця да 12—16 месяцаў. Мы ўжо адзначалі, што штучнае кармленьне—адна з самых важных прычын вялікай дзіцячай сьмяротнасьці. Малая сьмяротнасьць грудных дзяцей у Швэдзіі і Норвэгіі тлумачыцца галоўным чынам тым, што там маткі самі гадуюць і кормяць сваіх дзяцей.

Нават сярод башкіраў і татараў, якія жывуць у горшых санітарных умовах, чымся мы, сьмяротнасьць грудных дзяцей меншая, бо згодна звычаю, маткі там кормяць сваім малаком дзяцей да 12—18 месяцаў, не пакідаючы іх нават у час працы ў полі.

Меншы процант сьмяротнасьці дзяцей сярод польскай люднасьці ў межах Беларусі тлумачыцца большай культурнасьцю і пісьменнасьцю яе ў параўнаньні з беларусамі.

У заключэньне трэба адзначыць усе тыя мерапрыемствы, якія праводзіліся на Беларусі з мэтаю зьніжэньня дзіцячай сьмяротнасьці, а таксама падкрэсьліць тое, што належыць зрабіць у далейшым.

Адзіным спосабам зьніжэньня сьмяротнасьці дзяцей зьяўляецца падняцьце культуры народу і яго матар'яльнага дабрабыту. Толькі гэтымі фактарамі, галоўным чынам, і тлумачыцца той высокі процант сьмяротнасьці дзяцей, які мы адзначаем у іншых рэспубліках нашага Саюзу. Але для падняцьця культуры на належную вышыню патрэбна будзе шмат гадоў, між тым сьмяротнасьць дзяцей можа быць значна зьніжана і цяпер. Перш за ўсё дзяржава павінна зьвярнуць увагу на аздараўленьне матак, бо ад іх здароўя залежыць здаровае пакаленьне, а таму стварэньне цэльнай сеткі консультацый для цяжарных зьяўляецца безадкладнай патрэбай. Гэтыя консультацыі трэба шырака распаўсюдзіць па вёсцы, бо там асабліва народ знаходзіцца пад уладаю забабонаў. Потым, стварэньне сеткі дзіцячых устаноў—консультацый, ясьляў—паставіць справу аздараўленьня дзіцяці на належную вышыню. Не падлягае ніякаму сумненьню, што ў тых мясцовасьцях, дзе гэтыя дзіцячыя ўстановы асабліва разьвіты—сьмяротнасьць сярод дзяцей значна меншая. Усе гэтыя ўстановы робяць вельмі значны моральна-выхаваўчы ўплыў як на матак, так і на дзяцей. Знаёмства з правіламі догляду за дзіцем павінна быць шырака распаўсюджана сярод мас і гэтай популярызацыяй магчыма ўжо зрабіць многа. У нас

на Беларусі за першыя 5 год рэволюцыі гэткіх-ўстаноў было вельмі мала: 16 консультацый, 7 ясьляў, 6 малочных кухань і 14 палявых ясьляў, якія абслугоўвалі 5.300 дзяцей. З кожным годам сетка гэтых ўстаноў расьце і пашыраецца і ўжо ў першай палове 1925 году па ўсёй Беларусі налічвалася: консультацый—25, ясьляў—13, палявых ясьляў—45, якія абслугоўвалі ўжо 21.183 дзяцей.

Зразумела, і гэта яшчэ малы лік, каб належна змагацца з сьмяротнасьцю дзяцей. Для гэтага патрэбна ўсе паказаныя ўстановы пасунуць на вёску. Гэта і павінна быць чарговым заданьнем „Охматмлада“.

## Літаратура:


1. С. А. Новосельский. Статистический материал по вопросу о высокой смертности в России.
2. Статистика Российской Империи—т. 70.
Движение населения в Евр. России за 1903 г. изд. Центр. Стат. К-та за 1909 г.
3. Гундонбин. Детская смертность в России—1906 г.
4. Сан.-Стат. таблица за 1910 г.—Куркина.
5. Причины детской смертности и в чем должна состоять борьба с детской смертностью. П. С. Медовикова.
6. Вечер И. С. Охрана Труда. Изд. 1918 г.
7. Труды 3-го С'езда врачей Минской губ.—1914.
8. Стат Сборник о состоянии народного здравия в России за 1904 г.
9. Сан.-Стат. Таблицы за 1903, 1904 и 1909 г. г., Изд. Центр. Стат. К-та.
10. Osterlein—Handbuch der Medicinischen statistic.







Н. Савіч.

# Аб расьліннай шаце Магілеўскай акругі.

*(Паводле абсьледваньня 1925 г.).*

Магілеўская акруга ляжыць у вадазборы р. Дняпра паміж 54°15′ і 53°5′ паўночнай шырыні.

Паводле сваёй паверхні акруга зьяўляецца эрозійнай раўнінай, няроўнасьці якой утварыліся, дзякуючы, галоўным чынам, размывальнай дзейнасьці мясцовых рэк. Найважнейшыя з гэтых рэк: Дняпро, яго правыя прытокі—Друць і Лахва—і левыя прытокі—Ухлясьць і Сож з Проняй. Гэтыя рэкі маюць многа невялікіх прыток: рэк, рэчак і ручайкоў, якія ўва ўсіх кірунках перараваюць акругу і размываюць раўніну, утвараючы яе няроўнасьці.

Маючы ў сваёй аснове даўныя геолёгічныя адклады, тэрыторыя Магілеўскай акругі на сваёй паверхні прыкрыта чацьвертараднымі адкладамі, пераважна ледавіковага, але часткай і пасьляледавіковага пахаджэньня. Ледавіковыя адклады складаюцца пераважна з чырвона-бурага марэнавага суглінку, з свайго боку прыкрытага супескавой земнай пародай, асабліва лёгкай удоўж далін вялікіх рэк.

Ад рэльефу і разам з тым ад вільгатнасьці, а таксама ад большай ці меншай лёгкасьці грунту залежыць і расьлінная шата акругі. Найвышэйшыя і найсушэйшыя месцы, звычайна найболей пескавыя, пакрыты барамі з верасавай шатай. На схілах такіх месцаў верас замяняецца поўхмызьнякамі-ягаднікамі, спачатку з перавагай брусьніцы, потым з панаваньнем чарніцы; сярод дрэў пры гэтым паступова павялічваецца колькасьць елак. Сасновы лес пераходзіць у ялова-сасновы на грунце цяжэйшым за баравы. Звычайна елка зьмяшчаецца ў другім паверсе і мае багаты падрост.

З памяншэньнем адноснай вышыні мясцовасьці, разам з тым з павялічэньнем вільгатнасьці, а звычайна пры гэтым і з павялічэньнем багацьця глебы, елка паступова замяняе хвою, і мы пераходзім у яловы лес з большай або меншай падмешкай хвоі, бярозы, асіны і з адзіночнымі экзэмплярамі клёну і дубу.

Падлесак складаецца з ляшчыны, брызьліны, рабіны і крушыны; замест поўхмызьняку зьяўляюцца травы, сярод якіх важную ролю граюць баршчоўка (або заячы шчавель, ці заячая капуста, Oxalis Acetosella), грушаўнік (Pirola secunda, Pirola rotundifolia), гарэлачкі або майнік (Majanthemum bifolium) і шмат іншых.

Нарэшце, яшчэ ў болей нізкіх і вільгатных месцах пераважваюць ліставыя пароды з большай або меншай колькасьцю шыракаліставых дрэў, як дуб, клён і ясень, месцам сільна павысяканыя ў часы акупацый і рэволюцыі. Ліпа за гэтыя гады так пацярпела, што яе можна лічыць зьнішчанай, хаця ў стане парасьлі яна сустракаецца блізка што паўсюды ў адпаведных акалічнасьцях. Ліставыя лясы маюць багаты падлесак, галоўным чынам, з ляшчыны і брызьліны (Evonymus verrucosus [1]). У травяной шаце пераважваюць тыповыя для ліставых лясоў добраполь (Galeobdolon luteum), падалешнік (Asarum europaeum), маруна (Galium Schultesii) і інш.

У яшчэ вільгатнейшых месцах пераходзім ужо да забалочаных лясоў, на першай ступені якіх стаіць ялова-альховы лес з панаваньнем папараці (Athyrium filix femina) у наземнай шаце.

Другой ступеньню забалочаных лясоў зьяўляюцца тыповыя альхоўцы.

Гэтыя дзьве апошнія формацыі каля вёсак звычайна расьцярэблены і перевернены на сенажаці і выганы.

Па мокрых альхоўцах сярод траў пануюць асокі, а сярод дрэў побач з вольхамі жывуць вярба і бяроза. Месцам апошняя пераважвае, і зьяўляецца новы прадстаўнік балотнай расьліннасьці—балотная хвоя. Тут мы маем балота пераходнага тыпу: яно пакрыта куп'ём, прычым купіны, утвораныя мохам, часта сфагнавым, дапасаваны да камлёў дрэў або да пнёў і зьяўляюцца кавалкамі махавога балота сярод балота асокавага, бо прамежкі паміж купін вельмі мокрыя і даюць прытулак галоўным чынам асокам.

З павялічэньнем колькасьці махавых плям застаецца менш мокрых зьніжэньняў і, нарэшце, усе махавыя купіны могуць зьліцца ў адну суцэльнасьць, так што мы ўбачым ужо не пераходнае, а тыповае махавое балота, імшару (Hochmoor), пакрытую скрозь мохам—Sphagnum'ам, багатую на падвей (Eriophorum vaginatum) і на каравую балотную хвою, якая ўздымаецца над больш-менш роўнай паверхняй тарфавішча.

Аднак, такія балоты ў Магілеўшчыне сустракаюцца пераважна па вадападзелах, у той час як асокавыя балоты з вольхай, бярозай і вярбой знаходзяцца ў нізкіх месцах рэчных далін.

Закончыўшы на гэтым апісаньне расьліннай шаты ў сувязі з рэльефам і вільгатнасьцю грунта, трэба адзначыць, што апроч рэльефу расьлінная шата залежыць таксама ад глебавых умоў, якія з свайго боку знаходзяцца ў сувязі з падгрунцем. Але з тэй прычыны, што падгрунце ў Магілеўскай акрузе адзначаецца рознастайнасьцю, у розных частках акругі пануюць розныя формацыі. Так, напрыклад, каля далін вялікіх рэк цягнуцца звычайна багатыя на пясок палосы, пакрытыя барамі. Апроч таго, сасновыя і саснова-яловыя лясы пануюць і ў сярэдняй часьці акругі і аддзяляюць адну ад другой палосы цяжэйшых грунтоў, якія ляжаць з аднаго боку на поўнач, з другога—на поўдзень ад паласы лягчэйшых глеб.

У сувязі з гэтым тэрыторыю Магілеўскае акругі можна падзяліць на тры краіны:

1) паўночная краіна адзначаецца перавагай яловых і мяшаных ялова-ліставых лясоў.

---

[1]) У вакрузе, нават у паўн.-зах. яе часьці, напр. у ваколіцах м. Есьманы, трапляецца і эўропэйская брызьліна (Evonymus europaeus), але ў меншай колькасьці.

2) Сярэдняя найвялікшая краіна мае асабліва многа сасновых і саснова-яловых лясоў і вельмі багата на імшары, а на захад ад Дняпра—таксама на астраўкі мяшанага лесу. Гэта дазваляе падзяліць сярэднюю краіну на дзьве падкраіны,—якія, груба кажучы, аддзелены адна ад аднэй Дняпром. З іх: а) усходняя падкраіна зьяўляецца больш-менш аднастайнай падкраінай сасновага і саснова-яловага лесу, а в) заходняя падкраіна адзначаецца меншай аднастайнасьцю і побач з барамі, па якіх праходзяць усе галоўныя дарогі, мае па нізкіх месцах больш-менш значныя астраўкі мяшанага ялова-ліставага лесу.

3) Паўднёвая краіна абымае найменшую плошчу і пакрыта мяшаным ялова-ліставым лесам, у якім прыметную ролю граюць шырока-ліставыя дрэвы. У той час як у сярэдняй паласе гэтыя лясы гуртуюцца ў вільгатных лагчынах, тут яны падымаюцца на груды і плоскія ўзвышшы. Паводле свайго складу тутэйшыя лясы могуць лічыцца лясамі болей паўднёвага тыпу, бо ў іх сустракаецца такое заходня-эўропэйскае дрэва, як граб. Месцам ён трапляецца выпадкова, больш-менш значнымі групамі, як напр., каля ст. Тошчыцы; месцам, напр., на поўдзень ад вёскі Боркі, ён мае багаты падрост і раскіданы па ўсёй тэрыторыі лесу.

Сярэдняя паласа сасновых і саснова-яловых лясоў зьяўляецца якбы паўночнай граніцай мяшаных лясоў, у якіх ёсьць граб. З другога боку яе можна лічыць паўднёвай мяжой некаторых паўночных расьлін. Так, напр., да гэтых толькі месцаў дасягае яленец, або ядловец (Juniperus communis) і шэрая вольха (Alnus incana), пашыраныя яшчэ ў паўночнай краіне. Яленец яшчэ пранікае ў сярэднюю паласу, але і то толькі ў невялікай колькасьці.





**О. Полянская.**

# Азалея понтыйская.

Азалея понтыйская (Azalia pontica L) або, як яе цяпер завуць, Rhododendron flavum Don. зьяўляецца аднэй з найбольш рэдкіх і найцікаўнейшых расьлін беларускай флёры. Гэта—хмызьняк, які належыць да тэй самай сям'і верасавых (Ericaceae), да якой належаць самыя звычайныя нашыя расьліны: верас, брусьніцы, чарніцы, багун.

Кусты азалеі дасягаюць двох мэтраў вышыні; лісты маюць адваротна-яйкавідную форму, сядзяць на кароткіх ліставых хвастках, а па краёх абсаджаны рэсьнічкамі. Кветкі азалеі буйныя, у 30-40 мілім. даўжынёй, пахучыя; вяночак вялікі, жоўты або памаранцавы, зраслапялёсткавы, у ніжняй палове мае форму трубачкі, якая зьверху пашыраецца ў леечку і падзяляецца на пяць частачак. Падвяночак караценькі, зялёны, да асновы пяціпадзельны, пакрыты маленькімі валаскамі. Тычачкі (у ліку 5) і шыйка слупка выдаюцца з вяночка. Плод—цыліндрычная пушачка з многалічнымі семячкамі. Красуе азалея ў маі (траўні) або ў пачатку чэрвеня. Мясцовая назва яе ў Мазыршчыне: „Божае дрэўка“ або „Ніцая лаза“[1]).

Батанікі здаўна зьвярнулі ўвагу на арыгінальныя і незразумелыя асаблівасьці географічнага разьмяшчэньня азалеі. Бацькаўшчына яе—горы Малой Азіі ды Каўказу, дзе яна вельмі пашырана і часта складае падлесак у букавых лясох. Апроч гэтых горных краёў, яна трапляецца яшчэ ў б. Валынскай губ., а ўласна ў Ровенскім, Новаград-Валынскім і Оўруцкім паветах. Надзвычайна дзіўна, што гэтая горная расьліна апынулася на раўніне Ўсходняе Эўропы, так далёка ад бацькаўшчыны. Гэтай зьявы батанікі пакуль што яшчэ не растлумачылі, хаця і прабавалі стварацъ шэраг дагадак [2]).

Апроч даўно вядомага Валынскага „вострава“, за апошнія гады выяўлены яшчэ некаторыя адасобленыя месцы на Ўсходня-Эўропэйскай раўніне, на якіх расьце азалея. Тры такія месцы знаходзяцца ў межах сучаснай Польшчы, а ўласна—у Паўночнай Галічыне каля места Ляжайска ды каля места Цешанува і яшчэ ў б. Люблінскай губ. каля места Туробіна [3]).

Аб тым, што азалея расьце на тэрыторыі БССР да апошняга часу ня было ніякіх зьвестак у літаратуры [4]).

---

[1]) Трэба асьцерагацца ўжываць гэтыя назвы, бо пад такімі самымі назвамі ведамы шмат якія іншыя расьліны ў межах Беларусі. (*Увага рэдакцыі*).

[2]) Гл., напр., працы Пачоскага, Шафэра, Туткоўскага і інш.

Найболей пашырана дапушчэньне, што азалея ёсьць рэштка (рэлікт) даўнай флёры трацьцёвага пэрыоду, якая існавала ў Палесьсі да ледавіковай эпохі.

[3]) Pax. Pflanzengeografie von Polen.

[4]) За выключэньнем кнігі Смоліча: „Географія Беларусі, выд. 2. Вып. I, Вільня 1922“, дзе на стар. 107 гаворыцца, што азалея расьце ў Паўднёвым Палесьсі без дакладнага адзначэньня месца (*рэд.*)

Толькі ў 1924 і 1925 г. г. у час геоботанічных досьледаў на Мазыршчыне мне пашанцавала, на падставе заяў мясцовых лясьнічых, адшукаць два месцы ў Мазырскай акрузе, у якіх расьце азалея. Адно з гэтых месцаў ляжыць у трох вёрстах ад паўднёва-ўсходняга кутка возера Князь каля хутару Бахін. Там азалея расьце чыстым зарасьнікам на забалочаным узьлесьсі. Гэтае месца аддзелена ад Валынскага



Азалея Понтыйская.

востраву азалеі адлегласьцю больш як у 100 вёрст. Другое, ужо менш цікаўнае месца Беларусі, у якім расьце азалея, знаходзіцца на поўдні Мазырскае акругі—у чатырох вёрстах ад вёскі Валаўск на беразе ракі Баціўлі. Тут азалея расьце на тарфяністай глебе на мяжы паміж поплавам і борам незаліванага берагу.

Магчыма, што апроч гэтых двох адзначаных месцаў знойдуцца на Беларусі і іншыя месцы, у якіх расьце азалея. Пажадана, каб краязнаўчыя організацыі, і асабліва краязнаўчыя організацыі Мазыршчыны, заняліся-б адшуканьнем такіх месцаў, а таксама паклапаціліся-б аб ахове азалеі. Сяляне зьбіраюць карэньне азалеі, як зельле ад каросты і як корм сьвіньням. Гэта можа быць прычынай аканчальнага зьнішчэньня на Беларусі гэтай рэдкай і цікаўнай расьліны.




Проф. П. Салаўёў.

# Аб вывучэньні малярыі.

Пры Ленінградзкай Акадэміі Навук пад старшынствам проф. Паўлоўскага існуе асаблівая сталая камісія па вывучэньні двухкрыльных шасьціногіх СССР. У Маскве пад загадам В. Нікольскага працуе энтомолёгічнае аддзяленьне. Ня гэтак даўно ў Украіне пры Протозойным Інстытуце таксама адчынілася энтомолёгічнае аддзяленьне пад загадам Ф. Яцэнка. Усе гэтыя організацыі, побач з асаблівымі малярыйнымі станцыямі, у большай ці меншай меры займаюцца вывучэньнем малярыйнага камара.

На Беларусі, у Менску, таксама існуе малярыйная станцыя. У Горках пры Беларускай Сельска-Гаспадарчай Акадэміі мне таксама не ўпяршыню прыпадае наглядаць біолёгію малярыйнага камара. Да гэтай справы я стараўся прыцягнуць і мясцовае таварыства краязнаўства. Але гэтага мала. Тэрыторыя Беларусі—даволі вялікая і мала вывучаная. На гэтай тэрыторыі многа балот і іншых вадазбораў з стаячай вадой, дзе могуць разьвівацца камары. Паўднёвыя часткі Беларусі, асабліва Мазыршчына, зьяўляюцца, як гэта можна чакаць, жывым музэем розных камароў. З гэтае прычыны было-б вельмі пажадана, каб усе краязнаўчыя організацыі БССР адгукнуліся-б на гэтую адозву і дапамаглі мне ў справе вывучэньня беларускіх камароў.

Кожны добра ведае, што малярыйны камар распаўсюджвае хваробу-малярыю, па мясцоваму хіндзю, трасцу або ліхаманку, а з гэтай прычыны трэба вывучаць яго географічнае пашырэньне.

У эўропэйскай частцы Саюзу налічваюць з поўдзесятка розных відаў малярыйнага камара. Самы звычайны па ўсім Саюзе гэта плямісты малярыйны камар (Anopheles maculipennis Mgn). Сустракаецца ён і ў нас у Горках.

Аднак, ёсьць грунт для думкі, што ў Беларусі можна спаткаць таксама ляснога малярыйнага камара (Anopheles bifurcatus Lin), які сустракаецца ў большай частцы Эўропы і адзначаны як у паўночных, гэтак і ў паўднёвых частках Саюзу. Ня вырашана пытаньне аб тым, ці жыве на Беларусі Anopheles plumbeus Steph., камар, які разьвіваецца ў лужынках пад карэньнем або ў дуплях дрэў. Шуканьне гэтых камароў каля Гомля пакуль што не дало ніякіх вынікаў, але магчыма, што дзесь на Мазыршчыне або на Бабруйшчыне такога камара адшукаюць.

Чым-жа і як могуць дапамагчы мне беларускія краязнаўцы ў справе вывучэньня камароў?

1. Саміцы плямістага малярыйнага камара зімуюць у дарослым стане разам з звычайнымі камарамі ў склепах, у стайнях і нават у жылых будынках. Туды яны залятаюць у восені, калі пачынае халаднець і калі людзі пачынаюць устаўляць другія шыбы ў вокны. Сядзяць яны ў працягу зімы на столі, або на сьценках памяшканьняў і вылятаюць з зімовак у раньнюю вясну. Трэба ўсіх камароў, якія зімуюць па памяшканьнях, лавіць ды зьбіраць або ў пустыя пушачкі з-пад сернікаў, або ў шкляныя спробаўкі (пробіркі), аддзяляючы камароў у спробаўцы аднаго ад другога ватай. Затым трэба перасылаць пушачкі ці спробаўкі або праз ЦБК з надпісам, дзе, калі і кім (адрас) камары зьбіраліся.

2. Калі ёсьць магчымасьць адзначыць час, калі камары селі зімаваць і калі яны павылятаалі ў вясну, дык гэтае назіраньне трэба запісаць і таксама пераслаць мне з адзначэньнем адрасу.

3. Можна лавіць дарослых камароў улетку падсачкам (сетачкай) і рабіць з імі таксама, як і ўзімку.

4. Лічынкі (чарву) камароў можна перасылаць жывымі ў вадзе, калі ёсьць каму іх перавезьці. Капшучкі (кукалкі) можна пераслаць прасьцей поштай, пералажыўшы іх мокрай ватай. Шукаць лічынкі і капшучкі можна ўсюды ў стаячай вадзе. Асабліва важна знайсьці лічынкі ў маленькіх лужынах у лесе пад карэньнем або ў дуплях і пнёх дрэў.

Таксама цікава было-б знайсьці зімуючыя лічынкі. У такім стане зімуе лясны камар (Anopheles bifurcatus L). Шукаць яго трэба ў чыстай жывой вадзе, якая не замярзае ўзімку.

*Адрас мой: Горкі, Беларуская С.-Г. Акадэмія, старшыні Горацкага раённага таварыства краязнаўства, профэсару П. Салаўёву.*






Проф. Яцанткоўскі.

# Аб зьбіраньні шасьціногіх у пачатку вясны.

Прыступаць да працы па зьбіраньні шасьціногіх трэба з самага пачатку вясны.

Нельга чакаць, пакуль сьнег зусім растане, бо іначай мы можам абмінуць шэраг цікаўных шасьціногіх, якія толькі ў пачатку вясны бываюць дарослымі.

Зьбіраць шасьціногіх у гэты час можна пры самым нязначным абсталяваньні, для гэтага трэба мець, галоўным чынам, добрыя ногі і хоць невялічкую зацікаўленасьць да прыроды.

Першыя нашыя экскурсіі мы падзелім на:

1) палявыя і лясныя,

2) вадзяныя.

А) Пры правядзеньні экскурсіі на поле і ў лес, можна абыйсьціся з наступным:

1) дзьвюма фунтовымі банкамі: прычым у вадну павінны быць пакладзены доўгія палоскі фільтравальнай паперы, а ў другую—да паловы вата.

У першую з іх будзем зьбіраць шасьціногіх, а ў другую матылёў; хаця апошнія ў пачатку вясны сустракаюцца рэдка, але-ж затое выклікаюць вялікую зацікаўленасьць. Дзеля ўмярцьвеньня шасьціногіх лепш за ўсё карыстацца воцатна-квасным этэрам, ад якога мясені (цягніцы) шасьціногіх пры размачваньні робяцца нормальна мяккімі; калі-ж гэты матар'ял прыходзіцца захоўваць выключна для матылёў, то шасьціногіх можна зьбіраць і жывымі; але толькі ў часе самае эскурсіі разьмяркоўваць іх па велічыні і зьмяшчаць драпежных па магчымасьці ў асобныя банкі. У хаце гэтыя банкі трэба некалькі хвілін трымаць у гарачай вадзе, або ў яе пары.

2) Некалькімі пушачкамі для зьбіраня а) вусеньніц, б) капшучкоў.

3) Некалькімі спробаўкамі з сьпірустам або слабым формалінам для зьбіраньня чарвы.

4) Нажом або лапаткаю.

5) Невялічкаю торбачкаю.

Пажадана было-б мець пінцэт і на запас яшчэ некалькі невялічкіх торбачак. Вось самае галоўнае, што нам патрэбна пры правядзеньні гэтае экскурсіі. З цягам часу, калі мы набудзем навык, зьявіцца і патрэбнасьць у павялічэньні нашага абсталяваньня. Маючы

вышэй пералічаныя прылады, можна скласьці надзвычайна добрую колекцыю мясцовай фаўны, далучыўшы сюды нашу энэргію і зацікаўленасьць да прыроды.

Б) Да вадзянай экскурсіі трэба падрыхтаваць падсачак, які лёгка зрабіць самому.

У палёх нашыя заданьні можна падзяліць на дзьве часткі:

1) непасрэдны лоў і

2) падрыхтоўка да будучай экскурсіі.

I. Лоў.

Дзе-ж у гэты час можна знайсьці цікаўных шасьціногіх?

Ува ўсіх патаемных куточках: пад карою старога пня, у гнілой яго драўніне, сярод імхоў пад каменьнем, кавалкам дрэва і інш. Зусім зразумела, што дзеля гэтага мы не павінны нічога абмінаць. Вось хоцьбы камень,—асьцярожна паднімем яго і спачатку агледзім яго зьнізу, а пасьля агледзім тое месца, дзе ён ляжаў. Большасьць шасьціногіх хутка ўцякаюць, дзеля чаго ня трэба і нам траціць дарма часу. Больш значныя экзэмпляры бяруцца проста пальцамі—баяцца атруты іх ня трэба, бо ў гэты час такіх шасьціногіх у нас няма. Драбнейшых злавіць бывае цяжэй. Тутака можна скарыстаць паліатыў: плюнуць на камень, змачыць сьлінаю кончык пальца і здабытак прыліпне да яго; далей асьцярожна скінем яго з пальца ў банку. Старайцеся не мачыць пальца ў роце—гэта негігіэнічна.

Месца, дзе ляжаў камень, аглядайце ўважліва, адкінуўшы адтуль усё сьмецьце. Гэта забясьпечыць вялікі лоў.

На старым пні абдзірайце ўсю кару, якая лёгка адстае і зьбірайце ўсё, што пад ёю знаходзіцца. Калі дрэва гнілаватае, дык нажом адламеце і агледзьце асяродкавіну.

Таксама агледзьце слуп або дрэва, аброслыя мохам і зьбірайце яго ў торбачку. Сярод яго мы знойдзем цэлы шэраг цікаўных шасьціногіх. Сабраны матар'ял можна ў хаце перабраць і раскласьці на чыстым аркушы паперы. Нельга абмінаць і леташняе лісьце і памытае цякучаю вадою сьмецьце; і тутака мы знойдзем нямала цікаўнага.

Уважліва аглядайце леташні гной; дзеля чаго зямлю зьверху пад гноем трэба нажом ці лапаткаю перакапаць; кавалак гною трэба падрабніць.

Ні ў якім выпадку ня варта абмінаць ям як без вады, гэтак сама і асабліва з вадою; там можна знайсьці тое, што нас цікавіць.

Трэба зьвярнуць увагу на берагі розных лужын, балот і інш. Туды вадою, або іншымі спосабамі заносяцца прадстаўнікі розных кляс шасьціногіх.

Вадзяную экскурсію лепш за ўсё праводзіць асобна ад палявой; у іншым выпадку для вадзяных шасьціногіх трэба мець асобную банку.

У час абыходу вадазбораў заўважым прысутнасьць шмат якіх шасьціножак у паветры. Некаторых з іх можна злавіць проста банкаю, але лепш за ўсё ў такіх выпадках браць з сабою асобны падсачак, які адрозьніваецца ад вадзянога тым, што ня мае драцянае сеткі, і пастараецца налавіць іх як мага больш.

У часы экскурсій належыць памятаць, што зьбіраць трэба ўсё, што пападзецца; баяцца таго, што ад гэтага пацерпіць фаўна шасьціногіх ня трэба.

Абавязкова трэба лічыцца з тым, што прыдзецца даць весткі аб умовах зьбіраньня, дзеля чаго належыць рабіць адпаведныя заўвагі ў запісной кніжцы.

II. Падрыхтоўка да будучых экскурсій.

1. Усякую паднятую і агледжаную рэч: камень, кавалак дрэва і інш. трэба класьці на тое самае месца, дзе яна была.

2. Калі камень, кавалак дрэва і інш. вельмі глыбака ўвашлі ў зямлю, дык трэба пакласьці іх на новае месца, прыціснуўшы трохі нагою, прычым трэба сачыць, каб гэтыя рэчы ляжалі шчыльна да зямлі.

3. Абадраны мох, кавалкі кары, драўніны, гледзячы па іх велічыні, трэба разьмяркоўваць большымі ці меншымі кучкамі; праз некалькі дзён пад імі можна знайсьці здабычу.

4. Цікаўны лоў здабудзем, калі зарыем банку, або бляшанку ўроўні з зямлёю. Добра пракопваць равочкі, дно якіх шырэй ад верху, выгляду △. Найменшыя разьмеры: шырыня 5-6 см., глыбіня ад 20 см. даўжыня, па магчымасьці большая; чым вастрэйшы вугал зьнізу, тым лепш. Шасьціногія мэханічна валяцца ў такія равочкі, адкуль ня могуць па пакатых сьценках выбрацца. На дно гэтых равочкаў трэба пакласьці сухога лісьця, кавалачкі кары, каб шасьціногія маглі хавацца, іначай можа быць сярод іх шмат пагрызеных. Можна спрабаваць класьці туды прынады: кавалкі мяса, старога сыру, высевак з мёдам. Прынады гэтыя пакажуць дзе і якая з іх дасьць большыя вынікі.

---

# МАТАР'ЯЛЫ З МЕСЦ.

**Натальлін.**

## Аб зьбіраньні слоўніка жывой мовы.

*(Голас з Быхаўшчыны).*

У № 1 часопісу „Наш Край“ зьмешчана, між іншым, вельмі каштоўная інструкцыя па зьбіраньні слоўніка беларускае мовы. Хоць гэтая інструкцыя ўсебакова абхоплівае і добра тлумачыць гэтую справу, але ўсё-ж такі мне, закіненаму ў самую гушчу беларускае вёскі, хочацца сказаць колькі слоў па гэтым пытаньні і разам падзяліцца сваімі думкамі, якія зьявіліся ў мяне на першых кроках маёй практыкі ў гэтым кірунку.

Усякая супольная праца вымагае, каб тыя, хто займаюцца ёю, чулі заўсёды сувязь між сабой і дзяліліся думкамі і вынікамі сваёй працы—гэта дасьць магчымасьць знайсьці правільны кірунак і сама праца будзе весьціся дружней. Гэта і дае мне сьмеласьць узяцца за пяро і накіраваць свае думкі да рэдакцыі „Нашага Краю“, хоць я толькі што прыняўся за справу, і мае думкі ёсьць вынік маіх назіраньняў у гэтай галіне.

Атрымаўшы інструкцыю, я перш за ўсё запытаў сябе: ці можна гэта набраць тысячу слоў? Але ўзяўшыся за гэта я ўбачыў, што тут ня тысячай пахне, што слоў у нашага селяніна так многа, што тут і заблутацца можна, і дзеля гэтага перш за ўсё за справу трэба прымацца асьцярожна, па раней апрацаванай сыстэме.

Зьбіраць словы можна парознаму. Першы спосаб гэта насіць у кішэні запісную кніжачку, у якую і заносіць усе словы, што пачуеш, а потым разносіць гэтыя словы па разьдзелах. Гэта можа выпаўніць усякі з нас, нават паміж іншых сваіх спраў.

Але ёсьць і другі спосаб, які хаця і ня можа зусім замяніць першага спосабу, але ёсьць многа ад яго лепшы. Гэта сыстэматычна разьбіраць якую-небудзь часьціну гаспадаркі, дакапваючыся да самых дробных рэчаў з імкненьнем нічога не прамінуць. Напрыклад, возьмем звычайную сялянскую печ і будзем сачыць за кожнай яе часткай (запечча, чало, прыпечак, камінок і інш.), будзем дамагацца, каб выявіць, як кожная частка яе завецца і ўсё гэта запісваць. Прыкладзены да гэтага артыкулу рысунак, на якім паказаны ўсе часткі печы і прылады да яе з іх назвамі дасьць, мне здаецца, яскравае разуменьне аб парадку і сыстэме працы.

Ніхто ня будзе спрачацца з тым, што разабраць увесь быт нашае вёскі вельмі карысна, але нямногія захочуць узяцца за гэтую марудную працу, бо ў рабочага чалавека няма на тое часу, каб ня толькі займацца зьбіраньнем слоў, але і яшчэ выпрацоўваць для сябе самога

сыстэму працы. Тут павінны прысьці на дапамогу гурткі краязнаўства. Іх заданьне—злажыць адзіны распрацаваны плян, а справа членаў гуртка—разьмеркаваць між сабою працу і весьці яе па частках, каб потым складаныя далі належную суму.




Печка ў беларускай хаце.

1. Курчына.
2. Стоўп.
3. Пячурка ў стаўпе.
4. Карніза.
5. Загнет.
6. Поднябеньне (столь у печы).
7. Чалесьнік (перагародка).
8. Падзагнетніца.
9. Чарэнь.
10. Пячурка.
11. Пяколак.
12. Запечак.
13. Под.
14. Падпечча.
15. Комін.
16. Камянок.
17. Юшка.
18. Засланка.
19. Закабай.
20. Чало (дзіра ў чалесьніку).
21. Запечкі.
22. Ліхта (дзірка для ўторкваньня лучыны).
23. Мост (пол), масьніца (дошка).
24. Пол (насьціл, каб спаць).
25. Прыпечак.

Інструкцыя не дае адносна гэтага акрэсьленае формы, вось чаму, мне здаецца, мае думкі і прыкладзены рысунак могуць адыграць некаторую ролю для тых, хто гэтым цікавіцца.

Як-жа рабіць з тымі рэчамі, якія ўжо вышлі з ужытку, якіх ня можна знайсьці? У гэтым выпадку, мне здаецца, таксама вельмі карысна іх намаляваць згодна з апісаньнем старых людзей, або зрабіць модэль. З гэтых рысункаў, модэляй і іншых рэчаў, якія можна сабраць пры гэтым, пры кожным гуртку краязнаўства можна злажыць невялічкі музэй, які з часам можа стаць і каштоўным асяродкам па зьбіраньні этнографічных і краязнаўчых матар'ялаў. Прыкладам возьмем „сьветач“, які ўжываўся для ўтыканьня лучыны і цяпер ужо вышаў з ужытку.

Гаворачы аб зьбіраньні слоўнікавага матар'ялу наагул, трэба сказаць, што няпісьменны люд—гэта скарб для нашага брата-этнографа, а калі пры старым дзеду ці бабе ёсьць малады дзяцюк, ды ён ціка-

віцца навукай, тады лепей і быць ня можа. Толькі ён, жывучы з дзедам у ваднэй хаце, чуючы штодзенна яго гаворку, можа падмеціць тыя словы, ці назвы, якіх ад гэтага дзеда, часам, ня выдзераш, бо незаўсёды яму можна і вытлумачыць тое, што табе трэба.

Трэба зазначыць, што краязнаўчая праца цікавіць дужа многіх сярод нашае акругі.

Цяпер троху аб тлумачэньні слоў. Выбіраць іх трэба вельмі асьцярожна, найлепш з слоў тых самых старых, якія скажуць і самую назву. Часта формы слоў прымяняюцца парознаму. Так, напр., у нас ёсьць слова „падпечча“, ці „падзагнетніца“, але яны не зьмяняюцца, і трэба казаць „пад печчу“, а не „ў падпеччы“. Розным дзеям аднаго, здаецца, характару, належыць асобнае выражэньне; так, хату „перасыпаюць“, печку „перакладаюць“ і інш. Хто займаецца слоўнікам, таму ўсё гэта трэба ведаць.

Вось яшчэ прыклады. „Проська паехала на паравы пруд“. Прудам завуць у Быхаўшчыне млын, а чаму,—аб гэтым забываюць падумаць. „Павесь люльку на курчыну“—відаць прызначэньне прадмету. Альбо: „Дзеці каўзель раскаўзалі“, нешта падобнае да „масла масьлянага“, але так гавораць. Ёсьць слова „рахуба“, парасійску гэта будзе „расчет“, а ў нас чуеш: „Во нейкая рахубіна ляжыць“. Капнеш і даведаешся, што трэба гэта вытлумачыць—„нешта годнае“, „тое, што варта расчета“, альбо нават „добрая штучка“. Гэткія асаблівасьці мовы адзначыць абавязкова.

Цяпер трэба сказаць колькі слоў аб псыхолёгічным значэньні зьбіраньня беларускага слоўніка. Шмат яшчэ ёсьць такіх лапатуноў, што кажуць аб беларушчыне, нібы яна ёсьць непатрэбная выдумка, а прыцягніце іх да працы, засьпяваюць іншае. Я сам яшчэ нядаўна лічыў, што ў нашай Быхаўшчыне застаўся адзін толькі акцэнт, а слоў так сабе, самая маласьць. А калі сур‘ёзна падышоў да слоўнага запасу нашае вёскі, дык добра разгледзеў, што гэта далёка ня так. Рукі апушчаюцца перад тэй масай матар‘ялу, які прыдзецца апрацаваць, і матар‘ялу чыстага, беларускага, тутэйшага.

Гэта і зразумела. Гадаваліся мы, або швэндаліся па гарадох, вучыліся парасійску, часам дрэнна навучыліся і, прыехаўшы на вёску, здаецца нам, што мы чуем тую-ж расійскую мову, толькі папсаваную троху. „Мужыцкай“ мовы сароміўся ўсякі гэткі гарадзкі, і стараўся ён гаварыць павучонаму. І вось чуеш на вёсцы гэткія фразы: „Мая сабака дужа *даверчывая*, нікаво к себе не падпусьціт“. Шмат у гэтым кірунку зрабіла наша старая панская школа. Яшчэ нядаўна мы спатыкалі настаўніцу, якая, б‘ючы на расійскасьць выразна выгуквала: „Здравствуйце Іульянія Іоанновна“. „Пліта для пішчэварэнія“—пачулі мы ў другім месцы ад такога-ж прыхільніка расійскае мовы.

Што-ж казаць тады аб звычайным селяніне, які зусім ня можа разабраць якое слова беларускае, якое расійскае? Прачытаўшы ў акладным лісьце „маемасьць, мясцовасьць“, альбо яшчэ якое мудронае слова, перакруціўшы ў ім націск і вымаўляючы беларускае слова на расійскі лад, бо ён прызвычаіўся чытаць афіцыяльныя паперы парасійску, ён робіць вывад, што беларуская мова нешта зусім незразумелае, чужое. Гэта ўсё і творыць такія абставіны, што на вёсцы мы знаходзім такіх людзей, якія зусім ня вераць, што яны беларусы.

Зьбіраньне слоўнікавага матар‘ялу і тут дапаможа. Тыя людзі, з якімі вы будзеце тутарыць, каб запісаць іхнюю мову, за якую-не-

будзь гадзіну пераканаюцца ў тым, што яны беларусы, што мова іх ня тая, што ў расійскіх кніжках пішацца. Зьбіральнік слоў мімаволі робіцца агітатарам ідэй беларусізацыі і палітычным настаўнікам сваёй вёскі па нацыянальным пытаньні. А ўцягваючы да працы таго ці іншага селяніна, можна яго зацікавіць і іншымі пытаньнямі навукі, культуры і давесьці чалавека да правільнага разуменьня сучаснасьці, бо многа і многа яшчэ знойдзем на вёсцы такога, што моцна аддае пахам старых дарэволюцыйных часоў.

Знаёмства з мовай і нацыянальная сьвядомасьць ёсьць таксама і сродак зблізіць між сабой і памірыць два пакаленьні—старых і маладых, гэта будзе той цэмант, тая вапна, што зьлепіць іх у вадну цэлую масу сьвядомых людзей, добра разумеючых заданьні сучаснага моманту ня толькі ў нацыянальным, але і ў соцыяльным будаўніцтве. Бо супярэчнасьцяй і непаразуменьняў між старымі і моладзьдзю пакуль што шмат. Надоечы спаткаў я чалавека старога. Ходзіць з торбай і кійком—пабіраецца. Слова за слова і расказаў мне, як выгнаў яго сын з роднае хаты і яшчэ дадаў: „каб я дажыў да тваіх гадоў, даўно-б утапіўся“.

А той, хто зацікавіцца краязнаўствам, будзе ўжо клапаціцца аб гэткіх дзядох—для яго гэты дзед не дарма на сьвеце жыве, ёсьць чаму ад такога дзеда павучыцца.

Нарэшце, ня толькі для грамадзянства краязнаўчая праца карысна, але і для самога зьбіральніка карысна папрацаваць над слоўнікам, асабліва-ж для тых, хто хоча ахвяраваць свае сілы маладой беларускай літаратуры.

Гэта відаць і на прыкладзе расійскай літаратуры, якую мы прызвычаіліся лічыць багатай і дасьпелай.

Хто складаў гэтую літаратуру? Вялікі поэта расійскі Пушкін вучыўся роднай мове ад сваёй нянькі, простай няпісьменнай жанчыны. Тургенеў хадзіў па лясох і балотах з стрэльбай, сустракаючыся там з простымі людзьмі. А вось Грыгаровіч (як ён гаворыць сам аб сабе) сядзеў цэльны дзень каля млына на ставу і пад шум жорнаў вудзіў народную мову. А ці даўно быў той час, як афранцужанае расійскае панства і інтэлігенцыя ня ведалі як сказаць пару слоў пароднаму?

Ды і ў іншых краёх. Францускі пісьменьнік Мольер, перш чым пусьціць у сьвет свае творы, чытаў іх сваёй кухарцы.

І ня толькі для пісьменьніка, але агулам для ўсякага культурнага працаўніка, вельмі патрэбна ведаць родную мову так, як яе ведае народ. У нас ёсьць імкненьне пазбавіцца ад чужаземнай тэрмінолёгіі, але сколькі навуковых тэрмінаў увялі нескладных, незнаёмых, незразумелых, няпрыгожых! Тады кідаюцца ў другі бок, твораць штучныя словы, выдумляюць новае па аналёгіі, ці яшчэ як і ходзяць, спатыкаючыся, як калісь вядомы патрыёта расійскі Шышкоў у сваіх „макраступах“.

Усё гэта ёсьць і на Украіне, і ўсюдых, і ў нас на Беларусі.

Аднак, чытаючы нашую літаратуру, нашыя часопісы мінулых гадоў і сучасную—кожны ўгледзіць паступовасьць і зьмены ў бок лепшага. Ці ня ёсьць гэта вынік таго, што творчасьць слоўная цяпер стала на грунт народны і ў далейшым яе шлях—цесная сувязь і праца на карысьць працоўных.

Слоўнікавая праца гэта адзін з камянёў падмурку нашага сучаснага будаўніцтва.

Шчыра-ж за працу!

# З матар'ялаў па народнай мэдыцыне.

Кожны народ мае свае спосабы змаганьня з хваробамі. У вадных народаў карыстаюцца вялікай пашанай розныя спосабы самалячэньня; сярод іншых народаў—народная мэдыцына ўжо траціць своё даўнейшае значэньне. На Беларусі пашырана лячэньне хвароб замовамі ды шэптамі—з аднаго боку і рознымі прэпаратамі—з расьлін з другога боку. Апошні спосаб нас асабліва цікавіць, паколькі гэты спосаб нястраціў свайго значэньня і ў навуцы.

Лячэньне каўтуна, па маіх нагляданьнях адбываецца трыма спосабамі. Першы спосаб—вырэзваюць каўтун і кідаюць у печ, каб ён згарэў. Другі спосаб—гэта замаўленьне каўтуна і трэці—лячэньне травамі. Для апошняга спосабу бяруць расьліну барвёнак (Vinca minor), робяць з яе ў гарэлцы моцную настойку і гэтаю настойкай мочаць хворую галаву (Глускі раён, вёскі—Андрэеўка, Загальле). У часе мінулай вайны ў Баранавічах мной было заўважана лячэньне каўтуна настойкай у гарэлцы з расьліны баршчэўнік (Heracleum Spondylium L). І ў Заходняй Беларусі вельмі пашырана лячэньне каўтуна настойкай у сьпірытусе зайцавай канюшыны або пералёту (Anthyllis wulneraria). Апроч вышэйазначаных расьлін, шырака распаўсюджана лячэньне каўтуна адварам лістоў глухое крапівы (Lamium album).

Для лячэньня ад кашлю карыстаюцца вельмі вялікай колькасьцю расьлін. Я апішу толькі некалькі больш для мяне вядомых. Расьліну гачыш або бядрынец, якую таксама называюць анісам або аныжам (Pimpinella Anisum), заварваюць замест гарбаты і п'юць альбо з мёдам, альбо з цукрам. Многія лекары ўпэўніваюць, што моцным адварам гэтае расьліны можна вылечыцца ад каросты, трэба толькі гэтым адварам націраць хворае цела ў працягу тыдню. Таксама кашаль лечаць адварам каранёў з расьліны (Pimpinella saxifraga), якую ў Бабруйшчыне ў некаторых мясцох называюць блёк, дзікая морква, а ў Магілеўшчыне завуць дзікі пастарнак. Гэтым-жа адварам лечаць боль жывата і затрыманьне (Глускі раён). Ад кашлю радыкальным сродкам лічыцца піць завар з высушанага ліпавага цьвету. Для гэтай мэты найбольш ужываюць кветкі з ліпы Tilia grandifolia Ehrh, бо гэты від ліпы ў нас больш сустракаецца, але з аднолькавым пасьпехам ужываюць кветкі з ліпы Tilia parvifolia Ehrh. Настойка на сьпірытусе з кветак крухі, якую таксама часта называюць чарэмха, або калакалуша (Prunus Padus L), ужываецца як сродак ад кашлю, а таксама для лячэньня сухотаў і прастуды.

Адварам з кары гэтае расьліны лечаць каросту і раўматус.

Пры лячэньні раўматусу адвар п'юць па лыжцы на шклянку малака і націраюць хворыя часткі цела.

Пры лячэньні каросты адвару ня п'юць, а толькі націраюць ім хворыя часткі цела (Глускі раён, в. Байлюкі). Але пры лячэньні раўматусу больш радыкальным сродкам лічыцца націраньне не адварам з чарэмхі, а настойкаю мурашак у гарэлцы, або сьпірытусе. У часе націраньня гэтаю настойкай лічыцца карысным піць адвар чарэмхі. Настойку з мурашак у сьпірытусе гатуюць такім чынам: бяруць бу-

тэльку, абліваюць нутраную яе паверхню чым-небудзь салодкім, раскопваюць мурашнік і стаўляюць бутэльку туды. Мурашкі вельмі ласы на салодкае і праз нядоўгі час бадай што ўся бутэлька забіваецца імі. Тады бутэльку затыкаюць коркам, дзень ці два памарнуюць іх у бутэльцы, а потым заліваюць сьпірытусам. Пасьля двохтыднёвага стаяньня гэтых мурашак у сьпірытусе атрымліваецца жыжа, якая вельмі моцна шчыпае за скуру.

Ад сьвербу на целе лечацца адварам кары з маладое расьліны воўчыя ягады (Daphne Mezereum L), гэтым адварам націраюць хворыя часткі цела. Для лячэньня сьвербу робяць і настойку з кары гэтае расьліны і націраюць хворыя часткі цела. Ад сьвербу хворыя часткі цела націраюць бульбянай мукой і адварам лебяды (Chenopodium album L). Каросту вельмі часта лечаць адварам з расьліны, якой даюць шмат назваў: каля Менску яе завуць ударнікам, у Бабруйскай акрузе ў некаторых мясцовасьцях яе называюць жаўтуном, а міжнародная яе назва Verbena officinalis L. Адварам гэтае расьліны лічыцца карысным мыць дзяцей тады, калі яны худыя і не растуць. Каросту яшчэ лечаць прымочкамі, якія намачваюць у адвары з расьліны барарвая смолка або сьветнік зязюлькавы (Lychnis Flos cuculi L) таксама адвар з гэтае расьліны п'юць ад раўматусу.

Адвар асакі п'юць ад прышчыкаў на целе. Прышчыкі на целе лечаць яшчэ сокам з расьліны ўрочнік або маруна (Galium verum L). Лячэньне выяўляецца ў тым, што прышчыкі намазваюць сокам гэтае расьліны. Часта сок зьмешваюць з несалоным маслам, тады ён можа захоўвацца доўгі час і годны для лячэньня скул (с. Байлюкі, Стражы).

Нязвычайна цікавым зьяўляецца той факт, што пярэпалах—хвароба чыста нэрвовая лечыцца ня толькі замовамі, але і травамі (Бабруйская акруга, Глускі раён, вёскі Макавішчы, Поблін, Байлюкі). Робяць густы адвар з расьліны бусьлікі, якую ў некаторых мясцох называюць журавельчыкі (Erodium cicutarium L) і купаюць у гэтым адвары перапалоханых дзяцей. Такое купаньне лічыцца самым радыкальным сродкам ад пярэпалаху. Ад гэтай-жа хваробы дзяцей часта купаюць у адвары з малачайніка або агароднага асоту (Cirsium oleraceum Scop).

Лічаць, што купаньне ў адвары з малачайніка спрыяе росту дзіцяці і зьністажае перхаць на галаве.

У часе купаньня дзяцей у адвары з бусьлікаў і малачайніку бабылекаркі гавораць яшчэ якіясь-ці словы, але запісаць іх мне не ўдалося.

Залатуху ў дзяцей лечаць купаньнем у адвары з ерніка (м. Глуск). У раёне ракі Птыча для гэтага лячэньня ўжываюцца два віды ерніку: Carex arenaria, той самы, якім лечаць прышчыкі на целе, і Acorus calamus. У раёне Піншчыны і Старых Дарог мне даводзілася сустракаць лекароў, якія ўпэўнівалі, што для лячэньня залатухі патрэбна ўжываць толькі Carex arenaria і ні ў якім выпадку ня можна ўжываць Aorus calamus. Дарослыя ад залатухі п'юць адвар з расьліны залатушнік або звычайнай браткі (Viola tricolor L) і з расьліны багоньніка або багуна (Ledum palustre L). (Бабруйская акруга, в. Бярозаўка, Машніцы, Байлюкі).

Адварам з расьліны, якую каля Менску называюць размарынам, а каля Бабруйску саракапутнікам або звычайнай зарніцай (Linaria vulgaris Mill) лечаць залатуху і жаўтачку. Гэты адвар п'юць на малаку, па сталовай лыжцы на шклянку малака.

Адварам з размарыну яшчэ мыюць галаву, каб расьлі валасы. Ад жаўтачкі п'юць адвар з расьліны, якую называюць у некаторых

мясцовасьцях валошкамі, а ў некаторых дзікімі васількамі (Centaurea jacea L). Адварам багоньніка (Ledum palustre L) апроч залатухі лечаць яшчэ і сухоты. Дзеля таго, што адвар багоньніка вельмі нясмачны, то яго п'юць зьмяшаўшы з малаком або з мёдам. Для лячэньня сухот, хворага часта саджаюць у цэбар, у які напапярэдні бываюць паложаны распаленыя каменьні і гэтыя каменьні абліваюць гарачым адварам багоньніка, а хворага ў гэты час добра накрываюць зьверху дзяругамі і коўдрамі, каб ён добра прапацеў.

Гэткім-жа самым спосабам лечаць прастуду, толькі гарачае каменьне паліваюць не адварам багоньніка, а чыстым варам.

Для лячэньня курынае сьлепаты бяруць кароўю пячонку, кладуць яе ў гаршчок, шчыльна накрываюць яго зьверху і доўга вараць. Пасьля таго, як пячонка ўварыцца, гаршчок вымаюць з печы і раскрываюць, а хворага саджаюць так, каб пара з гаршка трапляла яму проста ў вочы. Літаральна такім-жа чынам лечаць курыную сьлепату па́раю з расьліны валасень або ястрабок (Hieracium Pilosella) (Менская акруга, в. Угляны). Але лічыцца карысным, калі хворы на курыную сьлепату будзе ня толькі трымаць свае вочы над парам ад валасеня, але і мыць іх адварам гэтае расьліны.

Падучую хваробу ў большасьці выпадкаў лечаць замовамі, але сустракаюцца выпадкі, калі яе лечаць living рознымі настойкамі. Для лячэньня падучае хваробы п'юць настойку на гарэлцы з расьліны рутамята або валер'яна (Valeriana officinalis) па некалькі кропель на шклянку малака. Таксама яшчэ робяць настойку на гарэлцы з мухамораў і п'юць ад падучае хваробы. Апошнія два спосабы лячэньня падучае хваробы мне ўдалося заўважыць не сярод простых вясковых лекароў, а ў вясковай інтэлігенцыі.

Адвар з расьліны праскурняка або шляха (Althaea officinalis) і балотнага макрацу або плямістага амежніка (Conium maculatum L) п'юць ад адрыжкі. Апрача гэтага, адварам балотнага макрацу мыюць галаву ад перхаці. Для зьністажэньня перхаці на галаве вельмі часта ўжываецца адвар мышынага ільну (Politrichum commune) і адвар хмелю (Humulus Lupulus).

Укус гадзюкі звычайна лечаць замовамі, але ўдалося сустрэць выпадак (Глускі раён), калі ўкус гадзюкі лячылі адварам з расьліны ваўчкі або увярэднік (Pedicularis S).

Нязвычайна цікавым зьяўляецца спосаб зьністажэньня ў хаце блашчыц і прусакоў. Для таго каб іх зьнішчыць, бяруць досыць значны пук жоўтых красак або казяльца (Ranunculus acer L), кідаюць іх на гарачыя вугольлі і шчыльна зачыняюць юшкі, вокны і дзьверы і гэтак астаўляюць хату ў працягу ня менш трох гадзін. Некаторыя замест красак, паляць птушку ўдода. Ад гэтай опэрацыі блашчыцы і прусакі гінуць, але толькі не надоўга, праз нейкі час яны ізноў зьяўляюцца.

Па маіх нагляданьнях усе навары робяцца так: тую пасудзіну, у якой расьліну адварваюць, шчыльна накрываюць крышкай і ня здымаюць яе, пакуль ня вымуць з печы і не астудзяць. Вады дабаўляць забараняецца, а каб вада не выкіпала, то вараць расьліну не на полымі а ў духу.

Самым лепшым сьпірытусам для настоек лічыцца сьпірытус у 95°, але калі яго няма, то ўжываюць звычайную гарэлку ў 40°.

Апісаныя ў маім нарысе сродкі і спосабы для лячэньня ёсьць вельмі нязначная частка тае народнае мэдыцыны, якая жыве сярод нашага народу. Высьветліць памагчымасьці ўсе сродкі народнае мэдыцыны —задача нашых краязнаўчых організацый.



Каракін.

# Стружачная вытворчасьць у мястэчку Глуску, Бабруйскае акругі.

У м. Глуску зьвяртае на сябе ўвагу стружачная вытворчасьць, у якой занята цяпер каля 100 сямей. Гэтая вытворчасьць ёсьць у 3-х месцах СССР: у Глуску, у ваколіцах Ленінграду і каля Уралу, прычым у Глуску з дрэўнае стружкі каля 1 мм. шырыні, вырабляецца тканіна, а ў другіх месцах такая ахварбаваная тканіна розных нумароў і банты.

Гісторыя гэтае вытворчасьці ў Глуску наступная. Стружачная вытворчасьць заграніцай існавала ўжо даўно. Дзякуючы недахопу лясоў заграніцай, у 1902 годзе прыехалі ў Глуск, навакол якога ляжаць вялізарныя лясы і пушчы, два прадпрыемцы—італьлянец і аўстрыяк і распачалі тут выраб стружкі, але не тканіны. З 1902 да 1905 году працавала чалавек 40. Выраб адпраўляўся заграніцу. Гэтыя першыя прадпрыемцы прагарэлі ў часе забастовак 1905 году. Іх зьмяніў іх рабочы, глускі мешчанін, Кушнер. Ён з 1906—1910 г. працаваў з 2-3 толькі людзьмі і адпраўляў свой выраб заграніцу і ў Польшчу, прычым вырабляў толькі стружку, а не тканіну. У Кушнера з 1910—1914 г. працавала ўжо 120 чалавек—60 мужчын і 60 жанчын. У 1914 годзе ён выклікаў сюды з Аўстрыі аднаго немца—майстра, які прывёз з сабою тканіну. Дзеля гэтага ў 1914 г. распаўсюдзіўся тут, у Глуску, выраб тканіны і розных бантаў, разьмерам ад 1 да 80 мм., прычым вырабы хварбаваліся ў рознастайныя хварбы. У час аб'яўленьня вайны загінула шмат гатовага матар'ялу, прыблізна на 14.000 руб.

Цяпер стружачная вытворчасьць у Глуску знаходзіцца ў руках групы прадпрыемцаў, на чале з Кушнерам і Цвасманам. Зваротны капітал першага, які абкладаецца падаткам, выражаецца ў суме 14.000 руб., а другога—8.000 руб. Плацяць падаткаў:

| | Кушнер | Цвасман |
|---|---|---|
| 1) Патэнт . . . . . . . . | 64 р. — | 64 р. — |
| 2) Зраўнальны збор . . . | 360 р. — | 200 р. — |
| 3) Асноўны падаходны збор. | 25 р. 50 к. | 25 р. 50 к. |
| 4) Падаходны збор . . . . | 312 р. — | 108 р. — |
| 5) Комун. гаспадарцы . . . | 75 р. — | 42 р. — |
| Усяго: . | 836 р. 50 к. | 439 р. 50 к. |

Для гэтай вытворчасьці ў Глуску працуюць: 1 майстэрня, 8—11 стругалёў і 50 станкоў варстатаў.

У майстэрні Кушнера папраўляюцца папсутыя інструманты і варстаты і робяцца новыя. Прадпрыемцы баяцца конкурэнцыі і дэталі свайго варстата трымаюць у сакрэце.

Стругалі, лік якіх хістаецца ад 8 да 11, вырабляюць матар'ял для тканьня, так званую стружку. Стружка выробляецца з дрэва асіны, якога ідзе ў год каля 3.000 пудоў. На асінавым бервяне, распаложаным паземна, робяцца „машынкай" або „tàjle" (нямецкая назва) нарэзы. „Машынка"—гэта драўляная ручка, да якой прымацавана 120 нажоў, у адлегласьці адзін ад другога на 1 мм. або 170 нажоў—прыблізна на ½ мм. Стругаюць гэблем заграгічнай работы (прывезена каля 15 шт. у 1914 г.). Стругаль зарабляе ў месяц каля 80 руб.

Зробленая стругалямі стружка—тонкія, як папера, драўляныя пасмы, даўжынёю каля 28 вяршкоў,—зьвязваецца пучкамі і раздаецца па дамох жанчынам ткаліцам для тканьня на станках-варстатах. Варстат каштуе каля 45 руб. Прадпрыемцы выдаюць варстаты на дом ткаліцам работніцам, абавязаўшы іх нікому не дазваляць прыглядацца да іх пад пагрозай пазбаўленьня работы. Варстат мае даўжыню 2 арш., 4 вярш. і вышыню да столі (розную), да якой ён прымацаваны. Галоўныя часьці: 1) навой—барабан, на які накручваецца тканіна, і мае даўжыню 17—22 вярш. з дыямэтрам да 11 вярш., 2) ляда, 3) бёрда, 4) трыніты і 5) стойкі, прымацаваныя да столі. На такім варстаце і тчэцца стружка, робяцца з яе палотнішчы шырынёю 17—22 вяр. і даўжынёю каля 28 вярш. Ткаліца выробляе па профсаюзнай норме 14 палотнішчаў у дзень і зарабляе ў месяц 28 руб., але добрая работніца і і на добрым варстаце магла-б выткаць каля 20 палотнішчаў. Многа дзесяткаў сямей ад тканьня стружкі маюць кавалак хлеба. У месяц усяго выробляецца ў Глуску каля 5.000 шт. гэтых орыгінальных палотнішчаў.

Рынкам збыту зьяўляюцца буйныя гарады СССР, а за межы тканіна ня вывозіцца. Кошт аднаго палотнішча—20 кап. Тавар збываецца асобным камісіянэрам партыямі. Збыт заграніцу немагчымы дзеля значных накладных выдаткаў—высокіх падаткаў і дарагоўлі працоўных рук. Перашкодамі для разьвіцьця гэтай прамысловасьці ў Глуску зьяўляюцца: 1) тканіна ідзе на капялюшы, але ёсьць прадметы, якія яе замяняюць: а) рагожкі, або рашоты, што выробляюцца ў падмаскоўных губэрнях саматужнікамі, якія ня плацяць падаткаў, б) „ліно"—фабрычны прадмет і в) кардон; 2) высокія падаткі; 3) конкурэнцыя з іншымі прадпрыемцамі. Аднак, ня гледзячы на перашкоды, стружачная вытворчасьць у Глуску значна ўзрасла ў параўнаньні з мінулым годам.

7 сакавіка 1926 г.
м. Глуск.

Д. Васілеўскі.

# З гісторыі Воршы.

У шэрагу гарадоў усходняй Беларусі Ворша займае асобнае месца: яна ляжыць на вялікім стратэгічным шляху з захаду на ўсход. Такое стратэгічнае палажэньне гораду надта шкадліва адбівалася на яго гістарычным жыцьці. І не дарма ў беларусаў ёсьць прыказка: „Калі ў Віцебску справа кепска, то ў Воршы яшчэ горшай“. У гэтай прыказцы народ абмалёўвае ўвесь гістарычны лёс гораду на працягу ня толькі апошніх сталецьцяў, але таксама і ў пачатку гісторыі Беларусі. Упяршыню г. Ворша ўпамінаецца ў летапісе пад 1067 г., калі кіеўскі князь Ізяслаў ашуканствам захапіў у палон князя Ўсяслава Полацкага. „На Аршы у Смаленска“. З гэтага відаць, што Ворша ў тыя часы была парубежным гарадзішчам Полацкага княства. Такім чынам, ужо ў канцы XI і ў пачатку XII сталецьця Ворша прымала на сябе першыя ўдары ворагаў Беларусі. У 1119 годзе яна ўвашла ў склад Кіеўскае дзяржавы, а пасьля належала да Смаленскага княства. У гэтыя часы Ворша была вялікім гандлёвым пунктам на шляху „з Вараг у Грэкі“. У палове XIII сталецьця Ворша адышла ў склад Беларуска-Літоўскай дзяржавы і ў 1500 годзе Аршанскае гарадзішча было перабудована ў каменны замак, які існаваў паднаўляючыся да 1708 г., калі ў часе вайны з швэдамі ён быў зруйнаваны маскоўцамі па загаду цара Пётры I. Самы замак складаўся з 2-х частак: верхняга і ніжняга замку. Верхні замак ляжаў пры ўтоцы рэчкі Аршыцы ў Дняпро і ад ніжняга замку аддзяляўся вялікім ровам і валам. У літоўскай мэтрыцы захаваўся інвэнтар Аршанскага замку ад XVI сталецьця, які быў надрукован профэсарам Доўнар-Запольскім у кнізе „Документы Московского архива Министерства Юстиции“. З гэтага інвэнтара відаць, што ў Воршы ў тыя часы было ўсяго 200 хат. Люднасьць была выключна беларускай, і была ўсяго на ўсяго 1 яўрэйская сям‘я, гэта была сям‘я рандара Аршанскай гарадзкой карчмы. У часы войн маскоўскія войскі ня раз палілі і руйнавалі Воршу. Яны захаплялі Воршу і рабавалі яе насельнікаў у 1501, 1508, 1534, 1535, 1563, 1564, 1580 г. г. Маскоўцы даходзілі да сьцен Аршанскага замку і часта забіралі яго, але літоўскія войскі зноў адбіралі яго. У часы 1-й Маскоўскай рэволюцыі 1605 па 1620 г. Ворша адыграла вялікую ролю ў концэнтраваньні тае беларускае вольніцы, якая йшла ў Маскоўшчыну на дапамогу тым ці іншым станам яе, а галоўным чынам пагуляць і паабдзіраць багатых маскоўскіх баяр. Першы самазванец жыў некаторы час у Варшаншчыне і за дапамогу аршанцаў у 1605 г. дазволіў аршанскім купцом бяз мыта гандляваць па ўсёй Маскоўшчыне. У 1620 годзе горад атрымаў грамату на магдэбурскае права, у якой заможным слаям гарадзян давалася самакіраўніцтва. На працягу XVII і першай паловы XVIII сталецьця г. Ворша зрабіўся асяродкам пашырэньня каталіцкае рэакцыі на ўсход. У горадзе было пабудавана 9 мужчынскіх і 3 жаночых кляштары, з іх 2 былі праваслаўныя, 2 вуніяцкія, а рэшта каталіцкія. За манахамі ня было праходу жанчынам па горадзе асабліва па начах. Некаторыя кляштары мелі свае школы, у якіх выхоўвалі моладзь, як, напр., у XII веку

вядомая езуіцкая калегія, Базыльлянская школа і брацкая школа пры Кутэінскім мужчынскім манастыры. У палове XVII сталецьця Кутэінскі мужчынскі манастыр зрабіўся асяродкам асьветы і змаганьня ўсходніх беларускіх брацтваў з націскам каталіцтва і польскасьці на беларуса. У манастыры была друкарня, у якой друкаваліся богаслужэбныя кнігі ня толькі для Беларусі, але таксама і для Маскоўшчыны. Друкаваліся вучэбнікі для брацкіх школ усёй Беларусі і быў надрукованы другім выданьнем першы беларускі слоўнік ў 1656 годзе; 2 паасобнікі гэтага слоўніка былі знойдзены ў Віцебскім Маркавым манастыры ў 1924 г. і захоўваюцца ў Віцебскім акруговым таварыстве краязнаўства. З 1654 па 1661 г. Воршу займалі маскоўцы, быў тут сам цар Ляксей Міхайлавіч і яму так спадабаліся аршанскія друкары і дрэварытнікі, што ён забраў з сабой у Маскву ўсіх манахаў і манашак з Кутэінскіх манастыроў, майстроў-рэзчыкаў па дрэве. Так званая беларуская разьба доўга славілася па ўсёй Маскоўшчыне. Аршанская друкарня таксама была вывезена ў Маскву і такім чынам Ворша зрабіла значны ўплыў на маскоўскую асьвету і мастацтва. Іншыя манастыры займаліся выгаднейшай у тыя часы справай—гандлем. Аршанскія купцы гандлявалі з Масквой, Крымам і Рыгай. Тавары з Рыгі прывозіліся ў Воршу вадой. У часы вайны з швэдамі Аршаншчына мела шмат шкоды як ад маскоўскіх, так і ад швэдзкіх войск. Значна пацярпела Ворша і ў кампанію 1812 г., а таксама ў часы польскага паўстаньня 1863 г. Як і ў сярэдні сталецьці, гэтак і ў новыя вякі аршанцы галоўным чынам займаліся земляробствам. У першай палове XIX сталецьця ў Воршы было пашырана выпальваньне вапны, і дагэтуль яшчэ аршанцаў часта завуць вапеньнікамі. У сучасны момант гэтая галіна прамысловасьці заняпала. Аршанская прамысловасьць пачала адраджацца толькі пасьля далучэньня да Савецкай Беларусі, калі горад зрабіўся цэнтрам акругі. Пачалося новае будаўніцтва і ўздым беларускае культуры, адчыненьне Беларускае Сельска-Гаспадарчай Акадэміі ў Горках і правядзеньне новай чыгункі—Ворша—Унеча—кладзе новы грунт для адраджэньня і далейшага экономічнага разьвіцьця Аршанскае акругі.

---

Е. Цехановіч.

# Пячорная царква і падземны ход у Варшанскім Кутэінскім манастыры[1]).

На левым беразе Дняпра ў 2-х вярстах ад м. Воршы ў багата надзеленым прыродай прыгожым месцы раскінуўся Аршанскі Кутэінскі мужчынскі манастыр. На двары гэтага манастыра, у садзе, які складаецца з яблынь, груш, ліп і іншых дрэў, сярод старадаўных зарослых глухім пустазельлем могілак захаваліся яшчэ да гэтага часу, бадай зусім зруйнаваныя і ледзь-ледзь прыметныя сьляды каменнага падмурку быўшае тут калісьці вялізнае царквы.

У гэтым месцы пад падмуркам ня так даўно (каля 1910—1912 г.г.) манахамі манастыра была выкрыта рэшта старадаўнае пячорнае падземнае царквы, у якую вядуць глыбака ўніз вузкія сходы. Спусьціўшыся ўніз пападаеш у крыжападобную па форме з нізкім каменным скляпеньнем пячору. Пячора мае плошчу каля 11 квадр. мэтраў. Аўтарная сьцяна пячоры каменная з трыма праходамі, аўтар мае плошчу ў $2^1/_5$ квадр. мэтр., на месцы прастола быў нізкі драўляны крыж абкладзены каменьнем. Крыжа гэтага цяпер на сваім месцы няма, як няма і вынікаў досьледаў, зробленых манахамі ў паказанай пячоры.

Улева ад пячоры пачынаецца недасьледваны яшчэ нікім падземны ход, які апушчаецца ўсё ніжэй і ніжэй пад Дняпро. Некаторымі вядомымі мне асобамі былі зроблены спробы агледзець гэты падземны ход, але вільгаць, холад і нават, як яны казалі, страшэнны вецер не дапусьцілі іх што небудзь выявіць.

Між іншым адносна гэтага падземнага ходу па Воршы ходзяць такія легенды:

Першая: што нібыта гэты ход цягнецца з Аршанскага Кутэінскага манастыра да Смальлянскага гістарычнага старасьвецкага замку на працягу 25 вёрст.

Другая легенда кажа, што гэты ход цягнецца толькі на 2-3 вярсты да былага Аршанскага Пакроўскага манастыра.

Дзе тут хаваецца праўда, з гэтых баек невядома, вядома толькі тое, што гэты падземны ход ёсьць і што ён пачынаецца з двара Кутэінскага мужчынскага манастыра. Вядома яшчэ і тое, што ў Смальлянах засталася частка гістарычнага замку—адна цагляная сьцяна, якая год ад году ўсё больш і больш руйнуецца. Вядомы і быўшы Пакроўскі манастыр, у каменнай царкве якога мы яшчэ сёлета бачылі Аршанскую акруговую сельска-гаспадарчую выстаўку,—цяпер сельска-гаспадарчы музэй.

Наагул-жа вядомым з боку гістарычнай вартасьці гэты помнік стане тады, калі Інбелкульт паклапоціцца і вышле сюды сваіх навуковых дасьледчыкаў.

Трэба думаць, што з цэлага шэрагу недасьледваных яшчэ гістарычных помнікаў, якімі так багата наша старонка павінен зьвярнуць на сябе ўвагу і помнік паказаны мной, які знаходзіцца ў Варшанскім Кутэінскім мужчынскім манастыры.

---

[1]) З матар'ялаў прысланых гуртком краязнаўства пры Аршанскім Рабфаку.

Я. Сяргеенка.

# Бабынавічы[1]).

Мястэчка Бабынавічы, па мясцовым вымаўленьню (або Бабиновичи, паводле расійскага правапісу), старое мястэчка былога Аршанскага павету Магілеўскай губэрні. З 1924 году Бабынавічы ўваходзяць у склад Высачанскага раёну Віцебскай акругі.

Ляжыць гэтае мястэчка на беразе Бабынавіцкага возера пры вытоцы з яго р. Лучосы. Мясцовыя насельнікі завуць гэтую раку Лучосай толькі ад таго месца, дзе яна злучаецца з р. Чарніцай, якая ўліваецца ў Лучосу з правага боку ў адлегласьці 1 вярсты ад возера. Частку-ж ракі ад возера да Чарніцы лічаць працягам р. Вярхіты, якая ўліваецца ў Зялёнае возера з усходу. Вазёры Бабынавіцкае і Зялёнае прадстаўляюць адно возера і злучаюцца паміж сабой шырокай пратокай. Агульная іх даўжыня $2\frac{1}{2}$ вярсты.



Схэматычны плян м-ка Бабінавічы

I Царква.
II Касьцел.
III Група курганаў
IV „Кацярынянскі" вал.

Мясцовасьць тут узгоркаватая і пакрыта досыць значнымі лясамі. Клімат здаровы; у лясох пераважвае хвоя. Глеба пяшчаная.

Адлегласьць ад раённага цэнтру, с. Высачаны, 20 вёрст, ад акруговага места Віцебск—50 вёрст, ад Воршы—$34\frac{1}{4}$ вярсты.

Гістарычныя весткі аб м. Бабынавічах вельмі кароткія. Вядома, што яно стаіць на старым волаку, які злучаў р. Дняпро з Дзьвіной праз р.р. Аршыцу, Вярхіту, Бабынавіцкае возера і р. Лучосу. У той час, калі Беларусь уваходзіла ў склад Польшчы, Бабынавічы лічыліся старостваи, а пасьля далучэньня Беларусі да Расійскай імпэрыі яны назначаюцца павятовым горадам. У гэтыя часы мястэчка набывае досыць важнае значэньне ў гандлі лесам. Лес сплаўлялі ў плытох па Дняпры да Дуброўны, а потым перавозілі па сухазем'і да Бабынавіч, адкуль ён па Лучосе сплаўляўся да Дзьвіны, а па ёй у Рыгу. У 1775 і 1780-81 г.г.[2]) рабіліся досьледы магчымасьці правядзеньня каналу, які злучаў-бы Дзьвіну з Дняпром і праходзіў-бы каля Бабынавіч. Апроч гэтага, такія-ж досьледы рабіліся і ў недалёкія ад нас часы, іменна: у працягу 1906—8 г.г. Усе проекты гэтага злучэньня, як вядо-

---

[1]) З матар'ялаў прысланых гуртком краязнаўства пры Вышэйшых Курсах Беларусазнаўства.

[2]) Сапунов. Западная Двина.

ма, ня зьдзейсьніліся. Па апавяданьнях старажылаў у гэтыя часы, г. зн. у вапошнія гады XVIII ст. мястэчка вельмі бойка жыло, і народу ў ім было многа. У 1796 годзе Бабынавічы застаўляюцца заштатным местам, але ў 1802 г. зноў атрымоўваюць назву і значэньне павятовага гораду, якое канчаткова трацяць у 1840 г. Цяпер Бабынавічы афіцыйна лічацца сялом (пастанова ЦВК БССР ад 6 ліпня 1925 г.).

Старыя людзі пра мінулае Бабынавіч апавядаюць, што гэтае мястэчка ўтворана па загаду Кацярыны II і даводзяць свае словы, паказваючы на стары, чатырохкутнай формы, вал, які ляжыць на высокім правым беразе р. Лучосы, кожны бок якога мае 1 вярсту ў даўжыню. Гэты вал насыпан нібы-та па загаду Кацярыны, якая быццам сказала: „Быть городу здесь“. Гэтае месца паступова забалочваецца і ніводнай хаткі там няма.



М. Бабінавічы. Від з высокага месца на царкву.

Каля самага возера на паўднёва-заходнім беразе знаходзіцца цэлая сям'я курганоў ці валатовак памясцоваму. Тут-жа ляжаць яўрэйскія могілкі. Курганы, як звычайна мясцовыя старыкі адносяць да францускай вайны, але, як вядома, у час 1812 г. боек тут не адбывалася, ня гледзячы на тое, што Напалеон і застанаўліваўся ў мястэчку.

Праз усё мястэчка ў кірунку з паўночнага захаду на паўднёвы ўсход праходзіць стары шлях, які зноў-жа завуць „Кацярынінскім“, ствараючы галоўную вуліцу Ленінградзкую (раней Пецярбурскую). Гэты шлях злучае Віцебск і Воршу.

Калі ўваходзіш ў мястэчка, дык першае, што кідаецца ў вочы—касьцёл і царква. Царква збудована ў 1838 годзе на месцы старой вуніяцкай, якую перанесьлі з суседняй вёскі Завазёр'я ў 1790 г. Званіца васьмікутнае формы стаіць асобна ад царквы (гл. мал.).

Касьцёл пабудованы раней ад царквы год на 40. Як відаць па дакумантах яго архіву, дзе захаваліся паперы з 1705 г., ён стаіць на месцы даўнейшага кляштара трынітараў, які зьяўляўся аддзяленьнем Аршанскага манастыра трынітараў. Аб існаваньні кляштара сьведчыць адзін завулак, які мае назву: „Кляштарны“. Абодва гэтыя будынкі стаяць на ўзгорку „Касьцёльная гара“.

Каля гэтае гары насупроць царквы адбываюцца кірмашы 4 разы ў год: 19 студзеня, на сёмуху, 22 сьнежня і 21 верасьня.

У сучасны момант Бабынавічы—асяродак сельсавету і зьмяшчае ў сабе наступныя ўстановы: сельсавет, трохкомплектную школу, якая існуе з 1897 г., хату-чытальню, нардом, паштова-тэлеграфнае аддзяленьне і лясьніцтва, з грамадзкіх організацый тут ёсьць ячэйка ЛКСМБ, спажывецкае таварыства, сельска-гаспадарчае таварыства, беларускі

драматычны і краязнаўчы гурткі. Жылых будынкаў у 1923 г. было 232, няжылых 281; усе ў адзін паверх, драўляныя. Прамысловасьць разьвіта вельмі слаба,—ёсьць двароў 5, у якіх вырабляецца гліняная пасуда, 2 смалакурні, 2 гарбарні. Усіх прамысловых прадпрыемстваў у 1923 г. лічылася 26, а працавала на іх 28 асоб.

Коопэрацыйных крам 3, прыватных 4. Абарот іх за другую палову 1923-24 бюджэтнага году дасягаў 38.401 р. Лік насельнікаў вельмі хістаецца у 1858 г. тут жыло 1271 чал.; у 1880 г. было 464 муж. 486 жан., з іх яўрэяў—131 муж., 139 жан., палякаў—4 м. і 12 ж., рэшта беларусы. Паводле даных перапісу 1897 г. у Бабынавічах жыло 1157 насельн., з якіх яўрэяў лічылася 552.

Перапіс 1920 г. паказаў тут 1179 насельнікаў, а перапіс 1923 г.—1222, у тым ліку 582 м. і 640 ж.

Па апошніх падліках, якія рабіла школа ў 1925 г., знойдзена: 444 м., 464 ж., дзяцей абоега роду 234 ч. Па нацыянальнасьці: беларусаў 59 проц., яўрэяў 31 проц., палякаў 7 проц., літоўцаў 3 проц. Літоўцы зьявіліся ў часе імпэрыялістычнай вайны.

Гэтыя хістаньні насяленьня ў ліку і агульны заняпад прамысловасьці гэтага значнага ў мінулым мястэчка тлумачыцца адсутнасьцю шляхоў зносін і, значыць, сувязі з буйнымі цэнтрамі—гарадамі. Мясцовае насельніцтва з гэтае прычыны паступова пачынае выяжджаць у г. Віцебск ці пераходзіць на хутары на земляробства.

---

А. Ганжын.

# Мястэчка Новабыхаў, Магілеўскай акругі.

*(Паводле мясцовых архіўных матар'ялаў [1]).*

М-ка Новабыхаў, або Новы Быхаў знаходзіцца на правым беразе р. Дняпра ў 21 в. ад г. Быхава і 2 в. ад шосы Кіеў—Ленінград. Паміж Новабыхавым і Кіеўскай шосай цячэ р. Дняпро; акрамя гэтага, праз м. Новабыхаў калісь-то праходзіў, зьнішчаны ў сучасны момант, Житомерскі паштовы шлях.

У XVI сталецьці Новабыхаў належаў да Хадкевічаў, пасьля перашоў да Сапегаў. Яшчэ ў XVII сталецьці ў Новым Быхаве быў Кальвінскі Збор, пабудованы панам Хадкевічам. Цяпер у гэтым месцы стаіць драўляны будынак, быўшага пана Булгака. Апошнім уладаром Новабыхаву з Сапегаў быў князь Францыск Сапега. Ён вельмі добра ўмацаваў гэтае месца, зрабіў земляны вал (насыпы) і вялізарныя равы, якія і цяпер прыметны.

Асаблівую славу здабыў Новабыхаў у XVII ст. У 1654 годзе ён быў узяты атаманам казакаў Янкам Залатарэнкам і быў базай у яго вайсковай дзейнасьці супроць гор. Старога Быхаву. У працягу гэтай вайны Новабыхаў некалькі разоў забіралі як рускія, так і украінскія казакі пад кіраўніцтвам свайго атамана Залатарэнка. Тут шмат было войска, якое вельмі няпрыхільна адносілася да мясцовага насяленьня.

У 1812 годзе пры наступленьні французаў, князь Багратыён з сваёй арміяй перашоў тут на левы бок Дняпра дзеля сувязі з арміяй Барклая-Дэ-Толі.

У 1825 годзе Аляксандар I па дарозе ў Таганрог супыніўся на дзень у Новым Быхаве і тут меў у пана Сапегі адпачынак (начлег) і абед. Цар даведаўся ў новабыхаўскую каменную царкву, пабудова якой да гэтага часу была скончана. Дзеля сканчэньня царквы да царскага прыезду папярэдні плян пабудовы быў зьменены і перароблены на новы, і Сапегай з яго ўпаўнаважаным доктарам Фізёзофіем Юхноўскім адпушчаны сродкі на яго сканчэньне. Юхноўскі з гэтай мэтай з сваіх сродкаў даў 1000 руб. Тут цар прысутнічаў на царкоўнай службе: усю абедню ён прастаяў у аўтары, пасьля якой зрабіў агляд войска на пляцы каля царквы. Дзеля пашырэньня пляцу, з гэтай мэтай, тут, па загаду пана Сапегі, на гэты момант былі зьняты некаторыя крамы.

Пан Сапега з прычыны цяжкіх зносін па звычайнай дарозе праз вялізарны поплаў, у час паводкі Дняпра, зрабіў, дзеля лепшага праезду цара, зямляны насып па поплаве да вёскі Абідавічы на працягу 1 вярсты; насып гэты быў зроблены да 2 аршын вышыні. Цяпер засталіся толькі невялікія сьляды гэтага насыпу і прарывы, дзе былі зроблены масты. Трэба падкрэсьліць надзвычайную цяжкасьць для сялян гэтай працы. Пан Сапега зрабіў загад свайму войту Палятаеву,

[1]) Застаўляючы адказнасьць за гістарычны бок гэтага нарысу на аўтары, рэдакцыя часопісу „Наш Край" вельмі зацікаўлена, каб той архіўны матар'ял, якім карыстаўся аўтар, быў дадзены на прагляд у ЦБ Краязнаўства. *(Рэдакцыя).*

які павінен быў у 17 дзён скончыць гэтую працу да царскага прыезду ў Новабыхаў. Хутка працавалі сяляне, але-ж і нездаволены яны былі панам Сапегам і ўсімі тымі, якія кіравалі гэтай работай. Каля 1000 падвод вазілі зямлю і болей 2000 народу штодзень працавала ў працягу 17 дзён. Нарэшце, калі земляны насып быў скончаны, пан Сапега з сваім войтам Палятаевым, як сьведчаць аб гэтым архіўныя панскія мэмуары, альбо запісы, першы праехаў па збудованым ім земляным насыпе, па якім павінен быў ехаць цар.

Сам Сапега ў сваіх мэмуарах адзначае той факт, што калі ён ехаў па гэтым земляным насыпе—„грэблі", то яго прыгонны селянін Мацьвеенка няўмоўчыў і сказаў: „Вунь ужо пан паехаў па нашай працы! А калі мы паедзем па панскай працы?—Ох! доўга гэтага нам чакаць! Толькі адным панам, а ня нам царэй ажыдаць!"—Над гэтым сказам, які запісаны ў мэмуары, вельмі доўга брадзілі думкі пана Сапегі, бо тады вельмі значна пашыраны былі думкі „дэкабрыстых". У час прабываньня Аляксандра I ў Новым Быхаве пан Сапега сэнс гэтага сказу перадаў і цару, які адказаў Сапегу: „Будзе і ў гэтым свой час". Так па грэблі, збудаванай прыгоньнікамі пана Сапегі, праехаў цар.

У час вайны 1914—17 г. тут была зроблена праз ужо зьнішчаную грэблю Сапегі яшчэ другая, новая з мастом праз Дняпро, які ў 1918 годзе палякі спалілі.

Насельнікаў у Новым Быхаве паводле перапісу 1897 г. знаходзілася 987 душ мужчын і акрамя гэтага лічылася 1058 д. жанчын. Па вызнаньні гэтае насяленьне падзялялася так: праваслаўных у гэты час было 669 мужч. і 689 жанч., яўрэяў 318 мужч. і 369 жанчын [1]).

Памяшканьняў драўляных лічылася паводле перапісу 1897 г. ўсяго 281 (з якіх сялянскіх 201 і жыдоўскіх 80), акрамя гэтага лічылася крам 16, праваслаўных цэркваў 2 (адна каменная, а другая на могілках драўляная, якая была зроблена апошнім уладаром—панам Булгакам), а таксама была 1 яўрэйская „школа"—малельня [2]). Калісь тут знаходзілася кватэра прystава 1-га стану, валасное праўленьне, народная школа, этапнае памяшканьне і царкоўна-вучыцельская школа, прыстань на Дняпры, на якой заўсёды супыняліся плыты, шмат судзінаў і параходаў, [3]) аптэка і доктарскі пункт.

Зямля тут вельмі дрэнная: адны пяскі. Сяляне ў Новым Быхаве адчуваюць вялікі недахоп у хлебе. Яны заўсёды з вясны наймаліся дзеля згонкі лесу па Дняпры ўніз да Кацярынаславу і зараблялі кожны рублёў па 200 за лета.

Лесу было шмат каля Новага Быхаву ў паноў Сямкоўскага і Галавацкіх.

Апроч гэтага, тут вярсты за тры ад Новага Быхаву, у Лазарэвічах знаходзіліся крэйдавыя паклады па беразе Дняпра. Сяляне

---

[1]) Паводле даных 1897 году, апублікаваных у кнізе: „Населенныя местности Российской Империи в 500 и более жителей по данным переписи 1897 г. Спб. 1905"—у Новым Быхаве было 2255 чал., у тым ліку праваслаўных 1758, яўрэяў 490. Апроч таго, ёсьць даныя аб насельніках Новага Быхаву за 1858 г. (1503), за 1920 (2161) і 1923 (2083). (*Рэдакцыя*).

[2]) Паводле перапісу 1923 г. у Новым Быхаве 446 памяшканьняў, у тым ліку 397 жылых; будынкаў жылых 379, усе драўляныя. (*Рэдакцыя*).

[3]) За навігацыю 1924 г. згодна даных ЦСУ БССР Новабыхаўская прыстань пагрузіла 20 тысяч пудоў розных тавараў (*Рэд.*).

з вясны пачыналі капаць крэйду і рабіць з яе галкі, якія ўзімку завозілі ў розныя шкляныя гуты і за гэта атрымлівалі руб. 200—400 кожны.

У гэтай мясцовасьці знаходзяць шмат па беразе Дняпра каменных прылад першабытнага чалавека, якія перададзены ў Менск Беларускаму Музэю селянінам з Новабыхава Шутовым.

Па шляху ад Новабыхаву ў Стары Быхаў знаходзіцца шмат курганоў, для агляду якіх летам 1925 г. быў накіраваны з Інстытуту Беларускае Культуры т. Сербаў, як архэолёг.

Каля Новага Быхаву знаходзяць хварбу мумію, вохру, а таксама жалезную руду, асабліва каля Тошчыцы, ніжэй Новабыхаву па Дняпры. Таксама сустракаецца тут кварцавы пясок, які ідзе, як і крэйда, на шкло ў шкляных гутах. Ёсьць і гліна, якая патрэбна на ганчарні, цагельні і кахельні.

Адгэтуль відаць, што ў Новабыхаве можа разьвіцца шкляная, ганчарная, кахельна-цагляная прамысловасьць.

Праз Новабыхаў у час імпэрыялістычнай вайны праяжджаў цар Мікалай II, якога сустрэў толькі адзін з сялян з хлебам сольлю, бо іншыя ня ведалі аб яго праезьдзе. У час рэволюцыйны сялянамі Новабыхаву былі разгромлены экономіі Салкоўскіх, Галавацкіх і г. д. Пры польскай окупацыі за гэта былі расстрэлены двое сялян.

# Анкеты, програмы і інструкцыі.

М. Шчакаціхін.

(*Навуковы сакратар Сэкцыі беларускага мастацтва ІБК*).

## Способы зьбіраньня матар'ялаў з беларускага мастацтва.

У справе ўсебаковага вывучэньня нашае краіны, якая праводзіцца праз мясцовыя краязнаўчыя організацыі, адно з самых апошніх месцаў (а часам і зусім ніякага) займае да гэтага часу дасьледваньне помнікаў, ня кажучы ўжо аб старажытным, але нават і сучаснага народнага нашага мастацтва. Праца гэтая, аднак, павінна стаць аднэй з чарговых. Агульны інтарэс, які ўзбудзіўся ў самыя апошнія часы да нашага мастацкага жыцьця, вымагае сыстэматычнага і пляновага вывучэньня ўсіх тых пытаньняў, што зьвязаны з проблемай разьвіцьця прасторавых (вобразных) мастацтваў на Беларусі, і ў ліку іх першымі зьяўляюцца, з аднаго боку,—пытаньне аб нашым мастацкім мінулым, аб гістарычным паходжаньні і разьвіцьці розных галін беларускага мастацтва на працягу сталецьцяў, з другога—пытаньне аб сучасных народных крыніцах мастацкае творчасьці, аб зьмесьце і характары народных мастацкіх форм.

У абодвых паказаных кірунках ужо некалькі гадоў, як распачата адпаведная навукова-дасьледчая праца, што концэнтруецца навакол Сэкцыі беларускага мастацтва Інстытуту Беларускае Культуры ў сумеснай працы яе з катэдрай гісторыі беларускага мастацтва ў Беларускім Дзяржаўным Унівэрсытэце. Але ў шмат якіх адносінах праца гэтая досыць павольна пасоўваецца наперад. Мы знаходзімся яшчэ пакуль што ў тэй яе стадыі, калі *асноўнай задачай, галоўным чынам, зьяўляецца зьбіраньне патрэбнага матар'ялу*, прычым больш-менш грунтоўная навуковая яго распрацоўка магчыма толькі ў некаторых выняткавых выпадках. У большасьці-ж, як раз недахват матар'ялу затрымлівае гэтую распрацоўку, што пераносіць увесь цэнтр увагі ўласна на папярэднія досьледы і шуканьні.

Але ў гэтай галіне, як нам прыходзілася ўжо і раней зазначаць, вышэйпамянёныя навуковыя ўстановы ня маюць магчымасьці пакладацца выключна толькі на свае ўласныя, досыць абмежаваныя (хаця-бы ў сэнсе колькасьці сваіх супрацоўнікаў) сілы. Ім *патрэбна вядомая дапамога з боку самых шырокіх колаў беларускага грамадзянства*,— і дапамога пільная, хуткая, бо помнікі старажытнага мастацтва ледзь не на нашых вачох руйнуюцца і зьнікаюць з твару беларускае зямлі, народнае-ж мастацтва паступова занепадае, і трэба ратаваць і захоўваць для навукі яго рэшткі, якія часта ўжо і цяпер утвараюць сабой як быццам нейкую „жывую гісторыю“ нашага народу і яго ранейшага культурнага жыцьця.

Зразумела, што гэтая дапамога, каб дасягнуць сваёй мэты, павінна зьявіцца не выпадковай, але належным чынам організаванай. У гэтым

сэнсе першая роля тут прыпадае, бясспрэчна, на краязнаўчыя організацыі, якія маюць для гэтага адпаведныя магчымасьці, а ў некаторых выпадках і патрэбную ахвоту, як гэта ўжо паказалі на практыцы паасобныя раённыя і акруговыя таварыствы. Для посьпеху справы трэба толькі накіраваць разрозьненыя імкненьні на нейкі пэўны шлях, надаўшы працы ў гэтай галіне вядомую аднастайнасьць і высьветліўшы конкрэтна тыя чыста навуковыя запатрабаваньні, якія да яе прад'яўляюцца. У наступным мы і намячаем некаторыя программы зьбіраньня мастацкіх матар'ялаў для ведама і кіраўніцтва адпаведных працаўнікоў у гэтым кірунку.

Найбольш магчымым і лёгкім, нават для самых дробных краязнаўчых адзінак, зьяўляецца дасьледваньне мастацтва народнага, якое амаль што зусім не патрабуе ніякіх спэцыяльных ведаў, альбо падрыхтоўкі. Народнае мастацтва Беларусі выяўляецца пераважна ў дзьвёх галінах: у ткацтве і ў драўляным разьбярстве. І ў тэй і ў другой яно мае выключна прыкладны, дэкорацыйны характар, і вызначаецца вялікай колькасьцю самых розных рысункаў орнамэнту, якія трэба належным чынам сабраць з усіх куткоў Беларусі.

Самае зьбіраньне трэба рабіць наступным чынам: самая лепшая форма—гэта фотографічныя здымкі, або зарысоўкі; у ткацтве можна зьбіраць і самыя тканіны, але *ў досыць вялікіх кавалках*, каб можна было судзіць аб усім рысунку цалком; такія прадметы, як паяскі, гунькі, або гафтаваныя (шытыя) рушнікі—трэба браць у цэлым відзе. Зарысоўваючы тканіны, або гафтаваны орнамэнт, абавязкова браць яго *ў натуральную велічыню і ў натуральных колерах*, без чаго зарысоўка ня мае ніякае вартасьці. Апроч таго, трэба памятаць яшчэ і тое, што *ўсякая зарысоўка сама па сабе, як-бы добра яна ня была зроблена, яшчэ ня ёсьць навуковы матар'ял*, і што толькі *прыкладзенае да яе апісаньне надае ёй навуковую каштоўнасьць.* З гэтай прычыны да кожнай фотографіі, зарысоўкі, або ўзору тканіны *абавязкова трэба далучаць адпаведны ярлык*, укладзены па наступным пляне:

1. Назва мясцовасьці (горад, мястэчка, сяло, вёска, якога раёну і акругі).

2. Як далёка знаходзіцца мясцовасьць гэтая ад чыгункі, ад гораду? Ці шмат асоб займаюцца ў гэтай мясцовасьці ткацтвам, або гафтаваньнем? Ці прадаюць свае вырабы, ці робяць іх для ўласнага ўжытку?

3. Назва зарысаванага прадмету (тканіна, посьцілка, рушнік, гунька, паясок, намётка і г. д.).

4. Хто яго рабіў (імя, прозьвішча і па бацьку, калі не мясцовы чалавек, дык адкуль родам)?

5. Ці ня мае рысунак спэцыяльнай назвы ў мясцовай мове (напр. „капыцікі", „ланцужок", „ёлачкі", „у лусачку" і г. д.)?

6. Адкуль узяты рысунак аўтарам (выдумаў сам, пазычыў у суседа, узяў з друкаванага рысунку, рысунак з даўных часоў ужываецца ў данай мясцовасьці і г. д.)?

7. З якога матар'ялу зроблена тканіна (з нітак пакупных, свайго вырабу, ільняных, ваўняных і г. д.)?

8. Чым хварбаваны ніткі? (Калі хварбай свайго вырабу, дык паказаць, як яна завецца, з чаго і як робіцца).

9. Якія назвы маюць у мясцовай мове тыя колеры, якія сустракаюцца ў рысунку?

Апроч гэтых тлумачэньняў, што *прыкладаюцца да кожнай паасобнай зарысоўкі*, трэба наагул сабраць у данай мясцовасьці ўсе весткі, датычныя самай тэхнікі ткацкага вырабу, назвы ткацкіх прылад (варштат, станок, кросны і г. д.) і іх паасобных частак, а таксама, тэхнічныя тэрміны, зьвязаныя з процэсам вырабу. З асаблівай увагай трэба кожны раз высьветліць, ці зьяўляецца аўтар мясцовым ураджэнцам, і ці не запазычаны ім рысунак з якога-небудзь чужаземнага (расійскага, польскага, украінскага, латыскага, або інш.) ўзору. Тут трэба пытацца наконт бацькоў і наагул продкаў, бо вядомы выпадкі, калі перасяленцы прыносілі на Беларусь (напр. на Случчыну) чужыя орнамэнтальныя формы, дзе яны засталіся да гэтага часу на працягу некалькіх пакаленьняў.

Аналёгічным спосабам павінна рабіцца таксама і зьбіраньне разьбярнае орнамэнтыкі з тэй толькі розьніцай, што ў тых выпадках, калі разьба нехварбаваная, зарысоўку прадмету можна рабіць не каляровую, але звычайную—алоўкам, атрамэнтам, ці тушшу. Апроч таго, ува ўсіх выпадках зарысоўка можа быць зроблена з значным памяншэньнем. У дадатковых ярлыкох трэба сабраць весткі такія-ж самыя, як адносна тканіны, па пытаньнях 1-му, 4-му, 5-му, 6-му, 8-му і 9-му, але далучыць да іх яшчэ наступныя даныя:

а) Ці робіцца ў данай мясцовасьці разьба кожным гаспадаром для ўласнай сваёй будоўлі, ці ёсьць нейкі майстар-разьбяр, што працуе на розных гаспадароў? Калі ёсьць, дык сабраць дакладныя весткі аб гэтым майстры.

б) З якой часткі будынку ўзяты зарысаваны орнамэнт (з акна, дзьвярэй, страхі, ганка і г. д.)? Як завецца гэтая частка ў мясцовай мове? Усе зарысоўкі з аднаго будынку сабраць разам, і далучыць да іх агульную зарысоўку будынку цалком, паказаўшы, дзе які орнамэнт у ім знаходзіцца.

в) Якія інструманты, ці прылады ўжываюцца пры разьбярстве? Як яны завуцца? Ці няма ў мясцовай мове спэцыяльных выразаў, датычных разьбярскае працы?

Для большасьці мясцовасьцяй Беларусі тканінаю, гафтаваньнем і разьбярствам народнае мастацтва вычэрпваецца. Радзей сустракаюцца *расьпісныя* тканіны, дзе адпаведны рысунак намаляваны хварбамі ад рукі. У гэтых выпадках лепш за ўсё набыць самы прадмет, а калі немагчыма, дык зрабіць каляровую зарысоўку, ярлык-жа скласьці таксама як і наагул для ўсякай тканіны.

У некаторых мясцох магла захавацца яшчэ *крашаніна* (набойка, набіванка, або друкаваная тканіна), дзе рысунак атрымліваецца на звычайным палатне пры дапамозе „набіўкі" яго спэцыяльнай рашчынай і хварбаваньня, альбо шляхам друкаваньня рысунку з адпаведных драўляных дошак. Гэтая галіна мастацкае вытворчасьці, якая цяпер сустракаецца рэдка, прадстаўляе найбольшую цікаўнасьць і патрабуе самай пільнай увагі. Зьбіраньне рысункаў і апісаньне тут трэба рабіць па ўзоры, дадзеным намі для тканіны, але апроч таго высьветліць яшчэ і наступныя пытаньні:

1. Як завецца самы гэты выраб у данай мясцовасьці? Як даўно ён тут існуе? Хто ім займаецца?

2. Калі існуе спэцыяльная майстэрня, падаць аб ёй падрабязныя весткі (адрас, валадар, колькі чалавек працуе, абсталяваньне, адкуль атрымліваюцца матар'ялы).

3. Якія прылады, інструманты і матар'ялы ўжываюцца пры вырабе? Якія назвы маюць яны ў мясцовай мове?

4. Адкуль узяты дошкі для набіўкі, або друкаваньня? (Ці прывезены адкуль-небудзь, ці зроблены на месцы? Калі апошняе, дык хто зрабіў? Якімі ўзорамі пры гэтым карыстаўся?—як па пункту 6-му для тканіны, самым падрабязным чынам).

5. Колькі ўсяго паасобных рысункаў ёсьць у майстэрні, або ў майстра? (Лічыць і тыя, што цяпер, можа быць, ім і ня ўжываюцца). Сабраць усе гэтыя рысункі, лепей за ўсё кавалкамі самай тканіны, або адбіткамі з дошак на паперы, і ў крайнім выпадку зарысоўкамі. Заначыць, якія з гэтых рысункаў найбольш „у хаду", якія зусім ужо ня ўжываюцца.

6. Высьветліць, на каго працуе майстар. Ці робіць крашаніну па заказу, ці на продаж? Якое пашырэньне маюць вырабы? (У межах данае вёскі, сяла, мястэчка; у бліжэйшых мясцовасьцях; па ўсім раёне і г. д.).

У выпадках, калі-бы на практыцы пры зьбіраньні ўзораў народнага мастацтва прышлося сустрэць якія-небудзь іншыя віды мастацкае вытворчасьці, напр., вырабы з бяросты, саломы і г. д. (што бывае рэдка), не памянёныя ў нашых праграмах,—трэба прытрымліванца паказаных намі агульных прынцыпаў, г. зн. рабіць як мага больш дакладныя зарысоўкі і дадаваць да іх падрабязныя апісаньні, як у вышэй прыведзеных прыкладах.

---

Значна большыя цяжкасьці для звычайных краязнаўчых установ прадстаўляе дасьледваньне помнікаў старажытнага мастацтва. Праўда, з гэтымі помнікамі часьцей прыходзіцца мець справу інстытуцыям гарадзкім і местачковым,—але і яны звычайна пазбаўлены патрэбных тэхнічных магчымасьцяй, а часам і належнай падрыхтоўкі і спрактыкаванасьці, каб весьці гэтую працу ў колькі-небудзь шырокім маштабе. Як агульнае правіла тут трэба прыняць, што *адзінай формай зьбіраньня матар'ялаў у гэтай галіне могуць быць толькі фотографічныя здымкі*; усякія іншыя спосабы, нават найлепшыя зарысоўкі, у даным выпадку, з прычыны складанасьці формаў самых помнікаў, не дасягаюць сваёй канчатковай мэты. Пры вывучэньні помнікаў архітэктуры да гэтага далучаецца яшчэ патрэба мець дакладныя пляны будынкаў, што можа зрабіць толькі спэцыялісты. З гэтай прычыны займацца самым *зьбіраньнем матар'ялаў* тут могуць толькі тыя краязнаўчыя організацыі, *дзе ёсьць магчымасьць сыстэматычнага фотографаваньня помнікаў*. Там, дзе гэтае магчымасьці няма, трэба ў мэтах экономіі сіл і ў інтарэсах самае справы *абмяжоўвацца толькі складаньнем адпаведных апісаньняў*, якія ў далейшым зьявяцца асновай для спэцыяльных ужо дасьледваньняў, праведзеных праз належныя навуковыя ўстановы. Зразумела, што гэткія-ж апісаньні павінны далучацца і да фотографічных здымкаў, калі-б удалося іх зрабіць. З гэтай прычыны ў далейшым мы падамо як програмы такіх апісаньняў, гэтак і некаторыя ўвагі да фотографаваньня, прадставіўшы дасьледчыкам выкарыстаць тое, што будзе для іх магчымым і патрэбным.

Помнікі старажытнага мастацтва, што захаваліся яшчэ на Беларусі, у большасьці сваёй належаць да трох асноўных мастацкіх галін—*архітэктуры (будаўніцтва), малярства, і скульптуры (разьбярства)*,—кожная з якіх патрабуе сваіх уласных спосабаў і мэтодаў дась-

ледваньня. У некаторых выпадках да іх далучаюцца яшчэ і помнікі прыкладных мастацтваў, галоўным чынам, ювэлірнага.

У найбольшай колькасьці мы знаходзім *помнікі архітэктурныя*, дасьледваньне якіх, аднак, зьяўляецца найбольш цяжкім і складаным. Помнікі гэтыя бываюць двох гатункаў: *царкоўныя і грамадзянскія*, як каменныя, гэтак і драўляныя, прычым царкоўная архітэктура трапляецца значна часьцей і вельмі цікава з гістарычна-архітэктурнага боку, асабліва ў сваіх драўляных формах. Пры фотографаваньні архітэктуры *з кожнага помніка трэба рабіць, па магчымасьці некалькі, здымкаў*, кіруючыся наступнымі правіламі:

1. Царкоўныя будынкі фотографуюцца *з надворнага боку цалком два разы: з паўднёва або паўночна-заходняга і з супроцьлеглага паўднёва або паўночна-ўсходняга боку*, г. зн. адзін раз з рога каля галоўнага ўваходу, другі раз з рога каля аўтарнае часткі, з разрахункам, каб у абодвух выпадках было відаць два фасады адначасна.

2. Грамадзянскія будынкі, асабліва вялікія (напр., палацы), лепей за ўсё фотографаваць *чатыры разы*: *галоўны фасад задні фасад і бакавыя фасады.*

3. Апроч агульных здымкаў, трэба сфотографаваць найбольш цікаўныя *паасобныя дэталі,* калі яны ёсьць: *ганкі, уваходы, вокны, орнамэнтальныя аздобы і г. д.* у большых разьмерах.

4. Унутры з царкоўных будынкаў робяцца *два здымкі* агульнага выгляду: *у бок аўтара і ў бок уваходу.* У грамадзянскіх будоўлях абіраюцца найбольш цікаўныя і характэрныя памяшканьні, напр., *саля, усходы і г. д.* Здымаюцца таксама *дэталі орнамэнтальных аздоб* па сьценах, дзьверах, вокнах, столях і інш.

*Увага:* паказанае фотографаваньне праводзіцца толькі пры дэталёвых дасьледваньнях, пры добрых да таго тэхнічных магчымасьцях; пры звычайнай працы, у выпадку, калі мажліва скарыстаць толькі аматарскую фотографію, з кожнага помніка можна рабіць і па адным здымку, які прыкладаецца да апісаньня для орыентацыі.

Апісаньні архітэктурных помнікаў, нават і без фотографічных здымкаў, зьяўляюцца найбольш важнай часткай справы. Трэба апісваць *усе старажытныя помнікі данага раёну,* не пакладаючыся пры гэтым на свой асабісты густ пры выбары гэтых помнікаў, бо лепей іншы раз апісаць які-небудзь помнік мала цікаўны і мала каштоўны, як прапусьціць што-небудзь запраўды каштоўнае, што відаць толькі спэцыялістаму, а з першага пункту погляду, магчыма, і ня выклікае інтарэсу. Значнае ўвагі, пры гэтым, заслугоўваюць *старыя драўляныя цэрквы,* часта закінутыя, напалову ўжо зруйнаваныя, дзе-небудзь на могілках, у якіх вельмі часта сустракаюцца надта цікаўныя архітэктурныя формы. Апісаньні архітэктуры робяцца па наступных плянах:

1. Дзе знаходзіцца помнік (вёска, сяло, мястэчка, горад, у апошнім выпадку на якой вуліцы)? Як ён разьмешчаны (на ўзгорку, на роўным месцы, у садзе і г. д.)?

2. Які помнік (палац, дом, езуіцкая колегія, ратуша, званіца, царква, капліца, сінагога і г. д.)? Як ён завецца?

3. З чаго пабудаваны (камень, цэгла, дрэва; атынкаваны ці не, дрэва ў дошках ці ў бярвеньнях)?

4. Калі пабудаваны? Калі дата дакладна вядома, дык адкуль? Пашукаць, ці няма дзе-небудзь на самым помніку знадворку, ці ўнутры,

якога надпісу, адкуль відаць час пабудаваньня помніка? Ці няма якіх-небудзь дакумантаў, датычных пабудовы, або перабудовы ці рамонту помніка? Якія гэта дакуманты? Зрабіць з іх належныя выпіскі. (Па царквох такія дакуманты трэба шукаць у царкоўным архіве, перагледаючы так званыя „кліравыя ведамасьці“, „візыты“ і інш. паперы).

5. Якую форму мае будынак у пляне (простакутную, квадратовую, кантовую, крыжападобную і г. д.)? З якіх частак складаецца (у царквох: прытвор, званіца, сярэдняя частка, аўтар, бакавыя прыбудоўкі; у грамадзянскіх будынках: асноўны корпус, прыбудоўкі, вежы і г. д.)? Які выгляд маюць знадворку гэтыя часткі? Колькі паверхаў у кожнай з іх? Колькі дзьвярэй, вакон і г. д.? Разьмеры будынку (лепей за ўсё ў мэтрах; калі немагчыма, дык памераць крокамі).

6. Як апрацаваны сьцены з надворнага боку (колюмны, гзымсы, пілястры, лапаткі)?

7. Якое перакрыцьцё мае будынак? Якая форма даху, або дахаў (двохскатавая, трохскатавая, конусападобная, пірамідальная, купаладобная, шалашовая)? Паказаць перакрыцьцё кожнае паасобнае часткі. Апісаць дэталі перакрыцьця (шпілі, глаўкі і г. д.). З чаго зроблена перакрыцьцё (жалеза, гонта, цёс і г. д.)?

8. Якія орнамэнтальныя дэталі знаходзяцца з надворнага боку? Дзе яны зьмяшчаюцца (навакол дзьвярэй, вакон, па гзымсах, беспасрэдна па сьценах і г. д.) З чаго яны зроблены (з дрэва, цэглы, алебастра, каменя, мэталю)? З чаго складаецца іх рысунак (расьлінныя мотывы, геомэтрычныя формы, жывёлы, чалавечыя фігуры)?

9. Якія памяшканьні знаходзяцца ўнутры будынку? Колькі іх? Як разьмешчаны? Як падзяляюцца і як злучаюцца паміж сабой? Якую маюць форму?

10. Як перакрыты ўнутраныя памяшканьні (столяй, скляпеньнем купалам)? Якую форму мае перакрыцьцё, асабліва скляпеньні (паўкруглую, крыжовую, зоркападобную і г. д.)?

11. Як апрацаваны ўнутраныя памяшканьні ў орнамэнтальным сэнсе (аналёгічна пункту 8-му)?

> *Увага*: калі робяцца фотографічныя здымкі, трэба іх перанумараваць, і ў апісаньні ў адпаведных мясцох пасылацца на належныя нумары.

Некалькі прасьцей і фотографічная праца, і складаньне апісаньняў у адносінах да помнікаў старажытнага малярства. Помнікі гэтыя бываюць або царкоўныя, або грамадзянскія, апошнія—амаль выключна портрэтавага характару. Першыя, па розных цэрквах, часам бываюць напісаны беспасрэдна па сьценах, у другіх выпадках складаюць з сябе іконаставы, або вісяць як паасобныя адзінкі. Малярства портрэтавае трэба шукаць па маёнтках, палацах, або ў тых мясцох, куды яны маглі трапіць у часы вайны і рэволюцыі. У абодвух выпадках, г. зн. і ў цэрквах і ў маёнтках, вельмі карысна аглядаць розныя патаемныя куткі, як каморкі, рызьніцы, званіцы, сутарэньні і г. д., дзе часта такія прадметы бываюць схаваны, а часам нават і проста кінуты, як непатрэбныя.

Пры фотографаваньні малярства з кожнага помніка робіцца *толькі адзін здымак*. У выпадках, калі ёсьць вялікія насьценныя росьпісы,—мясцовым краязнаўчым організацыям лепей за ўсё зусім і ня брацца за іх фотографаваньне, якое патрабуе шмат часу, спракты-

каванасьці і значных выдаткаў,—але толькі зрабіць належныя апісаньні (падрабязна да кожнай паасобнай часткі росьпісу) і накіраваць іх у вадпаведныя ўстановы. Апроч таго, трэба памятаць, *што наагул далёка ня ўсякі помнік малярства можа быць сфотографаваны на звычайных пласьцінках:* для перадачы правільных суадносін колераў звычайна ўжываюцца г. зв. *ортохроматычныя* пласьцінкі, але цяпер іх няма ў продажы нават у буйных асяродках. Пры здыманьні на звычайных пласьцінках некаторыя малюнкі зусім ня выходзяць, другія даюць вельмі дрэнныя здымкі,—так што пры абмежаванасьці сродкаў і пры адсутнасьці спэцыялістага фотографа лепей зусім не рызыкаваць на такое фотографаваньне. Калі здымак усё-ж робіцца, дык трэба толькі сачыць за тым, каб 1) малюнак быў добра асьветлены; 2) каб матавае шкло фотографічнае камеры знаходзілася строга ў аднэй роўніцы з малюнкам.

Апісаньне помнікаў робіцца па наступным пляне:

1. Дзе знаходзіцца, або адкуль узяты малюнак падрабязна (якой царквы, маёнтка, палаца; дзе зьмешчаны—у іконаставе, на сьцяне, знойдзены ў каморцы і г. д.)?

2. Што выабражае малюнак таксама падрабязна (напр., ікона „укрыжаваньне“, „зьвеставаньне“, „Мікола“, „хрыстос“ і г. д.; портрэт князя Карла Радзівіла, смаленскага стольніка Адама Янішэўскага і г. д.).

3. На чым напісаны малюнак (на сьцяне, на тынку, на драўлянай дошцы, на мэталёвай дошцы, на палатне і г. д.)? Разьмеры яго ў сантымэтрах?

4. Якімі хварбамі напісаны (алеевымі, яечнымі, клеявымі, тэмпэрай і г. д.)?

5. Якія надпісы знаходзяцца на малюнку? (Уважліва аглядзець абодва бакі і скоп‘яваць усе надпісы з поўным захаваньнем орыгінальнага правапісу. Калі з надпісаў ня відаць, калі малюнак зроблены,—пашукаць ці няма дакумантаў, з якіх-бы гэта можна было ўстанавіць (у цэрквах тут трэба пераглядзець царкоўныя архівы, „кліравыя ведамасьці“, „візыты“ і г. д. і рабіць з іх адпаведныя выпіскі).

6. Якія колеры ўжыты ў малюнку? (Пералічыць па магчымасьці ўсе, паказаўшы, дзе які з іх знаходзіцца, якія граюць галоўную, якія другарадную ролю).

7. З чаго складаецца малюнак? (пэйзаж, архітэктурныя мотывы, чалавечыя фігуры, жывёлы, і іншыя прадметы. Як яны разьмешчаны і як зьвязаны паміж сабой?).

8. Якія вопраткі сустракаем мы на малюнку? (Апісаць іх, паказаўшы формы і колеры).

9. Ці няма ў малюнку якіх-небудзь орнамэнтальных мотываў (мярэжысты фон, рамка і г. д.)? З чаго складаюцца гэтыя мотывы?

Аналёгічным спосабам фотографуюцца ды апісваюцца таксама і помнікі скульптуры (разьбярства), прычым паказваецца, з якога матар‘ялу зроблена скульптура (з дрэва, алебастра, каменя, гіпса і да т. п.), ахварбавана ці не; пры ахарбоўцы, апісваюцца хварбы, як у пунктах 4 і 6 для малярства. Абмеры скульптуры робяцца ў трох кірунках: даўжыня асновы, шырыня асновы і вышыня прадмета. Калі апісваецца скульптура *барэльефная* (плоская разьба), дык абмеры робяцца толькі па даўжыні і шырыні.

Асаблівае ўвагі заслугоўвае разьба *дэкорацыйная*, якая сустракаецца галоўным чынам у іконаставах і ў рамках навакол образоў Здымкі тут трэба рабіць як з агульнага выгляду композыцыі, гэтак і з па-

асобных частак орнамэнту. Апісваючы, трэба падрабязна зазначыць, з чаго складаецца орнамэнт, якія мотывы ўжыты ў ім і як яны скомбінаваны.

Усе іншыя галіны старажытнага мастацтва, якія маглі-б сустрэцца,—напр., ювэлірныя вырабы, старасьвецкія тканіны і г. д.,—не патрабуюць спэцыяльных програм апісаньня, і павінны дасьледвацца і апісвацца згодна вышэйпададзеных плянаў, кожны раз прыстасаваных да адпаведнага выпадку. Пры гэтым, для старажытных тканін у вагульнай аснове падыходзяць програмы, пададзеныя намі для тканіны сучаснай, помнікі-ж ювэлірнага мастацтва могуць апісвацца аналёгічна скульптуры.

---

Пры разьмеркаваньні ўсёй дасьледчае працы ў краязнаўчай арганізацыі, трэба прыняць пад увагу, што наколькі народнае мастацтва патрабуе сыстэматычнага і доўгага вывучэньня, настолькі-ж у мастацтве старажытным, пры больш разьвітых яго формах, можа быць цікаўным і высока каштоўным і кожны паасобны помнік. З гэтай прычыны, зьбіраньне ўзораў народнага орнамэнту трэба організаваць стала і плянова, прычым імкнуцца сабраць як мага большую колькасьць паасобных рысункаў. Старажытнае-ж мастацтва можна вывучаць пэрыодычна, організуючы спэцыяльныя экскурсіі, або экспэдыцыі з мэтаю паступова дасьледваць і апісаць усе помнікі данага раёну.

Але самае галоўнае—што на гэтую працу *ня трэба глядзець, як на канчатковую.* Усе матар'ялы, сабраныя краязнаўчымі організацыямі на мясцох, і часам для самых гэтых месцаў і ня надта цікаўныя, *толькі тады можна будзе выкарыстаць належным чынам, калі магчымасьць іх распрацоўкі будзе прадстаўлена адпаведнай навуковай інстытуцыі.* Дзеля гэтага *ўсе матар'ялы трэба абавязкова надсылаць у Сэкцыю беларускага мастацтва Інстытуту Беларускае Культуры*, або беспасрэдна, або праз пасрэдніцтва ЦБ Краязнаўства,—бо толькі там матар'ялы гэтыя можна скарыстаць у вагульных інтарэсах беларускае навукі. Для таго-ж, каб і ў данай краязнаўчай організацыі заставаліся некаторыя сьляды праведзенае працы—рэкамандуецца ўсе фотографіі, зарысоўкі і апісаньні рабіць у двох экзэмплярах, пакідаючы адзін сабе, а другі надсылаючы ў Інбелкульт. Пры гэтым, па ўсіх пытаньнях, датычных данае працы, за ўсякага роду дарадамі ці тлумачэньнямі можна зварочвацца да Сэкцыі беларускага мастацтва ІБК, якая з свайго боку глыбака зацікаўлена ў тым, каб завязаць больш сьціслую сувязь з краязнаўчымі інстытуцыямі і знайсьці сабе сярод гэтых інстытуцый цэлы шэраг сталых корэспондэнтаў і супрацоўнікаў.

---

Я. Ракаў.

# Пастаноўка падлічэньня бюджэту часу беларускага селяніна.

## 1. Асаблівасьці падлічэньня бюджэту часу сялян.

### Што робіцца зараз у гэтым кірунку.

У цяперашні час колькі-небудзь значных дасьледваньняў бюджэту часу сялянства ў Беларусі ня робіцца. Цэнтральная Статыстычная Ўправа БССР праводзіць вывучэньне балянсу рабочага часу невялікага ліку сялянскіх гаспадарак. Гэтыя дасьледваньні нас здаволіць ня могуць, дзякуючы дзьвюм асноўным прычынам: 1) дасьледваньне закранае толькі рабочы час, зусім не зьвяртаючы ўвагі ня толькі на вольны час селяніна, але нават на работу, якую селянін адбывае парадкам самаахвотным (напрыклад, грамадзкая праца, праца па самавыхаваньні; 2) мэтод дасьледваньня далёка не дасканалы, бо адбываецца шляхам распытваньня селяніна і членаў яго сям'і і толькі адзін раз на працягу году.

Прымеце пад увагу наагул адносіны сялян да часу, адсутнасьць сьціслага вымерваньня часу, разьлічэньні „на вока", „па сонцы" і г. д. і для вас будзе зразумелым, якім вялікім можа быць пры такіх мэтодах ухіл ад праўды ў той ці іншы бок.

### Асаблівасьці падлічэньня бюджэту часу сялян.

Мэтоды падлічэньня бюджэту часу сялян адрозьніваюцца вельмі значна ад мэтодаў падлічэньня часу іншых груп насельніцтва (рабочых, служачых, студэнтаў, настаўнікаў і г. д.)

### Немагчымасьць самападлічэньня.

Папершае, культурны ровень сялянства ў цяперашні час выключае магчымасьць самападлічэньня і сьціслага вымярэньня часу. Як правіла, мы павінны селяніна распытваць з яго слоў (зразумела, далёка не пунктуальных), запісваць колькі часу ён патраціў па тэй ці іншай часьці звыдаткаванага часу.

### Сэзонны характар працы селяніна.

Падругое, у вадзнаку ад нормальнага рабочага часу іншых груп, які зьяўляецца тыповым і аднальковым на працягу блізка ўсяго году, сялянская праца падлягае значным зьменам у зьвязку з тым ці іншым сэзонам.

### Гадавы балянс часу.

Калі 1-2 тыдні нормальнай працы зусім даволі, каб даць належнае прадстаўленьне аб гадавым балянсе часу рабочага, служачага, студэнта і г. д. (падлічваючы непрацоўны час водпуску і г. д.), дык сялянскі гадавы балянс складаецца з зусім неаднакіх па меншай меры 4-х балянсаў, адпаведна 4-м асноўным сэзонам сельскай гаспадаркі.

## 2. Мэта падлічэньня.

### Вывучэньне ступені перанаселенасьці вёскі.

Мы ўвесь час гаварылі аб аграрнай перанаселенасьці Беларусі. Аднак, сьцісл́ых даных аб гэтым мы ня маем. Для больш праўдзівых вывадаў па даным пытаньні нам варта было-б мець: 1) лік рабочай сілы ў сялянскай гаспадарцы Беларусі (прыбытак рабочага часу), 2) патрэбнае і фактычнае выдаткаваньне рабочай сілы ў сялянскай гаспадарцы (выдатак часу), 3) нявыкарыстаная і нерацыянальна выкарыстаная рабочая сіла (неразьмеркаваны час).

Калі мы дасьледуем тыповыя гаспадаркі БССР па розных адзнаках гаспадарскай моцнасьці (работнікі, жывы і няжывы інвэнтар, ужыткі і г. д.) і паразважаную сярэднюю памножыць на лік гаспадарак (і душ насельніцтва), мы атрымаем па даных § 3 агульную астачу незвыдаткаванай рабочай сілы ў сельскай гаспадарцы БССР, як у % адносінах, так і ў абсолютных цыфрах.

Якое гэта можа мець значэньне пры разьліках і перасяленьні, колёнізацыі, разьвіцьці мясцовых саматужных промыслаў і да т. п., ня цяжка зразумець.

### Вывучэньне быту беларускага сялянства.

Вывучаючы ўвесь бюджэт часу беларускага селяніна, інача́й—яго вытворчую, хатнюю працу, грамадзкую дзеяльнасьць, формы адпачынку, забаў і г. д., мы атрымліваем пэўны малюнак сучаснага беларускага сялянскага быту, мы атрымліваем вёску такою, якою яна ёсьць. Чым жыве і дыша сучасная вёска, куды яна дзяе вольны час, ўсё гэта стане ясным у рэзультаце дасьледваньня.

### Патрэбныя ўмовы для ўзьняцьця культуры вёскі.

Каб зьмяняць быт вёскі, змагацца за новую культуру ў вёсцы, патрэбна дасканалае вывучэньне сучасных умоў. Дзякуючы гэтаму даныя аб быце, аб разьмеркаваньні часу працы і адпачынку набываюць выключнае значэньне для культурных дзеячоў нашай беларускай грамадзкасьці.

### Ліквідацыя няпісьменнасьці і палітасьветпраца.

Вялікія цяжкасьці выклікае пастаноўка ліквідацыі няпісьменнасьці і палітасьветпрацы на вёсцы. У зьвязку з сэзоннымі зьменамі ў прапорцыі паміж працай і вольным часам селяніна, зазначаная работа сама набывае сэзонны характар, мяняючыся з боку ліку і якасьці ў зьвязку з парою году.

Цьвёрды грунт для гэтай работы маглі-б даць пунктуальныя даныя аб вольным часе селяніна па сэзонах з паказаньнем для кожнага сэзону гадзін дня, найбольш спрыяючых для вядзеньня палітасьветпрацы, як для старэйшых сям'і, так і для членаў гаспадаркі, моладзі.

### Становішча сялянкі і сялянскай моладзі.

Нашы даныя таксама дадуць магчымасьць выявіць асаблівасьці палажэньня жанчыны-сялянкі, як гаспадыні ў хаце, а таксама і ліку членаў сям'і, якія дапамагаюць у гаспадарцы. Жанчына, як вядома, у сялянскай гаспадарцы займаецца пераважна хатняй працай, па меры сілы памагаючы мужчыне ў працы вытворчай, але яе праца, ня менш патрэбная для гаспадаркі, ніколі ня прымаецца ў лік сялянскай псыхолёгіяй, і на жанчыну глядзяць, як амаль не на дармаедку.

Ня менш важна выявіць быт нашай вясковай моладзі, калі і колькі яна мае вольнага часу, як яго выкарыстоўвае. Гэта было-б вельмі карысна прыняць пад увагу пры разгарненьні працы комсамолу на вёсцы.

### Хістаньні разьмеркаваньня часу па розных групах сялянства.

Вельмі цікаўныя можна будзе зрабіць вывады, калі параўнаць даныя разьмеркаваньня часу ў розных груп сялянства па адзнаках: роду, узросту, моцнасьці гаспадаркі, культурнасьці яе і г. д. Вельмі паказальна, напрыклад, будзе ведаць затрату часу на грамадзкую працу ў залежнасьці ад моцнасьці гаспадаркі—гэта дасьць нам адказ на пытаньне, якія групы сялянства ў цяперашні час выяўляюць максымальную актыўнасьць у політычным жыцьці.

## 3. Як будзе зроблена падлічэньне.

### Час, які трэба падлічыць.

Падлічэньне павінна адбывацца на працягу дня і ночы (24 гадз.) затым, што нас цікавіць праца і адпачынак сялян ва ўсіх іх выглядах.

Апроч таго, для падлічэньня сэзонных зьмен у разьмеркаваньні часу, а таксама ў мэтах спробы пабудаваньня балянсу прыбытку і выдатку рабочай сілы на Беларусі, падлічэньне будзе рабіцца 4 разы на год (па 4 асноўных сэзонах, па 11 дзён на сэзон, 10 будзённых рабочых дзён і 1 дзень адпачынку).

Мы думаем падлічэньне рабіць прыкладна ў наступны час: 15 чэрвеня, 15 ліпня, 15 верасьня, 15 кастрычніка, 15 сьнежня, 15 студзеня, 15 сакавіка і 15 красавіка. Апошні сэзон у 1926 г. мы ня зможам дасьледваць; такім чынам, калі мы пачнем дасьледваньне з 15 чэрвеня, дык скончым яго да 15 (прыкладна) красавіка 1927 г. Праз месяцы $1^1/_2$-2, пэўна, можна будзе абвясьціць даныя ў апрацаваным выглядзе.

Каб атрымаць больш-менш прыблізную сярэднюю для кожнага сэзону, каб абыйсьці выпадковасьці ў зьвязку з выбарам абыякіх дзён, па жаданьні дасьледчыка, 10 дзён, якія падлягаюць дасьледваньню, будуць мэханічна раскіданы на працягу 2-х месячных пэрыодаў па сэзонах. Пры ўтварэньні падлічэньня прыдзецца строга трымацца дат, аб якіх будуць дадаткова паведамлены тыя, што робяць падлічэньне.

### Об'екты падлічэньня.

Аснаўным об'ектам падлічэньня зьяўляецца сялянскі двор (гаспадарка). Падлічэньню падлягаюць усе члены сям'і данай гаспадаркі, пачынаючы з 10 год.—Па сваім тыпе гаспадаркі будуць падзелены на 6 груп. Мы маем на мэце ўсяго падлічыць да 100—200 гаспадарак па БССР.

### Якімі сіламі будзе зроблена падлічэньне.

Тут мы падыходзім да самага галоўнага.

Якім апаратам данае дасьледваньне будзе зроблена? Мы ўжо паказвалі, што аб самападлічэньні гаворкі быць ня можа. Бадай што ня ўдасца зрабіць падлічэньне пры дапамозе дзяржаўнага статыстычнага апарату затым, што ЦСУ зьвязана сваім плянам працы і ня можа ўзяцца за гэтую справу. Апроч таго, гэтая даволі марудная праца іншы раз зьвязана з нежаданьнем сялян даць падрабязныя і пэўныя адказы. З гэтай прычыны мы лічым за мэтазгоднае зрабіць падлічэньне сіламі дабрахвотных корэспондэнтаў.

### Удзел краязнаўчых таварыстваў і гурткоў.

Праца па падлічэньні бюджэту часу беларускага сялянства робіцца Асоцыяцыяй НОП і Цэнтральным Бюро Краязнаўства пры Інбелкульце.

Мы лічым за мэтазгоднае, каб краязнаўчыя організацыі выдзелілі каго-небудзь з сваіх членаў для правядзеньня гэтай працы. Адзін чалавек за вечар можа зрабіць падлічэньне дзьвюх гаспадарак. Такім чынам, мы павінны мець ня менш як 100 корэспондэнтаў.

### Куды павінен зьвярнуцца корэспондэнт.

Кожны, хто выяўляе жаданьне прымаць удзел у гэтай вялікай працы, павінен аб гэтым тэрмінова напісаць у Інбелкульт. Затым яго паведамяць, якога тыпу гаспадаркі ён павінен дасьледваць.

### Асноўныя групы.

Што-ж належыць да асноўных груп гаспадарак, дык іх прыдзецца прыняць пад увагу ў мэтах далейшай апрацоўкі і рэгістраваць такія адзнакі: 1) род, 2) узрост, 3) няжывы інвэнтар у гаспадарцы, 4) жывёлу, 5) лік зямлі на ўжытках, 6) спосаб зямлякарыстаньня, 7) лік работнікаў і едакоў у гаспадарцы, 8) удзел паасобных членаў сям'і ў тых ці іншых грамадзкіх і партыйных організацыях, 9) хто з членаў сям'і зьяўляецца абраным (актыўным) членам тае ці іншае організацыі (сельсавет, сельком, коопэратыў).

### Як робіцца падлічэньне.

Падлічэньне робіцца парадкам распытваньня корэспондэнтам самога селяніна ды членаў яго сям'і паводле даданай да гэтага програмы.

Распытваньне павінна рабіцца ў вечары. Пытаючыся трэба крок за крокам прасачыць увесь час, праведзены тым, каго распытваюць, наводзіць яго на думкі. Трэба зазначыць выдатак часу ў гадзінах і хвілінах па пунктах аб выдаткаваньні часу, паказаных у програме.

Па сканчэньні падлічэньня сямёх дзён кожнага сэзону матар'ял пасылаецца ў Інбелкульт.

### Пунктуальнасьць запісаў.

Пры ўмовах распытваньня селяніна нельга, зразумела, прэтэндаваць на асабліва вялікую пунктуальнасьць запісаў часу. З гэтай прычыны лічым за мэтазгоднае страту часу абкругліваць да 15 хвілін на кожную справу.

Агульнае падсумаваньне выдатку за дзень і ноч ніякім спосабам ня можа перавысіць 24-х гадзін, так што дабаўляючы да пэўных 15 хвілін у ваднэй рабоце, нельга забывацца адлічыць у наступных; інначай абкругліваньне павінна йсьці ў той ці іншы бок, прычым той, хто пытаецца, заўсёды павінен мець добрае ўяўленьне аб 24 гадзінах пражытых тым, каго ён распытваў.

### Артыкулы выдаткаваньня часу.

Самым цяжкім у дасьледваньні бюджэту часу зьяўляецца апрацаваньне номэнклятуры артыкулаў выдаткаваньня часу. Ня можна ўпадаць у дробязі, але, з другога боку, падлічэньне разьмеркаваньня часу павінна быць даволі дробным, каб даць малюнак быту селяніна.

Дзень селяніна павінен быць падзелены на ніжэйшыя асноўныя групы артыкулаў выдатку часу, згодна схэмы Струміліна[1]

**Праца.**

1. Абавязковая.

А. Вытворчая:

а) па найму,

б) у сваёй гаспадарцы.

Б. Хатняя:

а) прыгатаваньне яды,

б) дагляд памяшканьня,

в) дагляд адзежы,

г) самаабслужваньне.

В. Хадзьба на работу.

Г. Зносіны з рынкам.

2. Вольная:

а) самавыхаваньне,

б) грамадзкая дзеяльнасьць.

**Адпачынак:**

а) ядзеньне,

б) забавы,

в) рэлігійныя запатрабаваньні,

г) бязьдзейны адпачынак.

**Сон:**

а) начны,

б) дзённы.

---

[1]) Струмилин. „Бюджет времени русского рабочего и крестьянина в 1922-23 году". Москва, 1924 г.

### Неразьмеркаваны час.

Што належыцца даданай да гэтага програмы, дык яна вельмі дэталізавана. За корэспондэнтам застаецца воля рабіць запісы дэтальна, як прапануе програма, ці скараціць іх. Ува ўсякім разе асноўныя артыкулы выдаткаваньня часу, адзначаныя нумэрацыяй арабскімі цыфрамі, ня могуць быць далей звужаны.

### Сувязь і інструктаваньне.

Пажадана, каб корэспондэнты ў выпадку свайго прыезду ў Менск зьвярталіся ў Інбелкульт для жывога інструктаваньня.

Спраўкі можна будзе атрымліваць ад аўтара гэтага артыкулу, а таксама ў Асоцыяцыі НОП Інбелкульту.

**Я. Ракаў.**

Дадатак: Програма падлічэньня часу.

---

## Інструкцыя да програмы падлічэньня бюджэту часу беларускага селяніна.

1. Падлічэньне робіцца на працягу году ў дні, якія будуць паказаны дадаткова.

2. Кожны дапісчык падлічвае 1-2 сялянскія гаспадаркі, падлічваючы выдатак часу ўсіх членаў гаспадаркі шляхам распытваньня, не пазьней дня, які йдзе за днём падлічэньня.

3. Не падлічваецца час дзяцей маладзей 10 год і непрацаздольных, якія фізычна ня здольны да працы і актыўнай дапамогі гаспадарцы ня робяць.

4. Кожнаму дапісчыку будзе давацца тлумачэньне аб тым, якія гаспадаркі (па асноўных адзнаках) ён мае падлічваць.

### Па блянку № 1.

5. Блянк № 1 запаўняецца на кожную паасобную гаспадарку і высылаецца ў Інбелкульт разам з блянкамі № 2 пасьля падлічэньня працы 1-га сэзону (не пазьней 20-VI 1926 г.).

6. Сямейны склад гаспадаркі не падлічваецца па прозьвішчах і іменьнях, але гэткім спосабам: „жонка 46 год, сын 28 год“ і г. д.

7. Пры пералічэньні інвэнтару не закранаць дробязяй, але пералічваць асноўны інвэнтар, як, напрыклад: плуг, барана, воз, малатарня, жніварка і інш.

8. Пры пералічваньні жывелы па відах, трэба паказаць асобна лік галоў рабочай жывёлы і асобна маладняк.

9. Апісваючы формы зямлякарыстаньня, паказаць, якая гаспадарка: абшчынная ці падворная, хутарская, адрубная, а таксама велічыню цераспалосіцы.

10. Апісваючы спосабы вырабу зямлі закранаць ступень культурнасьці вырабу (трохпалёўка, шматпалёўка, ужываньне машын, вычышчэньне насеньня, угнаеньне).

11. Пункт аб спосабах перапрацоўкі продуктаў сельскай гаспадаркі запаўняць толькі ў тым выпадку, калі ёсьць спэцыяльныя прылады для гэтага (сэпаратары, сыраварні і г. д.).

**Па блянку № 2.**

12. Блянк № 2 запаўняецца асобна на кожнага члена сям'і на працягу 11 дзён па датах, якія будуць паказаны дадаткова.

13. У рубрыцы 1-ай паказаць мясцовыя заработкі, але не заработкі на старане. Час асоб, якія знаходзяцца на старане, не падлічваць.

14. У рубрыках 2 і 3-яй падлічваць работу на сваёй гаспадарцы. Больш падрабязнае падлічэньне па літ. а, б, в і г. д. неабавязкова.

15. У рубрыцы 5-ай падлічваць работу не пастаяннага рамесьніцкага характару, але паасобнага (выраб палатна і г. д.) работу, прызначаную для рынку.

16. У рубрыцы 6-ай падлічваць прыгатаваньне яды, нашэньне вады, калоньне дроў, мыцьцё пасуды і г. д.

17. У рубрыцы 7-ай падлічваць прыпарадкаваньне памяшканьня, рэмонт будынкаў, пасудзін розных і г. д.

18. У рубрыцы 8-ай падлічваць чыстку, напраўку, шыцьцё адзежы і абутку.

19. У рубрыцы 9-ай падлічваць дагляд за сабою, напрыклад: адзецца, памыцца, пастрыгчыся, пабрыцца, памыцца ў лазьні, пакупацца ў рэчцы.

20. У рубрыцы 10-ай падлічваць толькі хаду з дому на месца работы. Пераходы, зьвязаныя з працэсам працы (араньнем, падрыхтоўкай апалу) падлічваюцца разам з працай.

21. У рубрыцы 19-ай падлічваць наведваньне вечарын мастацка-літаратурнага зьместу, тэатру, кіно, паляваньне, і рыбную лоўлю.

22. У рубрыцы 20-ай—гульня ў карты, вечарынкі, на якіх някультурна траціцца час ужываньнем алькоголю, бойкамі і гэтак далей.

23. У рубрыцы 21-ай падлічваць прыйманьне гасьцей, тнаведваньне знаёмых, танцы, сьпяваньне, ігру на музычных інструман ах.

24. У рубрыцы 24-ай падлічваць час, сьвядома патрачаны на бязьдзейны адпачынак.

25. У рубрыцы 27-ай падлічваць увесь час, аб якім той, час каго падлічваюць ня можа паказаць спосабу яго выдаткаваньня, і час, які не ўваходзіць у папярэднія рубрыкі, напрыклад: чаканьне, нявольны прыпынак работы з прычыны пагоршаньня атмасфэрных акалічнасьцяй і падобную да гэтага лішнюю трату часу.

Г. Парэчын.

# Аб зьбіраньні матар'ялаў па народным звычаёвым праве.

На вёсках часта можна назіраць выпадкі, калі сяляне вырашаюць тыя ці іншыя спрэчныя пытаньні свае гаспадаркі і сям'і бяз суду, на падставе тых звычаяў, якія ўжываліся раней у вёсцы і якія застаюцца да гэтага часу. Для навукі вельмі важна ведаць усе такія звычаі, бо яны адбіваюць у сабе тое, што нідзе не запісана, але ў жыцьці вёскі мае вялікае значэньне. Вышэйшая навуковая ўстанова Беларусі—Інстытут Беларускае Культуры—праз сваю Праўную Сэкцыю прыступае да вывучэньня гэтых звычаяў па ўсёй Беларусі. Ён можа дасягнуць свае мэты толькі пры актыўнай дапамозе тых, хто беспасрэдна назірае гэтыя звычаі. Найлягчэй іх можна выявіць праз гутарку з тымі сялянамі, якія карыстаюцца на вёсках належным аўторытэтам і з гэтае прычыны часта запрашаюцца іншымі сялянамі для вырашэньня тых ці іншых спрэчак. Праўная Сэкцыя лічыць, што грамадзкія працаўнікі вёскі добра ведаюць такія звычаі з беспасярэднага назіраньня іх. Маючы ўсё гэта на ўвазе, Сэкцыя спадзяецца знайсьці сабе сярод іх актыўных супрацоўнікаў і сталых корэспондэнтаў. Сэкцыя выпрацавала сьпіс пытаньняў, на якія яна хоча мець адказы. Гэта праца будзе найбольш каштоўна, калі адказы на пытаньні будуць ілюстраваны прыкладамі, паказваючы дзе, калі, у чыёй сям'і і як гэта адбылося.

## Пытаньні.

*(Распрацованы Праўнаю Сэкцыяй Інбелкульту на падставе дакладу т. Я. А. Бонч-Асмалоўскага).*

1. Ці бываюць выпадкі, калі старога, які зрабіўся няздольным да працы, пазбаўляюць правоў кіраваць гаспадаркаю? Ці яму выдзяляюць рухомую маёмасьць, ці даюць хлеб?

2. Ці бываюць выпадкі, калі тых членаў гаспадаркі, якія доўгі час (гадоў 7-10) не працавалі на гаспадарцы, ізноў прымаюць як роўнапраўных членаў?

3. Ці вывучыўшым якое-небудзь рамяство (каваля, шаўца, настаўніка і г. д.) пры падзеле гаспадаркі даецца такая самая частка гаспадаркі, як іншым членам, ці меншая?

4. Ці бываюць выпадкі злучэньня дзьвюх гаспадарак у вадну, напр., пры жаніцьбе, прымацтве, апякунстве?

5. Ці бываюць выпадкі, якія паказваюць, што сяляне лічаць нявыгодным драбіць гаспадарку? Ці прымаюць для гэтага якія-небудзь меры (прыгаворы сходаў, умовы ў сем'ях і інш.)?

6. Ці бываюць выпадкі, калі пры падзеле гаспадаркі дзеліцца толькі будоўля, жывёла і іншая маёмасьць, а зямля застаецца ў непадзельным карыстаньні?

7. Прымаючы прымакоў, ці робяць з імі ўмозы і якія? Што бывае, калі прымак парушыць гэтыя ўмовы?

8. Ці бываюць выпадкі, калі на гаспадарку, у якой няма рабочых рук, прымаюць назаўсёды, чалавека, якому пасьля сьмерці гаспадара і застаецца гаспадарка? Як іх завуць—здольнікамі ці іначай? Як іх прымаюць—па дагаворы ці не, і на якіх умовах? Пералічэце іх. Што робяць, калі ён гэтых умоў ня выпаўніць?

9. Ці бываюць выпадкі, калі прымак альбо здольнік атрымлівае частку маёмасьці з тае гаспадаркі, з якой яны прыходзяць на новую гаспадарку? Як гэтая частка маёмасьці завецца?

10. Ці заўсёды даюць дзяўчыне пасаг? Што звычайна даецца ў пасаг? Ці бываюць выпадкі, калі дзяўчына, вышаўшы замуж без пасагу, патрабуе яго ад бацькоў пасьля?

11. Прынятыя на гаспадарку—нявестка, прымак альбо здольнік—пры выхадзе з гэтае гаспадаркі бяруць толькі рухомую маёмасьць, ці таксама частку зямлі? Ці бяруць яны частку толькі на сябе, ці таксама і на дзяцей?

12. Ці залежыць выдзел ім часткі зямлі ад таго часу, які яны пражылі на гаспадарцы?

13. Калі жанчына вернецца з дзецьмі да свайго бацькі (разьвёўшыся ці заўдавеўшы), ці лічаць яе і дзяцей роўнапраўнымі членамі гаспадаркі яе бацькі? Ці плаціць муж разводкі на выхаваньне дзяцей?

14. Калі выходзіць замуж жанчына з дзецьмі ці лічаць яе дзяцей роўнапраўнымі членамі гаспадаркі новага мужа? Ці робяць аб гэтым якія-небудзь умовы?

15. Хто і як назначае апеку над сіротамі?

16. Ці пасаг лічыцца агульнай маёмасьцю хатняе гаспадаркі, ці нявестка мае на яго асаблівыя правы?

17. Ці бываюць выпадкі, калі нявестка альбо прымак пры выхадзе з гаспадаркі забіраюць назад толькі свой пасаг і пры якіх умовах ім не выдзяляецца частка хатняе гаспадаркі?

18. Ці бываюць выпадкі, калі пры падзеле гаспадаркі маёмасьць дзеліцца па ліку дзяцей гаспадара, ці дзеляць яе па ліку працаздольных, ці па ліку ўсіх душ?

19. Ці аддзяляюць на малалетніх такія-ж долі, як і на дарослых, ці меншыя?

20. Як дзеляць гаспадаркі, па пісаным дагаворы, ці вусна пры сьведках? Ці запрашаюць для падзелу суседзяў? Якія яшчэ ўжываюцца спосабы падзелу?

21. Ці вырашаюць бяз суду і як вырашаюць самаўпраўства, напр., захват зямлі, перакос і г. д.?

---

# Ад Тэатральнае Падсэкцыі Інстытуту Беларускае Культуры.

Тэатральная Падсэкцыя Інстытуту Беларускае Культуры паставіла аднэй з сваіх мэт зьбіраньне матар'ялаў да гісторыі беларускага тэатру.

Падсэкцыя заснавала тэатральны музэй, які павінен ахапіць матар'ялы па гісторыі беларускага тэатру ўсіх пэрыодаў:

1. Беларускія пацешнікі (скамарохі).
2. Народныя паказы гадавога кругу.
3. Беларускія царкоўныя містэрыі і інтэрмэдыі школьнае драмы на Беларусі ў XVI—XVIII вякох.
4. Батлейка.
5. Беларускі тэатр часоў Дуніна-Марцінкевіча і тэатр пры панскіх дварох часоў прыгону.
6. Беларускі тэатр часоў „Нашае Нівы".
7. Беларускі тэатр часоў „Першага Таварыства Драмы і Камэдыі".
8. Беларускі тэатр у Савецкай Беларусі і па-за яе межамі, як профэсыянальны, таксама і самадзейны па гарадох і вёсках.

У музэй ужо пачалі паступаць розныя экспонаты. Плян працы па заснаваньні музэю наступны:

а) Зьбіраньне рэчавых памятак працы, што да адраджэньня і будовы беларускага тэатру.

б) Фотографіі, зарысоўкі тыпаў, пастановак і г. д.

в) Этнографічны матар'ял, зьвязаны з беларускім тэатральным мастацтвам (характары, самадзельны рэквізыт і бутафорыя).

г) Афішы, програмы, рэцэнзіі, рукапісы і іншыя матар'ялы па гісторыі беларускага тэатру.

д) Макеты пастановак.

е) Мэмуарны матар'ял, зьвязаны з гісторыяй беларускага тэатру.

ж) Розны матар'ял архіўнага характару як афіцыяльнага, так і прыватнага значэньня, біографічны матар'ял выдатных працаўнікоў беларускае сцэны і інш.

Падсэкцыя зварочваецца да ўсіх, каму дарага разьвіцьцё беларускага тэатру, прыйсьці з дапамогай у організацыі тэатральнага музэю. У першую чаргу Падсэкцыя пакладае свае надзеі на краязнаўчыя організацыі. Падсэкцыя просіць памянёныя організацыі як акруговыя, гэтак і раённыя сачыць і паведамляць Тэатральную Падсэкцыю праз Цэнтральнае Бюро Краязнаўства аб усіх спэктаклях, концэртах, дзіцячых паказах, якія адбываюцца ў беларускай мове. Вельмі пажадана, каб прысылаліся абвесткі, програмы, а пры магчымасьці фотографіі, калі такія былі.

Вельмі важна таксама апісаньне народных паказаў пры гадавых абраднасьцях па розных кутках Беларусі, а таксама апісаньне сцэнічных прылад. Калі дзе яшчэ захаваліся батлейкі, прымітыўныя

маскі і вопраткі народных паказаў, дык гэта ўсё просім прысылаць у музэй. Вялікае значэньне маюць да гісторыі беларускага тэатру ўспаміны тэатральных працаўнікоў аб забаронах царскімі і польскімі чыноўнікамі спэктакляў на беларускай мове.

*Сябры! пасылайце ўсё, што мае адносіны да тэатру на Беларусі!* Бо толькі з шырокаю грамадзкаю дапамогаю Інбелкульт утворыць музэй. Калі хто-небудзь захоўвае і хоча прадаць якія-небудзь рэчы, якія маюць дачыненьне да гісторыі тэатру на Беларусі, паведамляйце аб гэтым. Кожная маленькая рыса, кожная дробязь, кожнае апісаньне маюць вялікую вартасьць для гісторыі беларускага тэатру.

Старшыня Тэападсэкцыі Інбелкульту,
член Інбелкульту *Мік. Красінскі.*

Старшыня Музэйнае камісіі, член Інбелкульту *Фл. Ждановіч.*

# ХРОНІКА.

## Першы Ўсебеларускі Краязнаўчы Зьезд [1]).

7—10 лютага г. г. адбыўся Першы Ўсебеларускі Краязнаўчы Зьезд. Ад першай Усебеларускай Краязнаўчай Конфэрэнцыі, якая адбылася ў лістападзе 1924 году, Зьезд рэзка адразьняўся. Конфэрэнцыя 1924 г. намеціла мэтоды коордынацыі краязнаўчай працы ў межах БССР і способы пропаганды краязнаўчых ідэй. Зьезд 1926 г. займаўся галоўным чынам пытаньнямі аб тым, як і ў якім кірунку павінны працаваць краязнаўчыя організацыі. На Конфэрэнцыі былі прадстаўлены галоўным чынам вышэйшыя школы, музэі, дасьледчыя станцыі, архівы і іншыя ўстановы, зацікаўленыя ў разьвіцьці краязнаўства, а таксама прысутнічалі асобныя краязнаўцы-спэцыялістыя; на Зьезд-жа былі закліканы амаль што выключна прадстаўнікі краязнаўчых організацый, лік якіх з 1924 да 1926 году павялічыўся ўва многа разоў.

Усяго на Зьезд зьехалася 120 дэлегатаў, з якіх 112 мелі рашаючы голас, 8—дарадчы. Ня лічачы Інбелкульту, ЦБК і музэяў, былі прадстаўлены 87 краязнаўчых таварыстваў і гурткоў, лік членаў у якіх дасягае 5000.

Па партыйнасьці дэлегаты падзяляліся так: членаў КП (б) Б—9, кандыдатаў—5, членаў і кандыдатаў ЛКСМБ—11, беспартыйных—95.

Зьезд адчыніўся 7 лютага ў вечары. У прэзыдыум былі абраны т. т. Вілянстовіч, Ігнатоўскі, Сэрбэнта, Шукевіч-Траццякоў, Смоліч, Азбукін, Касьпяровіч, Мікіцін, Мікалаеў, Плышэўская, Ільючонак, Зянюк, Васілеўскі, Салаўёў, Букініч, Рагінскі, Аніхоўскі і Мацьвяёнак. Ганаровымі членамі прэзыдыуму былі абраны т. т. Сталін, Крыніцкі, Чарвякоў, Адамовіч, Ендакоў і Гэсэн.

З прывітаньнямі выступалі т. Гэсэн ад ЦК КП (б) Б, т. Конанаў ад ЦСПСБ, т. Ігнатоўскі ад Інбелкульту і Народнага Камісарыяту Асьветы, т. Аляксандраў ад Яўрэйскага аддзелу Інбелкульту і т. Мікалаеў ад Гомельскага Губэрскага Бюро Краязнаўства.

Усіх пасяджэньняў Зьезду адбылося 8 па такой програме:

1. Політычны даклад т. Чарвякова.
2. Інформацыйны даклад т. Смоліча аб праробленай працы Інбелкульту.
3. Справаздача ЦБК.
4. Даклады з месц.
5. Інструкцыйныя даклады:

а) Фядзюшын. Заданьні прыродазнаўчага вывучэньня Беларусі.

б) Некрашэвіч. Мовазнаўчая праца краязнаўчых організацый.

в) Гарэцкі. Зьбіраньне фольклёру.

г) Пятровіч. Як весьці працу па вывучэньні гаспадаркі.

д) Проф. Доўнар-Запольскі. Краязнаўчая праца ў галіне гісторыі і археолёгіі.

е) Мароз. Ахова помнікаў.

ж) Дыла. Вывучэньне мастацтва.

з) Мялешка і Ракаў. Вывучэньне быту бюджэт часу селяніна.

6. Проф. Ігнатоўскі. Далейшыя шляхі краязнаўства на Беларусі.

Па дакладах былі прыняты наступныя рэзолюцыі.

### Рэзолюцыя па дакладу т. Чарвякова.

Заслухаўшы політычны даклад т. Чарвякова, Першы Ўсебеларускі Зьезд Краязнаўства констатуе, што ня гледзячы на ўсе перашкоды з боку сусьветнай буржуазіі, ворагу рэволюцыйнага пролетарыяту і сялянства, пад умелым і цьвёрдым кіраўніцтвам комуністычнай бальшавіцкай партыі адбудаваньне нашай соцыялістычнай гаспадаркі шпаркім крокам ідзе наперад.

Побач з ростам і ўзмацненьнем соцыяльнага будаўніцтва паляпшаецца матар'яльнае становішча рабочых, сялян і служачых.

Узмацненьне соцыялістычнай прамысловасьці павялічвае і ўзмацняе пролетарыят, дапамагае разьвіцьцю сельскае гаспадаркі, узмацоўвае саюз між рабочай клясай і сялянствам і тым самым канчаткова замацоўвае становішча нашага Соцыялістычнага Савецкага Саюзу як ува ўнутраным, так і міжнародным маштабе. Краязнаўчы Зьезд заяўляе, што краязнаўчыя організацыі ўсю сваю працу будуць накіроўваць да таго, каб адбудаваньне соцыялістычнай гаспадаркі ішло яшчэ больш шпаркімі крокамі.

Зьезд заяўляе, што ўся краязнаўчая праца будзе весьціся па дырэктывах і пад кіраўніцтвам Комуністычнае Партыі і Савецкай Улады. Краязнаўчы Зьезд рашуча выступае супроць групы Лістападу і патрабуе, каб вінаватыя былі належным чынам пакараны.

[1]) Протоколы Зьезду рыхтуюцца да друку асобным сшыткам.

Няхай жыве Саюз Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік!

Няхай жыве Беларуская Савецкая Соцыялістычная Рэспубліка!

Няхай жыве і мацнее саюз рабочых і сялян Беларусі і ўсяго сьвету!

# Пастановы першага Ўсебеларускага Краязнаўчага Зьезду 7—11 лютага 1926 г. ў Менску.

## Рэзолюцыі па дакладах Цэнтральнага Бюро Краязнаўства і мясцовых краязнаўчых організацый.

Заслухаўшы справаздачу ЦБ Краязнаўства, акруговых і раённых краязнаўчых організацый і паасобных гурткоў за справаздачны тэрмін з 9 сьнежня 1924 г. па 7 лютага 1926 г., Першы Ўсебеларускі Краязнаўчы Зьезд адзначае, што сетка краязнаўчых організацый у параўнаньні з мінулым годам значна пашырылася і організацыйна ўформавалася. Замест 19 організацый, якія існавалі і прыслалі на мінулую конфэрэнцыю сваіх дэлегатаў, мы цяпер маем да 167 організацый, аб якіх ёсьць весткі ў ЦБК, а фактычна, як выявілася з дакладаў з месц, лік організацый значна большы. За справаздачны час шырака популярызавана ідэя ўсебаковага вывучэньня краю і ня толькі прыцягнута да працы працоўная інтэлігенцыя, але абуджана зацікаўленасьць гэтай працай і ў шырокіх працоўных масах. Некаторымі краязнаўчымі таварыствамі праведзена навукова-дасьледчая праца і прыступлена да выданьня сабраных матар'ялаў. Побач з гэтым трэба адзначыць, што яшчэ не дасягнута поўнае кіраўніцтва мясцовымі організацыямі з боку ЦБК і акруговых краязнаўчых таварystваў. Недахоп сродкаў ня даў магчымасьці шырака разгарнуць выдавецкую працу па выданьні належнай кіраўнічай літаратуры. Ня гледзячы на гэтыя недахопы, прароблену ЦБК і ўсёй краязнаўчай сеткай працу Зьезд прызнае здавальняючай. На далейшае Зьезд лічыць абавязкова патрэбным зьдзейсьніць наступнае:

### *I. Організацыйныя пытаньні.*

1. Зьезд прапануе ўсім краязнаўчым організацыям узмоцніць дзейнасьць па прыцягненьні да краязнаўчай працы самых шырокіх работніцка-сялянскіх мас, у першую чаргу партыйных і профэсыйных работнікаў, а таксама Комуністычнага Саюзу Моладзі, савецкіх працаўнікоў, настаўнікаў, агрономаў, дактароў, лясьнічых, каморнікаў, коопэратараў, культурных, і політасьветных працаўнікоў вёскі, сялянскага актыву, піонэраў і наагул вучнёўскай моладзі.

2. Зьезд адзначае абавязковую патрэбнасьць уцягваньня нацыянальных меншасьцяй у працу краязнаўчых організацый як дзеля агульнае працы, так і дзеля вывучэньня мінулага быту і культуры нацменшасьцяй. Нацыянальныя аддзелы Інбелкульту маюць сваіх прадстаўнікоў у Цэнтральным Бюро Краязнаўства.

3. Зьезд прапануе прыняць пад увагу краязнаўчы ўхіл школ і патрэбу ў пляновым вывучэньні сельсавецкіх ды раённых тэрыторый з мэтамі пабудаваньня пляновай мясцовай гаспадаркі дзяржаўных, коопэрацыйных і іншых гаспадарчых органаў, увязваючы дзеля гэтае мэты сваю працу з дзейнасьцю гэтых органаў.

4. Дзеля цясьнейшай увязкі працы раённых краязнаўчых організацый з дзейнасьцю мясцовых дзяржаўных і грамадзкіх органаў і для уніфікацыі краязнаўчай сеткі БССР, Зьезд выказваецца за ўтварэньне ўва ўсіх раёнах, апроч тых, якіх цэнтры супадаюць з акруговымі,—паасобных раённых таварыстваў, якія ў сэнсе непасрэднага навуковага кіраваньня і інструктаваньня падлягаюць сваім акруговым таварыствам, а таксама ЦБК у галіне пытаньняў агульна-рэспубліканскага маштабу. Мясцовыя гурткі падлягаюць сваім раённым таварыствам.

5. Прызнаецца пажаданым скліканьне пашыраных пленумаў ЦБ Краязнаўства з удзелам прадстаўнікоў ад акруговых таварыстваў.

6. Для большай сувязі і кіраўніцтва пажадана, каб ЦБК практыкавала вызавы на свае пасяджэньні прадстаўнікоў акруговых і раённых таварыстваў для інформацыі аб працы.

7. Зьезд заклікае раённыя і акруговыя таварыствы да шырокай організацыі гурткоў краязнаўства пры сельсаветах, хатах-чытальнях і школах. Заданьнем гэтых гурткоў трэба лічыць: а) утварэньне сельсавецкіх, школьных і іншых музэяў, б) організацыя краязнаўчых куткоў у хатах-чытальнях, в) зьбіраньне матар'ялаў для раённых таварыстваў, г) наладжаньне экскурсій, лекцый і дакладаў на краязнаўчыя тэмы і г. д.

8. Прызнаючы вялікае выхаваўчае значэньне школьнага краязнаўства, Зьезд даручае раённым таварыствам у сувязі з культаддзеламі Райвыканкомаў правесьці ў працягу вясны і лета г. г. закладку школьных музэяў і побач з гэтым школьных гурткоў краязнаўства *па ўсёй школьнай сетцы раёнаў*.

9. Усе экспонаты і матар'ялы агульна-рэспубліканскага значэньня павінны пасылацца мясцовымі організацыямі ў цэнтральныя музэі і архівы праз ЦБК.

10. ЦБК павінна распрацаваць, надрукаваць і разаслаць аднатыповы членскі білет для ўсіх краязнаўчых організацый.

11. Фінансавыя сродкі краязнаўчых організацый павінны складацца як з членскіх складак, субсыдый дзяржаўных гаспадарчых і профэсыйных мясцовых організацый ды з адлічэньняў ад продажы выданьняў ЦБК і Інбелкульту.

12. Акруговыя таварыствы павінны зьвярнуцца ў мясцовыя дзяржаўныя органы аб прыняцьці іх выдаткаў з будучага бюджэтнага году на мясцовы бюджэт.

13. Выданьні акруговых таварыстваў друкуюцца толькі пасьля ўхваленьня іх Цэнтральным Бюро Краязнаўства.

14. Зьезд прызнае патрэбным павялічыць з наступнага бюджэтнага году дзяржаўныя сродкі, адпусканыя ЦБК, з мэтай узмацненьня краязнаўчага выдавецтва (асабліва ў справе выданьня дапаможных падручнікаў і спраўачнікаў), а таксама на павялічэньне інструктарскага штату, на пашырэньне ды паляпшэньне часопісу „Наш Край" і на даставу мясцовым арганізацыям краязнаўчай літаратуры.

15. ЦБК мусіць весьці сталае вывучэньне арганізацыйных формаў краязнаўчага руху з мэтаю іх удасканаленьня. Пажадана праца ў гэтым кірунку і мясцовых арганізацый. Аб выніку гэтай працы яны павінны паведаміць праз „Наш край".

## II. Аб навуковай дзейнасьці.

1. Навуковая дзейнасьць краязнаўчых арганізацый павінна мець сваёй мэтай перад усім абслужваньне вытворчых патрэб мясцовых гаспадарчых і культурных установ, даючы ім матар'ялы для характарыстыкі асаблівасьцяй данай тэрыторыі і яе прыродных ды экономічных рэсурсаў. Побач з гэтым трэба зьвярнуць пільную ўвагу на сталае нагляданьне жыцьця вёскі і тых зьяў, якія адбіваюцца ў сучаснасьці на яе быце, гаспадарцы і сьветапоглядзе.

2. Асноўным відам працы краязнаўчых організацый зьяўляецца навуковае апісаньне сваёй тэрыторыі. Гэтыя апісаньні павінны будуць скласьці адзіны колектыўны твор усёй краязнаўчай сеткі — краязнаўчае апісаньне БССР.

3. Усе краязнаўчыя організацыі павінны прымаць актыўны ўдзел у працы Інбелкульту і яго сэкцый шляхам допісаў і паведамленьняў, а таксама шляхам зьбіраньня навуковых матар'ялаў, запаўненьня анкет і вядзеньня нагляданьняў па наказах асобных сэкцый і камісій ІБК, пасылаючы матар'ялы праз ЦБК. Асаблівую ўвагу трэба зьвярнуць на зьбіраньне матар'ялаў па мясцовай народнай мове і фольклёры.

4. Лічачы асабліва важным для ўсёй навукі аб Беларусі ўсесаюзны перапіс 1926 г., Зьезд заклікае ўсе акруговыя ды раённыя т-вы і гурткі краязнаўства прыняць удзел у працы перапісных камісій і ў самым перапісе, а таксама выкарыстаць перапісныя матар'ялы з мэтай вывучэньня сваёй мясцовасьці.

5. Краязнаўчыя організацыі павінны наглядаць за адносінамі мясцовай люднасьці да перапісу, за тэхнікай яе выкананьня (напрыклад, за правядзеньнем выяўленьня ўраджайнасьці, зямельнай плошчы, саматужных промыслаў, нацыянальнасьці і г. д.).

6. Прызнаючы вялікую важнасьць географічнай номэнклятуры, Зьезд падкрэсьлівае вялікую патрэбу правільнага напісаньня народных назоваў паселішчаў у час перапісу з адзначэньнем націскаў, адпаведна мясцоваму вымаўленьню.

7. Краязнаўчыя організацыі праз акругі і ЦБК, высоўваюць кандыдатуры больш актыўных у навукова-дасьледчай і культурна-вытворчай працы сваіх сяброў у члены-корэспондэнты Інбелкульту. Высоўваньне робіцца ў пісьмовай форме з далучэньнем падрабязнай інформацыі аб кандыдаце. Зацьверджаньне прадстаўленых кандыдатур робіцца паводле ўставы Інбелкульту.

8. Пажадана, каб інструкцыйныя выданьні ЦБК былі больш прыстасаваны да разуменьня масавых працаўнікоў.

## III. Аб часопісе „Наш край".

1. Часопіс павінен больш адбіваць вынікі працы мясцовых краязнаўчых організацый.

2. Асноўным зьместам павінны быць: а) мэтодолёгічныя і кіраўнічыя артыкулы, б) артыкулы аб навуковай працы ў межах Беларусі, в) вынікі працы мясцовых організацый (навуковыя артыкулы, організацыйныя пытаньні і г. д.), г) інформацыі аб краязнаўчым руху БССР і ўсяго сьвету, д) інструкцыі, програмы і анкеты, е) краязнаўчая бібліографія.

3. Трэба палепшыць тэхніку, павялічыць лік ілюстрацый, дасягнуць акуратнасьці і сваячаснасьці выпуску.

4. Усе мясцовыя краязнаўчыя організацыі павінны перасылаць у рэдакцыю „Нашага Краю" рэгулярныя паведамленьні аб сваёй працы, а асабліва аб прачытаных у іх дакладах і лекцыях.

5. Усе краязнаўчыя організацыі мусяць узмацніць працу па пашырэньні падпіскі і сбыту часопісу „Наш Край" сярод мясцовых установ, організацый і шырокіх мас.

## IV. Аб краязнаўчых музэях і бібліотэках.

1. Кожная краязнаўчая організацыя павінна організоўваць музэй, прычым рэчы агульна-дзяржаўнага значэньня павінны праз ЦБК накіроўвацца ў Дзяржаўны Музэй і яго аддзяленьні.

2. У цэнтрах акруг закладаюцца музэі мясцовага краю, утрыманьне якіх пажадана правесьці па мясцовым бюджэце.

3. Раённыя музэі павінны адбіваць у сабе прыроду, гаспадарку і быт раёну. Калі гэтыя музэі не атрымоўваюць сродкаў па мясцовым (раённым) бюджэце, дык яны зьмяшчаюцца альбо пры мясцовым краязнаўчым таварыстве, альбо пры аднэй з мясцовых культурных установ.

4. Кожная краязнаўчая організацыя павінна рупіцца ў першую чаргу аб залажэньні падручнай краязнаўчай бібліотэкі з прац, якія маюць мэтодолёгічны характар або адно-

сяцца да апісаньня данай мясцовасьці і ўсёй Беларусі.

5. ЦБК мусіць унесьці ў каштарыс патрэбныя сродкі на папаўненьне краязнаўчых бібліотэк.

### *V. Лектарска-экскурсійная праца.*

1. У мэтах пашырэньня краязнаўчых ведаў сярод шырокіх мас трэба зьвярнуць увагу на разьвіцьцё лектарска-экскурсійнай працы краязнаўчых організацый. Кожная краязнаўчая організацыя павінна вылучыць з сябе лектарска-экскурсійнае бюро, у склад якога запрашаюцца прадстаўнікі ад ракомпартаў, культаддзелу РВК і мясцкомаў.

2. Лектарска-экскурсійныя бюро павінны распрацаваць пляны сваёй працы ў сельсаветах, прадпрыемствах, чырвонаармейскіх частках, клюбах і г. д. і ўвязаць працу, якую вядуць у гэтым кірунку працаўнікі Саюзу Працасьветы, Працземлесу, Мэдсанпрацы і інш.

3. Лектарская дзейнасьць павінна асьвятляць пытаньні прыроды, гісторыі і гаспадаркі краю, бытавыя асаблівасьці насельнікаў, пэрспэктывы разьвіцьця сельскай гаспадаркі і прамысловасьці, пэрспэктывы грамадзкай працы і іншыя пытаньні мясцовага значэньня.

4. Пры лекцыях і экскурсіях павінны быць выкарыстаны мясцовыя музэйныя матар'ялы.

5. ЦБК даручаецца выдаць дыяпозытывы па краязнаўству, якія маглі-б быць выкарыстаны лектарскімі сіламі краязнаўчых організацый і пашырыць іх сярод мясцовых організацый.

6. Краязнаўчыя організацыі павінны організоўваць экскурсіі па сваім раёне з мэтамі азнаямленьня з вынікамі краязнаўчай працы, з помнікамі прыроды з гаспадарчымі дасягненьнямі і прыкладамі архаічных формаў гаспадаркі, з прамысловасьцю і з хатнімі вырабамі.

## Рэзолюцыя па дакладу т. Фядзюшына аб прыродазнаўчым вывучэньні Беларусі.

Заслухаўшы даклад т. Фядзюшына на тэму: „Заданьні прыродазнаўчага вывучэньня Беларусі", Першы Ўсебеларускі Краязнаўчы Зьезд пастанаўляе:

1. Вывучэньне прыроды і яе вытворчых сіл прызнаць важнейшай галіной сучаснай краязнаўчай працы.

2. Лічыць абавязкова патрэбным для музэяў зьбіраць біолёгічныя колекцыі па батаніцы і зоолёгіі і наагул экспонаты па ўсіх галінах прыродазнаўства.

3. Зьбіраючы экспонаты мясцовай прыроды, асаблівую ўвагу зьвярнуць на лекавыя, тэхнічныя і іншыя карысныя расьліны.

4. Краязнаўчыя організацыі, выявіўшы карысныя выкапні і мінэральныя крыніцы паводле анкеты, зьмешчанай у № 2—3 „Нашага Краю" за 1925 г., перасылаюць дублеты карысных выкапняў і паведамленьні аб мінэральных крыніцах у ЦБК.

5. ЦБК павінна выдаць спэцыяльныя дакладныя інструкцыі па зьбіраньні батанічных і глебавых колекцый.

6. У кожным раёне трэба ўтварыць мэтэоролёгічную станцыю 3 разраду і наладзіць фэнолёгічныя назіраньні. Вынікі мэтэоролёгічных і фэнолёгічных нагляданьняў абавязкова перасылаць у ЦБК.

7. Пажадана, каб ЦБК, паколькі дазваляюць сродкі клапацілася аб задаваленьні ўсіх краязнаўчых організацый азначальнікамі расьлін, жывёлін і мінэраляў.

8. Карты, атрыманыя раённымі організацыямі, трэба павялічыць у 9 раз (аднавёрсны маштаб), выверыць іх, нанесьці на іх правільныя кірункі рэк, межы сельсаветаў, новыя паселішчы, дарогі, назвы ўрочышчаў і г. д. Паводле гэтых карт скласьці асобныя карты глебавыя, дэталізаваныя і праверaныя на месцы геоботанічныя, а таксама карты прамысловыя і іншыя.

9. ЦБК павінна выдаць умоўныя знакі для аднастайнасьці ў складаньні гэтых карт на мясцох.

10. Краязнаўчыя організацыі абавязваюцца зьбіраць народную тэрмінолёгію і номэнклятуру па ўсіх галінах прыроды, географіі і тэхнікі.

## Рэзолюцыя па дакладу С. Некрашэвіча: „Мовазнаўчая праца краязнаўчых організацый".

Першы Ўсебеларускі Краязнаўчы Зьезд, заслухаўшы даклад С. Некрашэвіча: „Мовазнаўчая праца краязнаўчых організацый", констатуе:

1. Мовазнаўчая праца ў сучасных умовах БССР мае надзвычайна вялікае культурнае значэньне.

2. Гэтая праца асабліва вялікае значэньне набывае ў зьвязку з апрацаваньнем беларускай літаратурнай мовы.

3. У цяперашні час заўважваецца, пад уплывам школы і па іншых прычынах, моцны процэс зьніканьня дыялектаў беларускай народнай мовы, які пагражае з увядзеньнем усеагульнага навучаньня поўным іх зьнікненьнем.

4. У зьвязку з беларусізацыяй школ і ўстаноў асаблівае значэньне набывае праца па зьбіраньні слоў з народнай мовы і ўкладаньні навуковых, практычных і спэцыяльных (тэрмінолёгічных) слоўнікаў.

5. Распачатая Слоўнікавай Камісіяй Інстытуту Беларускае Культуры праца, па ўкладаньні акадэмічнага слоўніка жывой беларускай мовы адпавядае настойным вымаганьням беларускага культурнага жыцьця.

6. Адсутнасьць практычных і спэцыяльных слоўнікаў зьяўляецца аднэй з важных перашкод для пасьпешнага правядзеньня беларусізацыі сярод дзяржаўных і грамадзкіх установаў БССР.

Дзеля вышэй паказанага Першы Краязнаўчы Зьезд БССР пастанаўляе:

1. Зьвярнуць большую ўвагу на вывучэньне беларускай мовы.

2. Шырака ўцягнуць у гэтую працу краязнаўчыя організацыі.

3. Апрацаваць і ў хутчэйшым парадку выдаць програмы для зьбіраньня беларускіх дыялектаў.

4. Павесьці самую шырокую агітацыю за зьбіраньне слоў з беларускай народнай мовы.

5. Зьвярнуць асаблівую ўвагу акруговых краязнаўчых таварыстваў як на неабходнасьць організацыі зьбіраньня акруговымі і раённымі таварыствамі слоў з народнай мовы, гэтак і на ўкладаньне краёвых слоўнікаў.

6. Прынятыя Слоўнікавай Камісіяй Інбелкульту прынцыпы для ўкладаньня слоўніка жывой беларускай мовы прызнаць правільнымі.

7. Прызнаць неадкладна патрэбным найхутчэйшае выданьне практычных расійска-беларускіх і беларуска-расійскіх слоўнікаў і навуковай тэрмінолёгіі.

## Рэзолюцыя па дакладу т. Гарэцкага аб зьбіраньні і апрацоўцы фольклёру.

Заслухаўшы даклад т. Гарэцкага на тэму: „Зьбіраньне і апрацоўка фольклёру", Першы Ўсебеларускі Краязнаўчы Зьезд пастанавіў:

1. Безадкладна распачаць дасьледваньне беларускага фольклёру як у цэнтры, так і на мясцох. Распрацоўку пляну гэтай працы даручыць Літаратурнай Камісіі і Музычнай Падсэкцыі Інбелкульту.

2. Безадкладна распачаць падрыхтоўку да друку сабраных матар'ялаў, зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на творы з тых мясцовасьцяй, якія яшчэ не прадстаўлены ў літаратуры данае галіны, і адшукаць для гэтага адпаведныя сродкі.

3. Шчыльней увязаць працу па зьбіраньні фольклёру з жыцьцём, падымаючы мастацкае і грамадзкае значэньне фольклёру ў вачох рабочых і сялян, організуючы народныя хоры, вечарыны з выступленьнямі народных сьпевакоў і г. д.

4. Лічыць патрэбным уцягненьне ў працу па зьбіраньні фольклёру спэцыялістых, мясцовых культурнікаў, студэнтаў БДУ, Сельска-Гаспадарчай Акадэміі, тэхнікумаў і інш. Для кіраваньня гэтай працай заклікаць профэсароў БДУ.

5 У працу краязнаўчых організацый па зьбіраньні фольклёру ўнесьці пляновасьць і сыстэматычнасьць шляхам заданьняў, плянаў, картограм і г. д.

6. Пры зьбіраньні фольклёру асаблівую ўвагу зьвярнуць на збор песьняў, гульняў і танцаў для дзяцей дашкольнага і школьнага ўзросту.

7. Надрукаваць програмы і інструкцыі для зьбіраньня фольклёру як для падрыхтованых, так і пачынаючых зьбіральнікаў.

8. Цэнтрам усяе працы па фольклёры лічыць Інбелкульт.

## Рэзолюцыя па дакладу т. Пятровіча на тэму: „Як весьці працу па вывучэньні гаспадаркі".

Заслухаўшы даклад т. Пятровіча на тэму: „Як весьці працу па вывучэньні гаспадаркі", Першы Ўсебеларускі Краязнаўчы Зьезд пастанавіў:

1. Прымаючы пад увагу, што вывучэньне народнае гаспадаркі мае вялікае дзяржаўнае значэньне і што да апошніх часоў гатая праца ня была досыць разгорнута, лічыць абавязкова патрэбным шырокае разьвіцьцё гэтае працы краязнаўчымі організацыямі, паставіўшы яе, як асобны від іх працы.

Краязнаўчае вывучэньне гаспадаркі павінна мець мэтай падрабязнае і дакладнае апісаньне дробных тэрыторыяльных адзінак (раён, сельсавет, вёска), а таксама і паасобных экономічных адзінак.

2. Першачарговымі заданьнямі для краязнаўчага вывучэньня лічыць наступныя:

а) сучаснае выкарыстаньне прыродных багацьцяў і пэрспэктывы разьвіцьця гэтага выкарыстаньня;

б) клясавае расслаеньне сучаснае вёскі;

в) аналіз прыбыткаў і выдаткаў асобных гаспадарак, ураджайнасьці, спажыцьця і г. д.;

г) апісаньне тэхнікі сялянскай гаспадаркі;

д) апісаньне тэхнікі і экономікі паасобных культур, асабліва новых;

е) вывучэньне сялянскіх промыслаў ды заработкаў;

ж) наглядаваньне дынамічных зьмен і тэндэнцый у разьвіцьці сельскае гаспадаркі;

з) апісаньне лясное гаспадаркі і эксплёатацыі лясоў;

і) вывучэньне мясцовай апрацоўчай прамысловасьці і яе сувязі з мясцовым сырцом;

к) гісторыя прамысловасьці данага раёну;

л) тэхніка і організацыя паасобных галін саматужнай прамысловасьці; карта саматужнай прамысловасьці;

м) абсьледваньне мясцовых рынкаў, асабліва кірмашоў;

н) экономічнае значэньне рэчак і наагул шляхаў зносін.

3. Прызнаць вельмі пажаданым закладаньне краязнаўчымі організацыямі сталых рахунковых запісаў у сялянскіх гаспадарках для вывучэньня іх бюджэту.

4. Зьвярнуць асаблівую ўвагу на патрэбу ўтварэньня і пашырэньня аддзелаў гаспадаркі і прамысловасьці ў раённых, акруговых і іншых музэях.

5. Цэнтральнае Бюро Краязнаўства павінна распрацаваць і выдаць інструкцыі і программы, патрэбныя для вывучэньня гаспадаркі.

## Рэзолюцыя па дакладу проф. Доўнар - Запольскага аб краязнаўчай працы ў галіне гісторыі і археолёгіі і па дакладу т. Мароза аб ахове помнікаў старасьветчыны.

Заслухаўшы даклад проф. Доўнар-Запольскага на тэму: „Краязнаўчая праца ў галіне гісторыі і археолёгіі" і інформацыю т. Мароза аб ахове помнікаў старасьветчыны, культуры, быту, прыроды і мастацтва на Беларусі, Першы Ўсебеларускі Краязнаўчы Зьезд пастанавіў:

1. Абавязаць краязнаўчыя організацыі: падлічыць, зрабіць апісаньне і зарэгістраваць усе помнікі старасьветчыны, якія знаходзяцца на іх тэрыторыі (гарадзішчы, замчышчы, селішчы, курганы і інш.) і давесьці аб іх да ведама Інбелкульту.

2. Прыняць адпаведныя меры да зьбіраньня такіх помнікаў старасьветчыны, якія знаходзяцца ў насельнікаў раёну з археолёгічных рэчаў, (як напр.: каменныя тапары, малаткі і інш. курганныя рэчы, ці монэты з скарбаў), якія і захоўваць у сваіх музэях згодна існуючага закону.

3. Перагледзець пытаньне аб рэштках старасьветчыны з часоў гістарычных, як старыя будынкі, прадметы мастацтва, могілкі, на якіх захоўваюцца монумэнты з надпісамі, а таксама наагул камяні-пісанікі. Дзе-б яны ні знаходзіліся, зарэгістраваць іх і давесьці да ведама Інбелкульту.

4. Канчаткова, у самым хуткім часе і не пазьней вясны гэтага году, праверыць, дзе знаходзіліся валасныя архівы, таксама сабраць весткі ці не захавалася дзе архіваў, альбо наагул папер і кніг зачыненых цэркваў, манастыроў, б. панскіх маёнткаў, зарэгістраваць іх і паведаміць тэрмінова аб выніках Інбелкульт праз ЦБК.

5. З погляду навуковай каштоўнасьці вывучэньня пляну старой вёскі з усімі зямельнымі ўжыткамі, якія знаходзіліся ў яе карыстаньні, пажадана сьпісаць плян (схэматычны) старое вёскі да рэформы 1861 г., у час рэформы 1861 г. і ў часы перад рэволюцыяй.

6. Краязнаўчыя організацыі на мясцох павінны мець самы бачны і няўхільны нагляд за тым, каб ня нішчыліся ніякія помнікі археолёгіі і наагул старасьветчыны, нікім, без дазволу належнай установы, не раскопваліся і не разбурваліся, не разорваліся сялянамі і ў выніках пагражаючай небясьпекі паведамляць Інбелкульт.

7. Зьвярнуцца ў належныя ўстановы з хадайніцтвам аб выданьні адпаведнага закону наконт аховы помнікаў старасьветчыны, мастацтва і прыроды.

## Рэзолюцыя па дакладах т. т. Мялешкі і Ракава аб вывучэньні быту.

Заслухаўшы даклады т. т. Мялешкі і Ракава аб вывучэньні быту, Першы Ўсебеларускі Краязнаўчы Зьезд лічыць патрэбным павесьці праз краязнаўчыя організацыі безадкладнае вывучэньне сучаснага беларускага быту; дзеля гэтага даручыць ЦБК выпрацаваць адпаведныя, кіраўнічага зьместу, інструкцыі для краязнаўчых організацый.

Гэтак сама Зьезд лічыць патрэбным вывучэньне бюджэту часу сялянства і абсьледваньне нізавога коопэрацыйнага апарату, якое праводзіцца Інбелкультам. Зьезд прапануе ўсім краязнаўчым організацыям прыняць актыўны ўдзел у паказаных працах.

# Бабруйская Акруговая Краязнаўчая Конфэрэнцыя.

20-21 лютага адбылася першая краязнаўчая конфэрэнцыя Бабруйскай акругі.

На конфэрэнцыі былі прадстаўлены 10 краязнаўчых організацый Бабруйшчыны з агульнага ліку 15 організацый, якія існуюць у сучасны момант у вакрузе.

Часткаю гэта можна растлумачыць тым, што дзень конфэрэнцыі быў абраны няўдала—у час заняткаў па школах. Некаторыя настаўнікі—кіраўнікі краязнаўчых організацый не маглі адлучыцца ў Бабруйск, а з другога боку, пасьля Ўсебеларускага Зьезду, магчыма, што некаторыя організацыі не спадзяваліся на Бабруйскай конфэрэнцыі даведацца аб чым новым.

Між іншым, не зьявіўся на конфэрэнцыю прадстаўнік маладога Жлобінскага раённага таварыства, якое яшчэ не зьвязалася з ЦБК і, зразумела, з гэтай прычыны ня было запрошана і на Ўсебеларускі Зьезд. Жлобінскі раён—адзін з найцікаўнейшых для краязнаўчай працы. Самы Жлобін, як важнейшы прамысловы асяродак Бабруйшчыны, заслугоўвае асаблівае ўвагі краязнаўцаў. У Жлобінскім раёне асабліва цікава было-б прасачыць прасяканьне новых уплываў на вёску з фабрыкі і з чыгункі.

З гэтай прычыны здаецца дзіўнай інэртнасьць Жлобінскага раённага краязнаўчага т-ва. На Бабруйскай конфэрэнцыі ўсё-ж варта было пабываць і жлобінцам.

Абгаварваліся на конфэрэнцыі галоўным чынам пытаньні аб тым, якога кірунку мусяць трымацца краязнаўчыя організацыі Бабруйшчыны.

Прадстаўнік акругкому т. Райсін, падкрэсьліў важнасьць краязнаўчай працы ў справе адбудаваньня народнай гаспадаркі і адзначыў, што краязнаўства мусіць падняць культуру шырокіх мас беларускай люднасьці. Важна, аднак, каб падымаючы і паглыбляючы беларускую культуру, краязнаўцы асьцерагаліся непажаданых ухілаў, падобных тым, якія былі адзначаны ў газэце «Праўда» ў артыкуле „Ня чую". Трэба ўцягваць у краязнаўчую працу нацменшасьці.

Прадстаўнік ЦБК т. Азбукін азнаёміў дэлегатаў з сучаснымі поглядамі на краязнаўства і прачытаў даклад аб працы ЦБК.

Аб зьбіраньні матар'ялу да слоўніка жывой мовы зрабіў даклад т. Харэвіч.

Затым прадстаўнікамі ад усіх організацый былі зачытаны справаздачы аб дзейнасьці гэтых організацый.

Ад імя Бабруйскага Акруговага таварыства здаваў справаздачу старшыня часовага праўленьня т. *Серафімаў*. З справаздачы выявілася, што Бабруйскае Акруговае таварыства, першы організацыйны сход якога адбыўся яшчэ ў траўні 1925 году, фактычна не пасьпела разгарнуць працу аж да кастрычніка. Улетку, калі настаўнікі—галоўныя організатары таварыства, разьехаліся, наладзіць працу было вельмі цяжка. У значнай меры прычынай павольнага разьвіцьця краязнаўчай працы ў акруговым цэнтры была адсутнасьць у горадзе такіх школьных устаноў павышанага тыпу, як тэхнікумы, якія звычайна былі асяродкамі краязнаўчага руху ў іншых акруговых гарадох.

12 кастрычніка адбыўся новы сход таварыства, які абраў новае часовае праўленьне і даручыў яму кіраваць працай сэкцый і раённых організацый. Сход намеціў шляхі далейшай працы і вызначыў склад прыродазнаўчай, этнографічнай ды гістарычна-архэолёгічнай сэкцый таварыства.

У сучасны момант у склад акруговага т-ва ўваходзіць 55 членаў, з якіх членаў УсеКП—12, членаў КСМ—1.

Па саюзах члены т-ва падзяляюцца так:— членаў саюзу працаўнікоў асьветы 49, саюзу прац. зямлі і лесу 4, мэдсанпрац 1, саўгандслуж. 1. У прыродазнаўчай сэкцыі працуе 20 членаў, у этнографічнай—22, у гіст.-арх.—13.

Адным з найважнейшых дасягненьняў таварыства зьяўляецца організацыя бабруйскага акруговага музэю, у якім ужо ёсьць каля 1000 экспонатаў.

У працу па зьбіраньні музэйных матар'ялаў уцягнуты вучні мясцовых школ і студэнцтва.

Музэй мае быць ня толькі зборам экспонатаў па мясцовай прыродзе і гаспадарцы, але будзе насіць характар лябораторыі з навучальным ухілам.

За справаздачны пэрыод часу адбылося 4 пасяджэньні прыродазнаўчай сэкцыі, 8 пасяджэньняў этнографічнай і 2 пасяджэньні гістар.-арх. сэкцыі.

Былі зачытаны даклады аб гісторыі гораду Бабруйску, аб беларускай мове ў параўнаньні з іншымі славянскімі мовамі і інш.

Чарговымі заданьнямі краязнаўства па Бабруйшчыне праўленьне т-ва лічыць: 1) уцягненьне членаў іншых (апроч Сапрацас) саюзаў, 2) пашырэньне працы сярод членаў КСМ і 3) ажыўленьне працы сярод нацменшасьцяй.

Сярод справаздач, зачытаных прадстаўнікамі раённых організацый, асаблівай увагі заслугоўваюць справаздачы т. Нямцова ад Асіпавіцкага раённага таварыства, т. Кларкіна ад Глускага, т. Мікіціна ад Клічаўскага т-ва і справаздача т. Курбыкі аб дзейнасьці Краснабярэскага гуртка пры Агропэдтэхнікуме.

*Асіпавіцкае т-ва*, як выявілася з дакладу т. Нямцова, падзяліла раён на падраёны і прымацавала кожны падраён да адпаведнай школы, якая зьяўляецца асяродкам краязнаўчай працы ў падраёне. Праз кожныя тры тыдні падраён паведамляе раённае т-ва аб праробленай працы.

Раённае т-ва мае гэктограф, каморніцкія прылады, тэрмомэтр і прылады, патрэбныя да мэтэоролёгічнай станцыі трэцяга разраду.

У карыстаньні т-ва ёсьць фотографічны апарат. Зьбіраньне слоў вядзецца шляхам даручэньня членам таварыства запісу назваў, зьвязаных з пэўным паняцьцем, напр. з паняцьцем „сані", „печка", „хата" і г. д.

*Глускае раённае т-ва* сабрала матар'ялы аб гісторыі м. Глуск, вывучае выраб стружкі, пашыраны ў мястэчку, сабрала многа экспонатаў для раённага музэю, асабліва старых монэт, старых кніг, узоры чырвонай хварбы, зьбіранай мясцовым сялянствам і г. д.

*У Клічаўскім т-ве* на належныя рэйкі пастаўлена праца па зьбіраньні слоўнікавых матар'ялаў, вывучаецца фаўна раёну, 'утвораны гурткі пры кожным сельсавеце.

*Краснабярэскі гурток* вядзе працу па вывучэньні Жлобінскага раёну, а таксама па падрыхтоўцы членаў гуртка да сталай краязнаўчай працы і па пашырэньні краязнаўчых ідэй сярод працоўнай люднасьці суседніх з Краснабярэскім Агропэдтэхнікумам вёсак. Між іншым у вёсцы Зьміёўцы па ініцыятыве студэнтаў—краязнаўцаў Агропэдтэхнікуму ўтворан асаблівы гурток краязнаўства, у склад якога ўвашло 50 чалавек сялян як моладзі, гэтак і дарослых, ня выключаючы жанчын.

Разгортваецца праца ў *Парыцкім* і *Гарадзецкім* раёнах, дзе сабраны ўжо некаторыя колекцыі да мясцовых музэяў.

У іншых раёнах праца яшчэ толькі распачынаецца.

